ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

5 ВЕРАСНЯ 2003 г. № 36/4222

***Генадзь ПАШКОЎ:***

**"У сённяшніх умовах ідэалагічная работа шмат у чым павінна грунтавацца на нашым багацейшым гістарычным матэрыяле, на важкіх набытках літаратуры, мастацтва, культуры".**

**2**



**Напярэдадні новага навучальнага года ва упраўленні адукацыі Мінгарвыканкама адбылася сустрэча дырэктараў мінскіх школ і гімназій, а таксама настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з супрацоўнікамі Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва". Тэма сустрэчы — "Літаратура і школа".**

**3**






# У святле СТАРАЖЫТНАЙ ЗЯМЛІ

***7 верасня ў Полацку пройдуць юбілейныя, 10-я па ліку, Дні беларускага пісьменства.***

стар. **7**

# КОЛА ДЗЁН

**На гэтым тыдні пачаўся новы навучальны год. А ў нядзелю ў старажытным Полацку адбудзецца святкаванне Дня беларускага пісьменства.**

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У нашай краіне 24 тысячы 502 юнакі і дзяўчыны сталі студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў. Гэта на 308 чалавек больш, чым у мінулым годзе. Сярод тых, хто папоўніў рады беларускага студэнцтва, — больш за 4 тысячы медалістаў, 521 пераможца розных прадметных алімпіяд, больш як 4 тысячы 800 выпускнікоў ліцэяў і гімназій. Акрамя таго, больш за 3 тысячы юнакоў і дзяўчат, якія сталі студэнтамі-"бюджэтнікамі", вучыліся ў сельскіх школах. А яшчэ 252 чалавекі — грамадзяне іншых краін. Пасведчанні аб праходжанні цэнтралізаванага тэсціравання прад'явілі ў гэтую ўступную кампанію больш як 11 тысяч 600 маладых людзей з агульнай колькасцю залічаных у ВНУ.

### ДАТА ТЫДНЯ

26 жніўня 1933 года (70 гадоў назад) была прынята пастанова Савета Народных Камісараў БССР "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу". На змену "тарашкевіцы" прыйшла "наркомаўка" — правапіс, якім, з невялікімі зменамі і папраўкамі, сёння мы і карыстаемся.

### ГАТОЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

13 верасня ў Мінску пройдзе святкаванне Дня горада. Урачыстае адкрыццё Дня адбудзецца на праспекце Машэрава, дзе будуць уручаны дыпломы і ганаровыя знакі "Мінчанін года". Свята пройдзе пад дэвізам "Мінск — жыцця майго крыніца". На сённяшні дзень усе мерапрыемствы звязаныя з падрыхтоўкай да свята, амаль завершаны.

### ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

У Гродне вядуцца будаўнічыя і рамонтныя работы, якія павінны завяршыцца да 20 верасня — менавіта ў гэты дзень горад будзе адзначаць сваё 875-годдзе. На свята запрошаны госці з Расіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Германіі і Літвы.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Побач з будаўнічай пляцоўкай Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў будучым будзе закладзены самы вялікі парк нашай сталіцы. Сімвалічны камень на месцы, дзе з'явіцца новы парк, будзе адкрыты ў верасні. Парк размесціцца за будынкам бібліятэкі на перасячэнні вуліцы Філімонава, Старабарысаўскага тракта і праспекта Скарыны і зойме каля 80 гектараў зямлі.

### ПОПЫТ ТЫДНЯ

Да канца 2003 года Мінскі аўтамабільны завод плануе прадаць у далёкае замежжа 2500 грузавых аўтамабіляў і аўтобусаў. У мінулым годзе МАЗ рэалізаваў у далёкім замежжы 1800 аўтамабіляў. Цяпер на заводзе прапрацоўваецца магчымасць пашырэння работы на афрыканскім рынку, у прыватнасці, у Анголе. У гэтым годзе асабліва актыўным гандлёвым партнёрам Мінскага аўтазавода была Румынія, якая закупіла 30 аўтобусаў, сертыфікаваных па экaнамічных нормах "Еўра-3". Адпраўлена 17 машын у краіны Балтыі. Аднак асноўным рынкам збыту тэхнікі маркі "МАЗ" з'яўляюцца краіны СНД.

### ВЫПРАБАВАННІ ТЫДНЯ

Першае грузавое судна айчыннай вытворчасці, выпушчанае на Гомельскім суднарамонтным заводзе, праходзіць выпрабаванні. Пасля выпрабаванняў плыўсродак класа "рака-мора" водазмяшчэннем 850 тон будзе запушчаны ў серыйную вытворчасць. Беларускім караблём зацікавіліся рачнікі Украіны. Патрабуе абнаўлення таксама айчынны рачны флот, зношанасць якога дасягнула 60 працэнтаў. Кошт субмарыны складзе прыкладна 300—350 тысяч долараў.

### ЗБОРЫ ТЫДНЯ

Лепшыя прадстаўнікі рэкламнага бізнесу нашай краіны, краін СНД і далёкага замежжа збяруцца ў Мінску 11—13 верасня, каб правесці фестываль рэкламы "Еўрапейская лінія — 2003". Ацэньваць конкурсныя рэкламныя работы па 7 намінацыях будуць кіраўнікі і крэатыўныя дырэктары вядомых рэкламных агенцтваў з Францыі, Англіі, Расіі, Украіны і Літвы.





# У ІМЯ НАШЫХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ІНТАРЭСАЎ

Тэрмін "ідэалогія" два стагоддзі назад увёў у навуковы ўжытак французскі філосаф і эканаміст А. Дэсцют дэ Трасі. У навуковым даследаванні "Элементы ідэалогіі, што ўмясцілася ў чатырох тамах і выйшла ў прамежку паміж 1801—1815 гадамі французскі мысліцель выкарыстоўвае слова "ідэалогія" для абазначэння навукі аб ідэях як асновы этыкі, маралі і палітыкі.

У новай універсальнай Беларускай энцыклапедыі ёсць вызначэнне ідэалогіі, як сістэмы поглядаў і ідэй, у якіх адлюстроўваюцца адносіны людзей да рэчаіснасці і якая заснаваная на веры ў ажыццявімасць сацыяльна значных патрэбнасцяў, інтарэсаў і мэт сацыяльных груп, класаў, партый і іншых суб'ектаў грамадскіх адносін.

**Дык хіба ж кепска, шаноўныя працўнікі ідэалогіі, калі народ мае выразныя жыццёвыя арыенціры, свой светапогляд, словам грунт, што складзены з вопыту і набыткаў папярэднікаў?**

У свой час на само разуменне "ідэалогія" паспешлівыя рэфарматары нацягнулі дзіравую марынарку агароднага пудзіла і яшчэ дасюль страшаць ім даверлівых суграмадзян.

Напрыканцы 90-х гадоў, яшчэ ў савецкі час, гэтага слова раптам нечакана засаромелася і самая ідэалагічная дзяржаўная ўстанова.

Ідэалагічны аддзел ЦК КПБ, дзе я тады працаваў, спешна пачалі перайменоўваць у гуманітарны аддзел, а штатных інструктараў называць кансультантамі. Само слова "ідэалогія" ўсё больш пачалі выкарыстоўваць выключна ў адмоўным сэнсе, нават тыя, хто ёй павінны быў займацца згодна з пасадай. Усё часцей дэкларавалася тады дужа моднае — "агульначалавечыя каштоўнасці", якім, дзе трэба і дзе не трэба надаваўся ўсемагчымы "прыярытэт". Ды і самой ідэалагічнай справай у тым ЦК пачалі кіраваць "тэхнары". Гэта кіраванне нярэдка атрымлівалася ў іх даволі забаўным. Ды і вядома, з гаечным ключом, нават калі ён рассоўны, у тонкую чалавечую душу лезці не варта. Тут больш прыдатныя не тэхнічныя інжынеры, а інжынеры чалавечых душ.

Словам, прычын для хадавых тады ярлыкоў накшталт "ідэалагічная зашоранасць", "ідэалагічны ўціск", "ідэалагічны маразм" хапала.

Камуністычная ідэалогія, з якой мы жылі доўгія дзесяцігоддзі і пад уплывам якой было выхавана не адно пакаленне, паступова станавілася не самай вызначальнай у нашым грамадстве. Вакуум, які яна пакідала пасля сябе, найчасцей запаўняўся не ідэямі і з'явамі светапогляднага характару, якія б жывілі грамадства, арыентавалі чалавека ў кіпучым віраванні новых жыццёвых праяў. Хоць бы згадаць, як ваяўніча пачало высмейвацца ўсё калектыўнае і непамерна ўзвышацца індывідуалістычнае, што было даспадобы і натхняла розных хапуг і прайдзісветаў, якія ў сваю чаргу сціплых і ашаломленых суграмадзян пачалі грэбліва называць "саўкамі". У прыклад ставіліся краіны з "росквітнай дэмакратыяй", дзе гэтай "абрыдлай ідэалогіі" нібыта і не было, а грамадскі лад і грамадзянскія ўзаемаадносіны будаваліся і рэгуляваліся на дасканалым праве і высакародным гуманізме. Малавыязным беларусам у гэта паверыць было не цяжка. Праўда, іншым разам душу вярэдзілі лёгкія сумненні, асабліва, як наглядзішся "баевіковага тэлебачання".

Прыгожыя, нязломныя духам і целам заакіянскія шварцнэгеры ашаламляльна эфектна праходзілі праз агонь, ваду і медныя трубы, геройчна крышылі на шляху ўсялякую непамыснасць. І гэта ўсё падкрэслена рабілі ў імя сваёй дзяржавы, яе шматзорнага сцягу.

Побач з гэтымі фільмамі ішлі нашы пакаяльныя скарасплекі з вартымі жалю, тупаватымі і занядбанымі савецкімі іванчонкінымі. І тут хочаш ці не хочаш, а з пачуццём сарамлівай крыўды за сябе і свой народ пачынаеш разважаць: а хіба ўсё гэта не ідэалогія, як з аднаго, так і з іншага боку? Толькі ў першым выпадку, яна працавала на імідж сваёй нацыі, сваёй вялікай дзяржавы, а ў другім выпадку аўтарытэт некалі таксама вялікай дзяржавы, дзе жыве бедалага-герой, саркастычна бурыўся паказам нікчэмнасці асяродку бытавання і паводзін дзеючых асоб.

Вядома ж, лакіроўка і прыхарошванне рэчаіснасці — далёка не лепшыя праявы ў літаратуры, мастацтве ды і ў самой ідэалогіі таксама, ва ўсім яе шматгранным комплексе. Любы прыхарошаны фальш нанясе большую шкоду, чым сумленна сказаная горкая праўда. Ды і як тут не згадаць вядомую англійскую прымаўку: "Добрая або кепская, але гэта мая краіна! І будзе маёй заўсёды!"

Менавіта з усведамленнем канкрэтным чалавекам сваёй прыналежнасці да зямлі, дзе нарадзіўся, да народа, сярод якога вырас і жывеш, з ведання і разважлівага асэнсавання сваёй гісторыі ў яе гераічных і трагічных праявах, са спасціжэння сваёй нацыянальнай культуры, народных традыцый, усталяваных вякамі, што ніяк не менш значныя, чым тыя шырокаабвешчаныя "агульначалавечыя каштоўнасці", — і пачынаецца якраз ідэалогія. Не лозунгава-дэкларатыўная, а тая, што ідзе ад самога жыцця, ад душы чалавека.

Мне здаецца, што якраз гэта і вызначае жыццестойкасць любой ідэалогіі.

У ідэалогіі дзяржаўнасці заўсёды выключнае месца адводзіцца гісторыі. Невыпадкова, будуючы ідэалагічную праграму, нярэдка розныя партыі і плыні прыстасоўваюць некаторыя гістарычныя факты і падзеі пад напрамкі сваёй дзейнасці, што часам прыводзіць да пэўных падтасовак і скажэнняў.

Пра тое, што гісторыя магутны ідэалагічны рычаг сведчыць хоць бы такі факт. У СССР, калі ўжо адчуваўся подых Другой сусветнай вайны, адзін за адным выйшла цэлая серыя патрыятычных фільмаў створаных на гістарычным матэрыяле. Выпуск такіх фільмаў працягваўся і ў час вайны. У 1941 годзе на экране з'явілася кінастужка "Суворау", у 1942-м — "Сакратар райкома". у 1943-м — "У шэсць гадзін пасля вайны", а таксама "Кутузаў". А перад гэтым, у 1943 годзе выйшаў фільм "Катоўскі".

А вершы ды публіцыстыка беларусаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, рускіх Міхаіла Шолахава, Аляксея Суркова, Канстанціна Сіманава, дзесяткаў іншых літаратараў рэспублік краіны. А выязныя канцэрты артыстаў на фронт, у шпіталі — гэта ўсё працавала на тагачасную ідэалогію, на вялікую ідэю Перамогі.

**Думаю, што і ў сённяшніх умовах ідэалагічная работа шмат у чым павінна грунтавацца на нашым багацейшым гістарычным матэрыяле, на важкіх набытках літаратуры, мастацтва, культуры. Якраз у гэтым мінулы вопыт варты творчага пераймання. Ігнараваць гэты багацейшы духоўны пласт проста недаравальна, бо інакш вынікаў станоўчых не будзе ніякіх.**

Духоўны ж арсенал, што можа вельмі прыдацца ідэалагічнай рабоце ў нас агромністы. Як чалавек, які звязаны з падрыхтоўкай і выданнем нацыянальнай энцыклапедычнай літаратуры, магу нагадаць асобныя, яшчэ ва ўсю моц незапатрабаваныя каштоўнасці, якія могуць добра паслужыць нашай ідэалогіі, напоўніць яе багацейшым духоўным зместам, нацыянальнай адметнасцю.

Цяпер на стадыі завяршэння 18-і томная універсальная "Беларуская энцыклапедыя", якая сталася духоўным мосцікам паміж двума стагоддзямі і нават тысячагоддзямі. Гэты сістэматызаваны энцыклапедычны даведнік змяшчае самыя разнастайныя звесткі па ўсіх галінах ведаў, назапашаныя чалавецтвам. У ім кожны знойдзе адлюстраванне найважнейшых падзей гісторыі і сучаснага грамадска-палітычнага жыцця. Змешчаны тут звесткі пра найбольш значных дзеячаў усіх народаў самых розных эпох. Дарэчы прыгадаць, што на постсавецкай прасторы з новай нацыянальнай энцыклапедыяй уступілі ў новую эпоху толькі беларусы. Толькі наша дзяржава мае такое грунтоўнае выданне, дзе ўсе падзеі свету разглядаюцца праз прызму нашага нацыянальнага бачання, вачыма беларусаў.

Багатай крыніцай інфармацыі ў ідэалагічнай рабоце павінна, як мне здаецца, стаць яшчэ адно унікальнае ў міжнародным маштабе выданне — шасцітомная "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі". Такога збору кніг сёння няма ні ў кага з нашых блізкіх і не вельмі блізкіх суседзяў. Памятаю, як два гады таму ўдзельнічаў у прэзентацыі першага тома літоўскай энцыклапедыі ў Вільнюсе. Літоўскім калегам я тады падарыў некалькі тамоў нашай гістарычнай. З якім захапленнем і яны і іншыя ўдзельнікі ўрачыстасці з ліку вучоных, грамадскіх дзеячаў успрынялі сам факт выхаду ў беларусаў унікальнай серыі. Мы ж пачыналі працаваць разам: мы над сваёй гісторыяй, яны над сваёй. І вось у нас шэсць тамоў, а ў іх пакуль што задумкі.

Я назваў толькі два грунтоўныя выданні апошніх гадоў. А колькі іх выйшла раней! І ўсё гэта наш запаты запас, які яшчэ варта выкарыстаць на ўсю магутнасць.

Сёння, як мне бачыцца, надышла пара распрацаваць і выдаць яшчэ адно грунтоўнае беларускае выданне — шматтомную (а яна можа быць з шасці кніг) энцыклапедыю "Рэспубліка Беларусь". Такая энцыклапедыя можа стаць, без перабольшання, пашпартам нашай дзяржавы.

Падобная энцыклапедыя выдавалася ў савецкі час у пяці тамах. Называлася яна "Беларуская ССР". Выйшла на беларускай і рускай мовах. З тае пары мінула больш дваццаці гадоў і само сабой просіцца якасна новае выданне, з новымі падыходамі, поглядамі, бо нас ад той пары аддзяляе цэлая эпоха.

Для мяне пытанне: патрэбная ці непатрэбная ідэалогія сённяшняй Беларусі — рытарычнае. Яна патрэбная. Якасна адрозная ад мінулай ідэалогіі, скіраваная на нашы нацыянальныя інтарэсы, на нашу дзяржаўнасць, на кожнага чалавека, які жыве на зямлі Беларусі. І тут вельмі важна — і яна, ідэалогія, можа ў тым паспрыяць, — каб кожны душою адчуў:

*Радаспоўную я*
*найвялікшую маю.*
*Я граніт у папях,*
*быццам кнігу,*
*гартаю.*

*Мне высокі закон*
*для жыцця і сумлення*
*гартавала спакон*
*не адно пакаленне*
*на сіберных ветрах,*
*на крывавых разорах.*

*Разпілася зара*
*па граніце,*
*па зорах,*
*бо за ўсё заплаціў*
*род суровую платай:*
*шчыравалі наўздзіў*
*разнамасныя каты!*

*Меней дбаў аб сабе*
*і па норах не ныкаў,*
*а ў цяжкой барацьбе*
*стаў Народам Вялікім...*

*Я спасцігнуў свой род.*
*Ганарыцца ёсць права.*
*Хто такія?*
*Народ.*
*Хто такія?*
*Дзяржава.*

**Генадзь ПАШКОЎ**

***Напярэдадні новага навучальнага года ва упраўленні адукацыі Мінгарвыканкама адбылася сустрэча дырэктараў мінскіх школ і гімназій, а таксама настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з супрацоўнікамі Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва". Тэма сустрэчы — "Літаратура і школа".***

# НАМ ВЫХОЎВАЦЬ ПАТРЫЁТАЎ КРАІНЫ



Адкрыў і вёў сустрэчу старшыня камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў. У сваім выступленні ён падкрэсліў наколькі важная гэтая сустрэча паміж людзьмі, якія не на словах, а на справах шмат робяць, каб наша родная мова гучала не толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры ці ў рэдакцыях, дзе працуюць пісьменнікі, але каб яна была не чужой для кожнага жыхара нашай краіны. З выступлення М. Ціцянкова прысутныя змаглі даведацца, што на сённяшні дзень у Мінску 254 школы, у якіх вучыцца 220 тысяч вучняў і якім прадстаўлены самы шырокі выбар для навучання. У мінулым годзе 62 працэнты выпускнікоў мінскіх школ сталі студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў і 13 працэнтаў навучэнцамі сярэдніх спецыяльных. У Мінску 12 беларускамоўных школ. Сярод іх чатыры беларускамоўныя гімназіі. У 560 беларускамоўных класах вучыцца звыш 12 тысяч вучняў. А ў перспектыве ў Мінску можа быць і трынаццаць, і чатырнаццаць, і больш беларускамоўных школ—галоўнае былі б жадаючыя ў гэтых школах вучыцца. Выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, як было адзначана М. Ціцянковым—гэта энтузіясты, якія нягледзячы на цяжкасці ў працы, аддаюць усе свае сілы і талент педагога на выхаванне нашай моладзі. Зусім нядаўна не хапала выкладчыкаў беларускай мовы, а цяпер іх больш, чым патрэбна. А гэта значыць, што выпускнікі нашых школ выбіраюць прафесію сваіх любімых настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. У гарадскіх улад сёння вельмі добрае стаўленне да беларускіх школ. Да прыкладу, гімназію № 23, якая з'яўляецца беларускамоўнай, пад асабістаю апеку ўзяў мэр Мінска Міхаіл Паўлаў.





Ніна Самедава загадчыца кабінета беларускай мовы і літаратуры Мінскага інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых кадраў работнікаў адукацыі ў сваім выступленні расказала пра новыя тэхналогіі навучання, якія, на жаль, пакуль што вельмі цяжка прыжываюцца ў школе. Інстытут павышэння кваліфікацыі і быў створаны, каб дапамагаць настаўнікам, якія раз у пяць гадоў праходзяць спецыяльныя курсы. На сённяшні дзень у Мінску 87 працэнтаў настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй, астатнія заканчваюць ВНУ. Словам, кадрамі нашы школы забяспечаны. Школьныя бібліятэкі выпісваюць літаратурныя выданні, арганізоўваюцца сустрэчы з пісьменнікамі. І гэтыя сустрэчы карысныя не толькі для настаўнікаў і вучняў, але і для саміх пісьменнікаў, якія могуць даведацца чым і як жыве сучасная школа. Н. Самедава выказала агульнае пажаданне настаўнікаў і пісьменнікаў, каб у нашых школах больш увагі надавалася сучаснай літаратуры. Трэба і асабліва ў малодшых класах, каб вывучалася літаратура прыгодніцкага характару, на гістарычную тэматыку, бо такія творы абуджаюць у дзяцей любоў да роднай зямлі і цягу да чытання.

Намеснік дырэктара Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" Павел Вераб'ёў расказаў прысутным пра выданні, якія рыхтуе да друку і выпускае холдынг. Ім было адзначана, што матэрыялы, якія друкуюцца ў часопісах і ў "ЛіМе", скіраваны на патрэбы нашых школ і супрацоўнікі РВУ "Літаратура і мастацтва" заўсёды рады парадам настаўнікаў, бо настаўнік перш за ўсё — выхавацель чалавечых душ.



Галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі ў сваім выступленні, гаворачы пра ролю настаўнікаў у нашым жыцці, у прыватнасці сказаў: " Літаратура гэта не пустая забаўка. Бо без кнігі, без яе прачытання няма чалавечай асобы. Адсутнасць кнігі дзейнічае на разбурэнне душы, на яе дэградацыю. Калі школьнікамі здзяйсняюцца злачынствы, то значыць тут не дапрацавала слова, літаратурнае слова. Беларуская літаратура—гэта тая абарончая зброя, якая трымае чалавека ў полі духоўнай і душэўнай раўнавагі. Многія сёння гавораць, што літаратура аджывае сваё. Не, гэта аджылі сродкі прапаганды літаратуры. Падмурак дзяржаўнай ідэалогіі—гэта наша духоўнасць, наша годнасць, нашы карані. Толькі спазнаўшы саміх сябе, мы станем цікавымі камусьці ў свеце, адкрыўшы сваю душу, мы прывабім да сябе свет. І сённяшняе духоўнае паяднанне настаўнікаў і пісьменнікаў павінна перайсці ў канкрэтныя справы. Шкада, што ў школьных бібліятэках не заўсёды можна ўбачыць нашы літаратурныя выданні. І ўсё ж мы разам працуем на будучыню нашай дзяржавы. Добра, каб у школах былі факультатыўныя ўрокі па творах, якія друкуюцца ў нашых часопісах і газеце "Літаратура і мастацтва". Мы з радасцю прыйдзем на такія ўрокі і дапаможам вам іх правесці. Мы ўсе пачыналіся са школ. Не было б настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, не было б і нас пісьменнікаў. Пройдзе час і пра нас будуць успамінаць па тым, што мы зрабілі для гэтай зямлі. Будзем рабіць сваю справу сумленна тады і наступіць духоўны росквіт усяго нашага грамадства".

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 9 Інэса Андрыянава ў сваім выступленні сказала: "Задача настаўнікаў—узгадаваць далей тое добрае зерне духоўнасці, якое ўжо ёсць у душах дзяцей пасеянае бацькамі і дзіцячымі садкамі. Я працую ў беларускамоўнай школе і я не ведаю ніводнага вучня, якому была б нецікавая родная мова і літаратура. Для росту духоўнасці лічу патрэбным павялічыць гадзіны для вывучэння беларускай літаратуры, а таксама вярнуць абавязковы экзамен па літаратуры..."



Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова, падзяліўшыся трывогай пра тое, што ў некаторых вясковых школах у класах засталося па дзесяць вучняў, а то і меней напомніла: "На настаўніках і на пісьменніках ляжыць вялікая адказнасць за тое, каго мы выхаваем. Захад праз расійскія тэлеканалы нам скідвае фільмы пра забойствы, пра гвалт. Мы павінны супрацьстаяць гэтай бездухоўнасці. Мы павінны імкнуцца да прыгожага, да свайго, беларускага. І тут патрэбна літаратура, якая дапаможа выхоўваць моладзь. Кніжкі цяпер выходзяць нечаста, таму варта сучасную літаратуру браць у нашых часопісах і газеце "ЛіМ" і гэтыя выданні павінны быць у кожнай школе нашай краіны".

У сваім выступленні галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Ніна Чайка, расказаўшы пра сваё выданне, выказала непакой аб тым, што мы цяпер мала ведаем пра тое, што адбываецца ў літаратурным жыцці краін, якія знаходзяцца побач, а пра далёкае замежжа і ґаварыць няма чаго. Н. Чайкай было адзначана, што нашы літаратурныя часопісы год назад сталі зусім іншымі і яны сёння больш арыентуюцца на людзей, якія нясуць духоўнасць. Наша задача выходзіць за беларускую прастору. І таму нядаўна была падпісана дамова аб супрацоўніцтве з "Нашым современником".

Дырэктар гімназіі № 23 Ніна Нікіціна падзялілася вопытам сваёй працы ў гімназіі, якую працоўны калектыў хоча зрабіць адной з самых лепшых навучальных устаноў нашай краіны. У прыватнасці яна сказала: "Для таго, каб наша гімназія была самай лепшай у краіне ёсць усе падставы—гэта і настаўнікі, і вучні, і дзейсная дзяржаўная падтрымка. У гімназію часам прыходзяць людзі, якія прыехалі на сталае жыхарства ў нашу краіну і гавораць: "Я не ведаю беларускай мовы, але мне хацелася б, каб маё дзіця, нарадзіўшыся на гэтай зямлі, ведала мову гэтай зямлі, народныя традыцыі, гісторыю і было патрыётам нашай краіны." І гэтыя словы даюць нам надзею, што беларускае слова жыве і будзе жыць."

Галоўны рэдактар часопіса "Всемирная литература" Генадзь Бубнаў, расказваючы пра свой часопіс, заклікаў прысутных не блытаць "Всемирку" з "Иностранной литературой", бо наш часопіс самастойны і ён паказвае беларускую літаратуру ў кантэксце сусветнай. Выказваючы шкадаванне, што ў бібліятэках многіх навучальных устаноў адсутнічаюць нашы літаратурныя выданні, Г. Бубнаў заклікаў усіх прысутных да цеснага супрацоўніцтва.

Галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Віктар Шніп, дзелячыся рэдакцыйнымі планамі, расказаў пра працу холдынга з маладымі паэтамі, празаікамі і крытыкамі, узгадаўшы пры гэтым Рэспубліканскі семінар маладых літаратараў, які быў праведзены ў сакавіку гэтага года сумесна з Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. На сённяшні дзень ужо год пры "ЛіМе" працуе суполка маладых літаратараў "Літаратурны квартал", на пасяджэнні якога прыходзяць не толькі студэнты ВНУ, але і школьнікі. Так свае першыя творы выпускніца беларускамоўнай гімназіі № 23 Дар'я Лосева надрукавала на старонках "ЛіМа". Гаворачы пра гэта, В. Шніп папрасіў настаўнікаў, у школах якіх ёсць вучні, што спрабуюць свае сілы ў літаратуры, накіраваць дзяцей у "Літаратурны квартал" штотыднёвіка.

Сустрэча дырэктараў школ, гімназій, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з супрацоўнікамі Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" цягнулася амаль дзве гадзіны. І ў сваіх выступленнях усе прыходзілі да аднаой думкі — без беларускай літаратуры, а тым больш сучаснай беларускай літаратуры, якая друкуецца на старонках часопісаў і газеты, якія выдае Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва" ніколі не вырасце духоўнабагатай наша моладзь, таму выданні РВУ "ЛіМа" павінны быць у кожнай школьнай бібліятэцы. Закрываючы сустрэчу, М. Ціцянкоў сказаў: "Гэта наша першая сустрэча. Такія сустрэчы мы павінны зрабіць традыцыйнымі, каб нам ведаць чым жывуць пісьменнікі, а вы ведалі, чым жывуць настаўнікі і іх вучні. І мы, работнікі адукацыі, павінны зрабіць усё, каб у кожную школьную бібліятэку прыйшлі нашы літаратурныя часопісы і газета "Літаратура і мастацтва". Мы ж ад пісьменнікаў чакаем новых высокамастацкіх твораў, якія будуць нам дапамагаць у выхаванні патрыётаў нашай краіны, Рэспублікі Беларусь".

**Н.К.**

# ДАГАВОР АБ ТВОРЧЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

**У апошні час нарадзіліся плённыя кантакты паміж рэдакцыямі часопісаў "Наш современник" (Масква) і "Нёман" (Мінск). Разумеючы неабходнасць усебаковага ўсталявання братняга супрацоўніцтва нашых краін і народаў напярэдадні стварэння Саюза Расіі і Беларусі, прымаючу пад увагу шматгадовыя плённыя творчыя сувязі рускай і беларускай літаратур, зыходзячы з вопыту прамых стасункаў, рэдакцыі часопісаў "Наш современник" і "Нёман" заключылі дагавор аб узаемным супрацоўніцтве і ўмацаванні творчых кантактаў. Дакументам, які падпісалі галоўныя рэдактары абодвух выданняў Станіслаў Куняеў і Ніна Чайка, прадугледжваецца наступнае:**

**1. Штомесячны абмен выдадзенымі нумарамі сваіх часопісаў для ўзаемнага азнаямлення.**

**2. Штогодні мэтавы выпуск нумароў, частка якіх будзе складацца з лепшых публікацый абодвух часопісаў (проза, паэзія, публіцыстыка) пад умоўнай рубрыкай: "У нас у гасцях часопіс..."**

**3. Для падрыхтоўкі мэтавых выпускаў рэдакцыі фарміруюць рабочыя брыгады ў ліку сваіх супрацоўнікаў з мэтай вырашэння ўсіх пытанняў у Мінску і Маскве.**

**4. Рэдакцыі часопісаў наладжваюць прэзентацыі сваіх мэтавых выпускаў адпаведна ў Маскве і ў Мінску з удзелам вядучых аўтараў.**

**5. Рэдакцыі своечасова абменьваюцца матэрыяламі, якія раскрываюць прынцыпова важныя праблемы стварэння і ўмацавання Саюза Расіі і Беларусі і апературна публікуюць іх пасля ўзаемнага ўзгаднення.**

**6. Рэдакцыі заснуюваюць сумесную штогодную прэмію за лепшы твор, прысвечаны дружбе рускага і беларускага народаў, умацаванню Саюза Расіі і Беларусі.**

**7. Дагавор мае сілу з 1 верасня 2003 года і дзейнічае пастаянна.**

**Безумоўна, кантакты з вядучым расійскім выданнем і плануемая сумесная работа паспрыяюць ажыццяўленню высокай мэты саюзнага будаўніцтва, зробяць часопіс "Нёман" яшчэ больш цікавым, змястоўным, надзённым. Гэта яшчэ больш пасадзейнічае развіццю літаратурнага працэсу ў Беларусі, узбагачэнню нашай літаратуры. А ў рэшце рэшт ад гэтага выйграюць нашы чытачы, нашы падпісчыкі, для якіх часопіс будзе больш надзейным, дзейсным духоўным апірышчам у віры сучаснага жыцця.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**



# НЕ АДЦУРАЦЦА СВАІХ КАРАНЁЎ

У свой час мы вельмі моцна і безкампрамісна паверылі класікам марксізму-ленінізму, што "бытие формирует сознание". І гэта пры тым, што да гэтага вучэння мы мелі тысячагадовую хрысціянскую мараль, якая сцвярджае зусім іншае, усё ды наадварот. Ні ў адной краіне свету спажывецкая, а дакладней "каўбасная" ідэалогія (спярша народу каўбаса, а потым усё іншае...) не была і не магла быць дамінантай, і не таму, што народ патрабуе: хлеба і відовішчаў (як лічаць некаторыя), а таму, што чалавек істота здольная да мыслення.

Зразумела, што эканамічныя праблемы ўздзейнічаюць і на канкрэтнага чалавека, і на супольнасць людзей, аб'яднаных межамі адной дзяржавы. Але ж гэтае ўздзеянне ні настолькі моцнае, каб прымусіць нас адцурацца сваіх каранёў і пайсці ў свет, пайсці туды, дзе "ўлежна і ўежна".

(Зрэшты, той, хто хацеў лепшай долі, даўно з'ехаў. Толькі ж ці "соладка" ім ТАМ?)

І ўсё ж, што нас трымае, што прымушае не шукаць, а рабіць, будаваць лепшую долю тут, на сваёй беларускай зямлі? На маю думку, гэта любоў да роднага краю, гэта адказнасць перад мінулымі і будучымі пакаленнямі (адказнасць перад бацькамі і дзецьмі), гэта гонар за гістарычнае мінулае, за гістарычны шлях беларускага народа, гонар за тое, што на гэтым нялёгкім, пакручастым шляху нашы продкі не згубілі мову, не адцураліся сваіх традыцый, не растварыліся ў шматмоўным свеце.

І як вынік, сёння мы маем сваю дзяржаву — Рэспубліку Беларусь!!!, канечне, зразумелы клопат кіраўніцтва дзяржавы, бо захаваць рэспубліку зможам толькі тады, калі і нашы нашчадкі будуць адчуваць і жыць з любоўю, адказнасцю, гонарам.

Але ж як гэта зрабіць ва ўмовах інтэнсіўнай ідэалагічнай экспансіі як з Усходу так і з Захаду? Як захаваць сябе беларусамі? Што зрабіць, каб не асіміляваўцца ў чыйсьці прыдатак з назвай "край"? Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба вырашыць наступнае:

— На якой ідэі змогуць аб'яднацца і палітыкі, і грамадскія дзеячы, і чыноўнікі, каб зрэшты зразумець, што Беларусь наш дом і яго трэба будаваць агульнымі намаганнямі, а не бурыць тое, што маем!

Што зможа аб'яднаць пісьменнікаў, журналістаў, мастакоў, настаўнікаў, навукоўцаў?

Наш народ настолькі памяркоўна-мудры (можа, нават, і занадта), што заўсёды адрапартуе і скажа тое, што хоча пачуць "начальства", але ж зробіць па-свойму!

Вось і выходзіць, што талент, асабліва чыноўніцкі, сёння павінен праявіцца ў разуменні патрэб народа.

І цяпер галоўнае.

Чалавек нарадзіўся, пачаў хадзіць, потым гаварыць. Гэта ўсё на бацькоўскіх плячах. А вось на наступным этапе ў работу ўключаюцца (ці павінны ўключыцца) асноўныя ідэалагічныя сілы дзяржавы. Так, менавіта ідэалагічныя, бо дзіця вучыцца бачыць свет, разумець дабро і зло.

**І тут нічога не зробіш, бо што чытаюць нашы дзеці і ўнукі, на якіх кніжках яны растуць, у якім інфармацыйным полі жывуць — гэткія погляды і будуць мець.**

Відавочна, што першую ролю ў выхаванні патрыятычных поглядаў мае СЛОВА. Слова прачытанае і слова пачутае. Застаецца толькі, каб мы знайшлі тыя адзіныя словы і зрабілі ўсё, каб іх пачулі!

**Віктар ПРАЎДЗІН**

# ЖЫЦЬ І ПРАЦАВАЦЬ РАЗАМ

Пытанне ўпарадкавання ідэалагічнай работы як быццам і не пытанне. Ніякім чынам і нікуды ідэалагічная работа не знікала. Іншая справа, што па-рознаму розныя людзі з рознымі пасадамі называлі і называюць сваю работу з людзьмі. Жаданне творчага люду абмежаваць свае памкненні да дыялога з сучаснікам межамі "чыстага мастацтва" — вялікі самападман. Творчая бяззубасць, альбо "ціхая" апазіцыя — горшая форма існавання для літаратара.

Не падабаецца камусьці блізкі, нядаўна мінулы савецкі час, калі, маўляў, усім запраўляла ідэалогія, яе руплівыя, то зазірніце крыху далей — у XIX стагоддзе. І там была свая ідэалогія. Не толькі ў кіруючай вярхушкі, не толькі ў барацьбітоў з царызмам, не толькі ў партый, груповак ці рухаў паасобку. Але — ідэалогія ці яе пошук былі ў Глеба Успенскага, белетрыстыцы Уладзіміра Караленкі, паэзіі і рэдактарскай дзейнасці Мікалая Някрасава... Шэраг можна доўжыць. Як можна, між іншым, прывесці і беларускі шэраг. І беларускую "Нашу Ніву" назваць, якая, развіваючы і засноўваючы маладую беларускую літаратуру, на пачатку XX стагоддзя была яшчэ і газетай сацыяльнай, скіраванай на людскія клопаты.

У гэтым і бачыцца, і разумеецца ідэалагічнае, палітычнае, грамадскае прызначэнне пісьменніка — быць у клопатах народа, быць сацыяльным лекарам, ніколькі не ўзвышаючыся над ім, а жывучы і працуючы разам, калі хочаце, размаўляючы на адной з ім мове.Усё астатняе — выданні і перавыданні, прэміі і гранты і іншае, што не заўсёды мае прамую сувязь са словам, яго дакладнасцю, трапнасцю, прыйдзе само па сабе. А калі не прыйдзе, то мо і няма ў гэтым сэнсу?

І зноў жа сёння шмат гавораць пра вёску, пра сутнасныя змены ў самім характары калгаснага ладу. Калі гаварыць пра літаратуру як сацыяльную і ідэалагічную службу народа, то ці заўважыла яна сёння тое, што робіцца ў вёсцы, ці здолела разабрацца ў тых прагнозах, рэалізацыі якіх варта чакаць, тых праектах і пражэктах, якія выбудоўваюць і вымалёўваюць вучоныя і палітыкі для вёскі. Пытанне, канечне ж, рытарычнае.

Спробы ж некаторых "палітыкаў" раздзяліць творчую інтэлігенцыю на тых, хто з нас болей ці меней любіць Беларусь — нічога агульнага з ідэалогіяй не маюць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# ІДЭАЛОГІЯ БЕЗ ЛІТАРАТУРЫ... НЕШТА НОВАЕ

Тое, што пісьменнікі на старонках "ЛіМа" пачалі гаворку пра ідэалогію, асабіста мяне, як чытача, абнадзейвае: нарэшце, можа, сур'ёзна задумаемся аб лёсе роднага слова, яго месцы ў грамадстве.

Здаецца, за апошнія гады яно, слова гэтае, неймаверна аддалена ад жыцця. Хаця, калі ўспомніць, як расійскія рэгіянальныя журналісты, з якімі сустракаўся кіраўнік дзяржавы, захапляліся, што ў нас дзяржава "поддерживает литературу и искусство, таланты на самом высоком государственном и политическом уровне", здаецца, што не ўсё ў нас так ужо і кепска. Так, падтрымлівае. Больш таго, не адштурхоўвае ад сябе, шукае магчымасці знайсці паразуменне з тымі творцамі, якія (іх чалавечае і мастакоўскае права), не з усім, тым што робіцца ў краіне згодны. І гэта зразумела: працэсы станаўлення не дадуць належнага плёну, калі ў грамадстве не будзе рознасці думак адносна тых або іншых з'яў, калі, скажам, вакол палітычнага і іншага кіраўніцтва краіны будзе толькі адна пазіцыя: "Что изволите?" (Ведаем, пошук ісціны заўсёды пакутлівы і супярэчлівы. Тым больш ён неабходны і ў канкрэтным выпадку: якая павінна быць ідэалогія дзяржавы, каб вакол яе згуртаваць усё насельніцтва).

Да ўсяго таксама нагадаю, што пры розных нязгодах з пэўнай часткай нашай інтэлігенцыі, кіраўнік дзяржавы неаднойчы шчыра заяўляў, напрыклад, што ён, як і ўсе мы, выхоўваўся на лепшых творах беларускай літаратуры, і як настаўнік па адной са сваіх адукацый, ведае што гэта такое. А калі ўжо браць далей, дык яго бескампрамісныя сцвярджэнні, як Прэзідэнта краіны, што мастацтва (а значыць і літаратуру) ён разглядае як важнейшы стратэгічны рэзерв краіны, дык гэта трэба ўсім чыноўнікам, усім, хто звязаны з адукацыяй, культурай, літаратурай лічыць, як пажаданне да канкрэтных дзеянняў у данным кірунку..

Што ж да «чего изволите?», дык як сцвярджае жыццё найчасцей яны сваёй бяздумнасцю прыносяць шкоду, як асабіста таму, хто нібы "изволит", і ў рэшце рэшт грамадству ў цэлым. Бо гэтыя людзі звычайна заклапочаны сваім асабістым, а там "хоць трава не расці"... Мабыць, таму ў самай рознай прэсе час ад часу з'яўляюцца правакацыйныя артыкулы, мэта якіх адлучыць пісьменнікаў ад тых працэсаў, што адбываюцца ў жыцці дзяржавы. Мабыць, хтосьці захоча абняславіць літаратуру, ды найбольш таленавітых і паважаных у народзе, краіне, за яе межамі дзеячаў літаратуры, і, як кажуць, убіць "клін" між пісьменнікамі і дзяржавай, што, на жаль, бачна і сёння. Зрэшты, псіхалогія такіх "зычліўцаў" добра даследавана літаратурай, у тым ліку і нашай. Калі браць творы апошняга часу, гэта найперш апавяданне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, празаіка Генрыха Далідовіча "Вошыкаў". Вось дзе "прырода", механізм...

Яны, як ведаем, яшчэ са школы, вядома ж , зноў найперш праз літаратуру, не здольны ні на якія стваральныя ініцыятывы. Ні ў адной жыццёвай сферы. Тым больш у духоўнай. Іх "удел" — бяздумнае імкненне да разбурэння, што б гэта ні было. Тады ім здаецца, што яны патрэбныя, што яны прыносяць карысць. Ім, зноў жа літаратура сведчыць, а жыццё пацвярджае, нельга даручыць больш-менш значную справу. Тым больш, дзяржаўнай важнасці. У лепшым выпадку, яны яе проста дыскрэдытуюць. У лепшым выпадку... Яны ёсць усюды і, вядома ж, сярод пісьменнікаў...

**І вось зараз, як паказала згаданая нарада па ідэалогіі, і як вынікае з задач, пастаўленых Прэзідэнтам перад кіраўнікамі ўсіх рангаў, а таксама перад дзеячамі навукі, культуры, педагогамі і г. д., наспеў час максімальна задзейнічаць на карысць суверэннай Рэспубліцы Беларусь менавіта і гэты "стратэгічны рэзерв" — беларускую і рускую літаратуру.**

Але як, калі, сапраўды сённяшняе змяненне школьных праграм па літаратуры змяншае яе ўдзел у выхаванні юных? Сапраўды, чарговая спроба адлучэння тысяч і тысяч юных ад гэтых найважнейшых ідэалагічных і духоўных скарбніц народаў, ці звычайная наша памылка? І я думаю, што памылка. Можа, самі асветнікі яе і выправяць, не чакаючы, калі гэта зробіць іншыя. Тым больш, кіраўнік дзяржавы.

**Мікалай ЦЕСНАВЫ**

Шмат гадоў таму, а менавіта ў 1982 годзе, наш выдатны празаік, паэт, эсэіст, нарысіст Янка Сіпакоў выдаў цудоўную кнігу пад такой назвай. Словы тыя ўвесь гэты час з розных нагод, калі распачынаецца гаворка пра вёску, цытуюць пісьменнікі. Выраз той называюць " крылатым". Укладваюць у яго розны сэнс. Але ён так або інакш напамінае нам, найперш гараджанам, адкуль карані нашы: нас нарадзіла вёска. (Няважна ў якім пакаленні, але — Вёска!) І калі творцы (у даным выпадку пісьменнікі) помняць пра гэта, і напамінак (чытайма іх творы) выклікае роздум аб былым у іх жыцці, у жыцці народа наогул, ратуру і таму, што яна сказала праўду і пра яго вясковае жыццё, ды пастаянна напамінае яму хто ён быў і ёсць на самай справе сярод людзей.

Калі я гавару "быў", дык адразу прачытваецца, як папрок: быў кім, а стаў... Але быў нармальным, звычайным, як і ўсе дзеці, хлапчуком. Які любіў маміну паску... І рабіў шкоду... Які заступаўся за малодшых брацікаў і сястрычак, калі іх хто крыўдзіў.... І дужа крыўдаваў, калі, скапярэджвае. І нямала каму з нас, тым, хто "з хат", папярэджванне тое не падабаецца. Можа, і таму часам з'яўляюцца ў СМІ, як дзяржаўных, так і нібы свабодных (ад каго, ад чаго?)"артыкульчыкі", што абражаюць беларускую літаратуру і пісьменнікаў.

Але, літаратуру трэба ўмець слухаць. Бо праз яе можна пачуць сапраўдную праўду. Спецыфіка яе такая — не хлусіць. Думаю, яшчэ і таму яе не любяць асобныя журналісты, і помсцяць ёй за гэта. І, вядома, таму не любяць, што яна духаствяральная. Наогул, наша літаратура вучыць

# «УСЕ МЫ З ХАТ»



натхняе на творчасць, на канкрэтную дзейнасць, вынікам якой з'яўляецца верш, нарыс, апавяданне, аповесць, раман (а ў каго і трылогія, а то і больш), у якіх вясковы чалавек са сваёй душой, клопатам, зрэшты ўсім, што яго, як чалавека вызначае, то, скажам, іншым людзям, найчасцей чыноўнікам, ад якіх "лёс" вёскі залежаў і залежыць, словы Івана Данілавіча — пусты гук. Калі не больш. А што больш? Ды абраза: бач, нейкі там пісьменнік будзе напамінаць мне, што і я з хаты... (Янка Сіпакоў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, яго творы перакладзены на многія мовы свету.)

А я, была б мая воля, (дыктатар!) выраз гэты, загадаў бы такім не тое, што запомніць, а павесіць у рабочым кабінеце: прыйшоў вя-лі-кі чалавек на працу, не ведае з чаго пачаць дзень свой "трудовой", а тут напамінак: і ты з вёскі!

А ў вёсцы той тваёй далёкай ці блізкай, дзякуй Богу, яшчэ жывуць, твае бацькі, ці хто з бацькоў, сваякі і суседзі. Ды тыя, з кім, успомні, летам некалі бегаў басанож па вуліцы, а зімой, накоўзаўшыся на рэчцы, грэўся на гарачай чарэні: там твае сапраўдныя самоты і радасці. Словам, мабыць няма на зямлі такога чалавечага сэрца, у якога б пры пэўным "штуршку" ў пэўных "обстоятельствах" не ўскалыхнуліся "кругі памяці" ды не вярнулі яго туды, адкуль пайшоў у горад, як лічыцца, у вялікі свет.

Наша літаратура, *мабыць*, як ніякая іншая, пісала і піша пра вёску шмат. А калі хто і папракае яе за гэта, дык ён хоць і "городской", і, можа, пры пасадзе, часам, і не "для его ума", якім быў там, адкуль усе мы, такім і застаўся тут, дзе зараз.

Такія, між іншым, і ўсе мы,вёску нашу, (і сваю) калыску нашу (і сваю) і давялі да яе сённяшняга стану. А стан часта такі: замшэлыя, счарнелыя хаты, з забітымі вокнамі, адзінокія бабулькі, сівыя, нямоглыя, у чужых абносках, ды жах... Думаеш: сапраўды Бог няроўна дзеліць...

Вядома, Бог тут ні пры чым, калі гаворка аб тым, як у многіх і многіх нашых вёсачках і вёсках, на хутарах, іншых паселішчах далёкіх ад гарадоў, жывуць (у сацыяльным плане) людзі. Калі пра Бога, дык ён тут "пры тым", што людзям тым, якія жывуць, ці дажываюць свой век на той зямлі, ён перадаў душу продкаў, ды такую місію, адвечную людскую — берагчы родную мову, і ўсё іншае, што вызначае народы. Ды наказаў да ўсяго ставіцца з разуменнем, быць цярплівымі, паблажлівымі да іншых...

Але, гэта не я прыдумаў. Гэта я вычытаў у роднай літаратуры. На родным слове. Вычытаў у нашых пісьменнікаў. У іх творах пра вёску. Найперш, у творах апошніх 20—30, ад сілы 40 гадоў. Ды ў таго ж Янкі Сіпакова. Вычытаў у Мележа, Брыля, Стральцова, Дайнекі, Жука, Далідовіча, Пташнікава, Навуменкі, Сачанкі, Кудраўца, Гардзея... І ў каторы раз падумаў: можа, іншы не любіць нашу літажам, напаўп'яны брыгадзір не даваў маме каня пасеяць агарод, а яна залівалася слязьмі: "Зімой жа дзеці будуць пухнуць з голаду"... Быў там такім, які марыў хутчэй вырасці, каб бараніць ад несправядлівасці не толькі мамку, а і цётку Матруну, такую ж гаротную, і цётку Вольгу, усіх добрых людзей...

І гэта я бяру з нашай літаратуры. Яна даўно паказала, як нішчыцца, мізарнее, як прыходзіць у занепад вёска... І — як мяняецца псіхалогія яе жыхароў. Яна паказала, даследавала, як сацыяльную з'яву, масавы сыход з вёскі моладзі (чаму). Яна падказвала, што трэба зрабіць, усім нам, дзяржаве, каб і там людзі жылі па-людску. Але да яе не дужа прыслухоўваліся і прыслухоўваемся...

Гэта страшная рэч для грамадства, калі яно або не здольна чуць голас розуму, або не хоча чуць, занятае іншым, скіраванае ў тое, што "ни уму ни сердцу". Зрэшты, не будзем у нечым абвінавачваць усё грамадства, адзін аднаго: многія ў ім і чулі і чуюць тое, пра што гаворыць літаратура. І пра вёску — таксама. Пра тыя працэсы, якія ў ёй адбываюцца. Яна пра многае папас з людзьмі гаварыць па-людску. А калі з людзьмі так, тады і людзі цябе будуць разумець і слухаць. І тыя, што "ў хатах", і тыя, што "ў гарадах", але "з хат". Сёння тым, што "ў хатах", найперш цяжка. У маральным, сацыяльным, эканамічным і іншых планах. Там у многіх нашых вёсачках закрываюцца школкі, бо туды ўжо няма каму хадзіць вучыцца. Там шмат дзе дзічэюць сады, абвальваюцца калодзежы, рушацца стрэхі. Там з кожным днём раніцой усё менш і менш камінoў азначаюцца дымком "родным і незабыўным". А яшчэ, там шмат дзе — наступнае, што ледзяніць душу, калі ўяўляеш карціну расказаную нашым класікам Янкам Брылём, які, мабыць, як ніхто з нас ведае вёску, яе душу, вясковага чалавека і яго неабдымны свет. Дык вось, прыехалі ў вёску, гавораць у хаце... Бабулька (чужая) заходзіць, маўляў, чую чалавечыя галасы, прыйшла людзей паслухаць...

Чыясьці маці, бабулька...

Дык сапраўды, што ж мы тыя ўсе "хто з хат"?

"Патрэбна дзяржаўная праграма выратавання вёскі" чытаю ў "Звяздзе" ад 28 жніўня гг. Сказана кіраўніком дзяржавы ў час яго чарговай выязной "нарады па пытаннях развіцця сельскагаспадарчай галіны". Цытую: "Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што патрэбна стварэнне дзяржаўнай, Прэзідэнцкай праграмы выратавання вёскі". І далей: "Яна павінна выцягнуць усю нашу эканоміку, вёска павінна стаць падмуркам усёй нашай дзяржавы. Неперспектыўныя вёскі губіць нельга. Трэба, каб ім дапамагла і дзяржава, і багатыя выхадцы з гэтых мясцін". (Што да багатых — сумняваюся. Справа асабістая, ведаем, бачым.) І, можа, галоўнае: "Вакол гэтай Прэзідэнцкай праграмы выратавання вёскі можна і трэба згуртаваць увесь беларускі народ".

Словам, не забывайма, што "ўсе мы з хат". І тых што былі. І тых што ёсць. І будуць. Уладары, рабацягі, геніі, графаманы і іншыя і іншыя — а калі ўсе разам проста ЛЮДЗІ.

**Уладзімір САЛАМАХА**

**Фота аўтара.**



**ЗАХАРАВА, 19**








Хоць "ЛіМ" і не паведамляў пра пасяджэнні "Літквартала", але апошнія тры тыдні суполка збіралася і працавала. Чыталіся новыя творы, абмяркоўваліся, як заўсёды шчыра і горача. У пасяджэннях удзельнічалі Наталля Дзянісава, Аксана Спрынчан, Паліна Грынчанка, Усевалад Гарачка, Маргарыта Прохар, Мікола Кандратаў, Наталля Капа, Марыя Шамякіна, Таццяна Барысюк, Рагнед Малахоўскі, Таццяна Вабішэвіч, Дар'я Лосева, Віка Трэнас, Ігар Сіроткін, Таццяна Будовіч, Сяргей Патаранскі, Андрэй Ключнікаў, Павел Астравух, Наталля Кучмель, Зміцер Арцюх, Алесь Каляда, Віктар Іваноў, Ігар Клепікаў, Іна Каляда, Мікола Адам, Яраслаў Бязлепкін, Янка Лайкоў і Аксана Бязлепкіна.

Пасяджэнні "Літквартала" адбываюцца ў памяшканні рэдакцыі "ЛіМа" кожны чацвер (пачатак у 18 гадзін). Тэлефон для даведак: 284-79-65.

# «ВЕРНЫ САБЕ І СВАЙМУ РАДАВОДУ...»



Гэта было больш за шэсць гадоў таму. Тады, у нумары за 31 студзеня, на старонках "ЛіМа" з'явіўся чарговы выпуск рубрыкі "Бліц-крытыка".

Тым, хто паспеў забыцца, як выглядала рубрыка, альбо ўжо не заспеў яе на старонках тыднёвіка, нагадаю, што ў ёй друкаваліся выказванні наконт пэўнага твора, які прыцягнуў увагу чытачоў і крытыкаў. "Соль" жа была ў тым, што адказы не падпісваліся, а спіс іх аўтараў даваўся ў алфавітным парадку, які не супадаў з парадкам публікацыі адказаў. І чытачы "ЛіМа", і асабліва наша літаратарскае кола пасля доўга гадалі, якое выказванне каму належыць – бо, вядома, хапала досыць вострых меркаванняў, якія ў вочы звычайна выказваць асцерагаюцца.

У апошнім студзеньскім нумары 1997 года гаворка ішла пра аповесць Уладзіміра Арлова "Краявід з ментолавым пахам", надрукаваную ў часопісе "Крыніца". Выказацца згадзіліся адзінаццаць чалавек, сярод якіх, дарэчы, былі і сам Арлоў, і яго жонка, паэтэса В. Аксак. А яшчэ – В. Акудовіч, А. Бадак, П. Васючэнка, А. Вольскі, Л. Дранько-Майсюк, Г. Каржанеўская, Францішак Эн, І. Шаўлякова і А.Яскевіч.

Перачытваючы цяпер тую публікацыю, я зразумела, што сама ў большасці выпадкаў не магу супаставіць імёны аўтараў і іх адказы. Адзін Францішак Эн сумленна падпісаў сваё выказванне: "Арлова апошнім часам так шмат – у кнігах, газетах, саюзах, ПЭН-цэнтрах, розных краінах, што ў гэтым тэксце ён вырашыў часова знікнуць. У "Краявідзе..." – нарэшце – шмат ментолавага паху і зусім няма Арлова. Напэўна, гэта майстэрства".

Падабаецца гэта камусьці ці не – але Арлова і сёння "шмат", яшчэ больш, чым было шэсць гадоў таму. Кнігі выдаюцца, перавыдаюцца. Крытыкі пішуць рэцэнзіі і артыкулы. Каларытную постаць пісьменніка можна бачыць на шматлікіх прэзентацыях і імпрэзах. Творы яго ўключаюцца ва ўсемагчымыя зборнікі. Іх вывучаюць школьнікі і студэнты, абіраюць тэмай курсавых і дыпломных прац філолагі... Чаму? Нехта з апытаных у рубрыцы "Бліц-крытыка" выказаўся наступным чынам: "Арлоў тут, як заўсёды, арыгінальны і верны сабе і свайму радаводу. Гэта да яго і прываблівае. Ён і працягвае тое, што пачынаў ягоны цёзка Караткевіч, і распрацоўвае сваю дзялянку. Кожная новая сустрэча з пісьменнікам абяцае і прыносіць новыя ўражанні, думкі, спадзяванні". У другім водгуку – такія радкі: "У апавяданні не проста свой настрой – там свая атмасфера, якая зацягвае чытача , як вір. У такіх выпадках не шукаеш недахопы, а проста суперажываеш герою (а значыць – і аўтару). "

Так, пісьменніцкае майстэрства, здольнасць зацягнуць чытача, як у вір, у свой твор – якасць, у якой У. Арлову адмовіць цяжка. Стварэнню таго віра спрыяе і "матэрыял", з якім працуе пісьменнік – беларуская гісторыя.

Хаця не, так гаварыць няправільна – "матэрыял", "працуе"... Лепей сказаць – жыве гісторыяй свайго народу. Герой апавядання "Міласць князя Гераніма" паўстанец Васіль Карпач адмаўляецца выратаваць сябе ад пакутлівай смерці коштам напісання ілжывага летапісу. Больш таго – нават каб выкупіць жыцці сваіх паплечнікаў, цана падаецца яму задарагая. А трэба ўсяго – напісаць пра тыя ж самыя падзеі, але ў іншым асвятленні...

Колькі гісторыкі вялі і вядуць спрэчак наконт гэтых "асвятленняў"! Хто з нашых продкаў – здраднік, хто – герой, хто – мецэнат, хто – тыран? Ці магчыма ўвогуле ўсвядоміць нейкую аб'ектыўную праўду гісторыі, калі яе тлумачэнне заснавана на дакументах, пісаных людзьмі, слабымі, смяротнымі людзьмі, якія, напэўна ж, мелі свае прыхільнасці і перакананні, і свае матэрыяльныя інтарэсы? Як мы можам даведацца, наколькі ў тым ці іншым эпізодзе летапісец, мемуарыст, аўтар дыярыуша быў аб'ектыўны?

Уладзімір Арлоў лічыць, што веданне праўдзівай гісторыі магчымае. Больш за тое – "памяць людскую не ўтопіш", і праўда рана ці позна выявіцца, бо рана ці позна, паводле слоў Янкі Купалы, "прыйдзе новы, а мудры гісторык".

Магчыма, гэта занадта рамантычнае ўспрыманне гісторыі...

Нядаўна напаткала цікавае вызначэнне творчасці Уладзіміра Арлова – "першы ўзор парабалічнага пісьменства на гістарычным матэрыяле".

Што хаваецца за велягурыстым навуковым тэрмінам, высвятляць не будзем. Для сябе я адзначыла адно: калі шэсць год таму У. Арлова часта і ахвотна параўноўвалі з У. Караткевічам, гаварылі збольшага пра рамантызм, цяпер усё больш гучыць пра адметнасць арлоўскага стылю і ад караткевічавага, і ад іншых пісьменнікаў, што шчыруюць на гэтай ніве – Л. Дайнекі, В. Іпатавай, В. Чаропкі.

Адметнасць у літаратуры – гэта калі не самае галоўнае, дык адзін з найгалоўных чыннікаў поспеху.

Імя Уладзіміра Арлова сёння ведаюць нават тыя, хто не чытаў ягоных твораў. "Неадназначнае ўспрыманне" – таксама адзін са складнікаў поспеху. У той, шасцігадовай даўніны, "Бліц-крытыцы" таксама хапала закідаў на гэты конт. Адзін з рэспандэнтаў выказаўся наступным чынам: "Твор успрымаецца неадназначна, але ў ім увесь Арлоў. Проста з Арлова ні ў якім разе нельга рабіць апостала. Бо ягонае добрае эстэцтва пры "апасталізме" пагражае перайсці ў літаратурны "глабізм".

Што ж, хто – "апостал", хто – не, вырашаем не мы, а час. І ўвогуле наконт тэрміналогіі, якую зараз шчодра ўжываюць. Згодна Пісання, праўдзівых апосталаў было ўсяго дванаццаць ( не лічачы трынаццатага, здрайцы). Пасля з'явіліся "роўнаапостальныя", такія, як Марыя Магдаліна, або кіеўскі князь Уладзімір, што гвалтам звёз прыўкрасную Рагнеду з Полацка, роднага горада У. Арлова. Што ж тычыцца "глабізму"... Мне падаецца, што сапраўды "глабальнай" можна назваць кнігу У. Арлова "Краіна Беларусь", пра якую нядаўна пісаў "ЛіМ".

Напрыканцы гэтага жніўня Уладзімір Арлоў святкаваў свой юбілей. Пяцьдзесят гадоў – як для празаіка, дык самы росквіт, нават маладосць. "ЛіМ" віншуе Уладзіміра Аляксеевіча з ягоным юбілеем і зычыць яму ўсяго, што прынята зычыць у гэты дзень.

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# РЫЦАР ЛІТАРАТУРЫ І СЕЙБІТ ВЕЧНАГА

Постаць крытыка і літаратуразнаўцы Івана Штэйнера, якому спаўняецца 50 гадоў, адметная ў многіх адносінах. Вонкавае ўражанне ён робіць чалавека ўпэўненага, сталага, моцнага: плячысты, каржакаваты, з вузлістым поціскам рукі, цвёрдым, спакойным паглядам, гучным, крыху басавітым мужчынскім голасам. Па сваёй натуры, дасціпнай і вясёлай, Штэйнер часта жартуе, падкепвае і ў такія хвіліны бывае падобны да Тараса на Парнасе. Моц і жыццятрываласць у І. Штэйнера, і тут ён не выключэнне, ад працавітых бацькоў і роднай зямлі. Яго радзіма — вёска Бережное Столінскага раёна, што на берасцейскім Палессі. Пра свае родныя мясціны Іван Фёдаравіч можа згадваць і гаварыць бясконца. Слухаючы яго, падумалася, што сапраўднаму інтэлігенту, "карнявому" чалавеку, у адрозненне ад перакаці-поля, заўсёды ўласціва глыбокая генетычна-духоўная повязь з бацькоўскім краем.

Бацькі літаратара — Вольга Дзмітрыеўна і Фёдар Раманавіч Штэйнеры — тыповыя палешукі, звычайныя вяскоўцы, у Бережным іх ведаюць як людзей працавітых, душэўна шчырых і добрых. Маці скончыла некалькі класаў польскай школы, да гэтага часу па-польску чытае вершы. Бацька, сірата з дзяцінства, прайшоў цяжкую жыццёвую дарогу. Ён служыў у Войску Польскім, ваяваў з гітлераўскімі захопнікамі і трапіў у палон, зведаў жахі фашысцкай няволі. Фёдар Раманавіч з дзіцячых гадоў мае добры голас і музычны слых, калісьці ў святочных бяседах і застоллях, па словах сына, "спяваў, як Шаляпін". Ён часта хадзіў капаць калодзежы, адгукаўся на людскія просьбы, і гэты бацькаў прыклад рабіць дабро іншым стаўся нязменным жыццёвым правілам і для Івана Фёдаравіча.

У гутарцы з выбітным палескім літаратарам пацікавіўся пра яго радаводныя карані, запытаў, ці не "празаходняе" паходжанне ён мае, бо Штэйнер — прозвішча своеасаблівае, нязвыклае для беларуса. Вось што ён сказаў: "Наша вёска старадаўняя, яна нагадвае хутчэй мястэчка — даўжыня абапал магістралі дзесьці 4,5 кіламетра. Некалі тут жылі нямецкія майстры, што прыехалі да нас з Латвіі. Таму звыклымі ў нас сталі прозвішчы Байзерт, Кунштэль, Цывіс, Гарбар, Пульман, Цур, Руц, Чэх і іншыя, якія няблага ўжываюцца са шляхецкімі Мінкевіч, Пашкевіч, Прылуцкі (прозвішча маіх продкаў)". Шляхецкія традыцыі ў Бережным былі адчувальныя даволі доўга, нават у пасляваенны час той ці іншы паляшук з гонарам гаварыў пра сваё паходжанне. Сёння, на жаль, усё часцей у жыцці і побыце знікае пачуццё годнасці, самапавагі, прыстойнасці. Чаго-чаго, а шляхетнасці і высакароднасці Івану Фёдаравічу не пазычаць. Такім ведаюць Штэйнера ў навуковых колах Гомеля і Мінска, у студэнцкім і выкладчыцкім асяродках.

Жыццёвая сцяжынка вывела І. Штэйнера на філалагічны працяг адразу пасля заканчэння Бережноўскай сярэдняй школы, калі ён паступіў на філфак БДУ (1970). Тут ён слухаў лекцыі вядомых даследчыкаў літаратуры М. Ларчанкі, І. Навуменкі, А. Лойкі, А. Адамовіча, Н. Лапідуса, Р. Семашкевіча, якіх лічыць сваімі духоўнымі настаўнікамі. Папрасіў Івана Фёдаравіча згадаць гады студэнцкай вучобы і вось што пачуў: "Сесіі ў асноўным здаваў на выдатна, але мог і "завваліць" экзамен, калі закахаўся... Некаторыя выкладчыкі гразілі, што, не бачыўшы мяне на лекцыях, прыпомняць на экзамене. Але на іспытах я заўсёды трымаўся бліскуча — памяць была добрая, учэпістая. Курс быў адметны — Мікола Прыгодзіч, Іван Роўда, Люба Тарасюк, Тоня Лойка, Васіль Сахарчук, Франц Сіўко..." Іван Штэйнер не лічыўся ідэальным студэнтам, але затое быў нармальным, жывым чалавекам, неператварыўся ў нейкага "бяздумнага зомбі". Былому філфакаўцу БДУ асабліва помняцца паездкі па літаратурных мясцінах з В. Рагойшам. Яму пашэнціла на вельмі прыязныя чалавечыя адносіны з выкладчыкам і маладым пісьменнікам Рыгорам Семашкевічам, да якога трапіў у дыпломнікі. І. Штэйнер узяўся за даследаванне экзістэнцыялізму ў прозе Васіля Быкава. Дыпломная работа сваёй арыгінальнасцю, самастойнасцю спадабалася не толькі навуковаму кіраўніку, які захацеў яе надрукаваць, але і рэцэнзенту прафесару Сцяпану Александровічу.

Працаваў дырэктарам Хатомельскай васьмігодкі, але доўга ў начальніках не пахадзіў.

Неўзабаве прыйшоў у Гомельскі універсітэт з намерам паступаць у завочную аспірантуру. Тут пазнаёміўся з вядомым літаратуразнаўцам Міколам Грынчыкам, які прапанаваў вучыцца на стацыянары. Мікола Міхайлавіч скіраваў аспіранта на даследаванне жанру балады. Прайшло некалькі гадоў — і малады, перспектыўны вучоны быў прызначаны загадчыкам кафедры. М. Грынчык перадаў яму рэдагаванне рэспубліканскага навуковага зборніка "Беларуская літаратура". У 1994 годзе кандыдат навук, дацэнт І. Штэйнер выйшаў на абарону доктарскай дысертацыі. Акадэмік І. Навуменка жартаваў: "Ты парушаеш добра зладжаную традыцыю, калі чалавек адначасова атрымліваў дыплом доктара і пенсійнае пасведчанне". На сённяшні дзень Іван Штэйнер — вядомы філолаг-даследчык, літаратурны крытык. Доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

Літаратурнай кафедры ў Гомельскім універсітэце, на мой погляд, пашэнціла, бо навукоўцы, на шчасце, не ведаюць, што такое ўладная начальніцкая пыха, брудныя інтрыгі, звышамбіцыі без належнай амуніцыі. Калі і ёсць амбіцыі ў Штэйнера-кіраўніка, то іх успрымаеш як творчую звышзадачу. "Хачу зрабіць сваю кафедру самай магутнай і аўтарытэтнай", — гаворыць Іван Фёдаравіч. Хіба нельга не вітаць гэткага яго намеру? Ён заўзята працуе сам, шмат часу аддае аспірантам, стварае спрыяльныя ўмовы для іншых. Таму і "планку" падымае перад тымі, хто ідзе ў навуку, прапаноўвае арыгінальныя і складаныя тэмы для навуковага вырашэння: "Праблема ўмоўнасці ў мастацкай прозе", "Гендэрныя праблемы ў літаратуры", "Метафарызацыя эротыкі ў беларускай і сусветнай мастацкай традыцыі", "Генезіс і эвалюцыя, эманацыя прытчы ў беларускай літаратуры" і інш. Ужо не адзін штэйнераўскі аспірант паспяхова абараніў дысертацыю на атрыманне ступені кандыдата навук. Свае навуковыя падыходы і кампаратывістычныя знаходкі ён прадэманстраваў на шматлікіх літаратуразнаўчых канферэнцыях, на Міжнародным з'ездзе славістаў у Славеніі (2003). Дарэчы, Іван Фёдаравіч жадае, каб і яго вучні ў пэўнай ступені былі кампаратывістамі, разглядалі беларускую літаратуру "здалёк і зблізку" (А. Адамовіч) — у суаднесенасці з нацыянальнай мастацкай традыцыяй і ў еўрапейскім літаратурным кантэксце.

Галоўны яго даследчыцкі аб'ект — беларуская балада. Яму, як знаўцу баладыстыкі, па сутнасці належыць на сёння "пальма першынства", ён аўтарытэтны і прызнаны знаўца гэтага жанру. Калі ўявіць баладу прыгожай паненкай (гэтае слова жаночага роду), то ў нашай беларускай філалогіі І. Штэйнера можна назваць адданым Рыцарам Балады. Баладную творчасць ён вывучае даўно, мэтаскіравана. Тэарэтыка-гістарычнаму асэнсаванню "незвычайнага, таямнічага, загадкавага жанру" прысвечана першая манаграфія "Беларуская балада" (1989). У кнізе "Варожаць балады вякоў" (1993), якая склала аснову доктарскай дысертацыі, І. Штэйнер выйшаў на новы абсяг даследавання тэмы. Ён прасочвае станаўленне і развіццё баладнага жанру ў святле славянскіх і шырэй — еўрапейскіх — мастацкіх традыцый. Гэты яго найбольш значны навуковы плён запатрабаваны ў сучаснай вышэйшай школе, паколькі напрацаваны матэрыял пра баладыстыку выдадзены ў выглядзе вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў "Балада: гісторыка-тэарэтычны нарыс" (1993) і "Балада: генезіс, эвалюцыя, перспектывы жанру" (2003).



І. Штэйнер, нягледзячы на тое, што балада з'яўляецца адным з самых старажытных, традыцыйных жанраў у літаратурнай Еўропе, выяўляе яе нацыянальна-беларускую спецыфіку. Своеасаблівасць гэтага жанру бачыць у наступным: "Беларускія рамантычныя балады адметныя тым, што ў першую чаргу адлюстроўваюць народны светапогляд і псіхалогію"; "Беларускія балады адрозніваюцца ад баладаў іншых народаў сваёй паэтычнасцю. Тлумачыцца гэта тым, што ў беларускім фальклоры, як і ў заходніх славянаў, амаль не склаліся традыцыі гераічнага эпасу"; "Пры ўсёй тэматычнай разнастайнасці баладаў яны маюць нешта агульнае, што дазваляе аб'яднаць у межах адзінага жанру. Гэта ў першую чаргу паэтычнае харастбо, што найбольш яскрава ўвасоблена ў нязвычным, звышнатуральным, абвострана-метафарычным". А вось выснова пра "глабальную" генетычную пароднenасць і ідэйна-светапоглядную агульнасць баладных твораў: "...Галоўнае, што аб'ядноўвае ўсе балады, напісаныя ў розныя часы і эпохі — вера ў чалавека, яго ўнутраную веліч, глыбокую чалавечнасць". Паводле аўтарскай трактоўкі, у баладным свеце яскрава ўвасобіліся трагізм і гераізм народнай гісторыі, зломнасць лёсу асобнага чалавека.

Іван Штэйнер правёў класіфікацыю нацыянальнай баладыстыкі, паказаў асаблівасці баладнага светаўспрымання і светаадлюстравання, уласцівыя для гэтага жанру сродкі і прыёмы мастацкага ўвасаблення: адухаўленне, драматызацыя, разгорнуты метафарызм, умоўнасць і міфалагізм, алегорыя, сімволіка, прытчавасць і інш. Галоўная заслуга Штэйнера-даследчыка бачыцца ў тым, што ён сваімі кнігамі адкрывае беларускаму чытачу "космас балады".

Наступная прыкметная літаратуразнаўчая праца — манаграфія "Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя" (2002). У ёй І. Штэйнер запыніўся на іншамоўнай спадчыне



пісьменнікаў, якія ў большасці сваёй пісалі папольску: Я. Чачота, А. Міцкевіч, Т. Зана, Т. Лады-Заблоцкага, Ю. Корсака, Я. Баршчэўскага, В. Каратынскага, У. Сыракомлі і некаторых іншых аўтараў. Польскамоўныя творы доўгі час заставаліся па-за гісторыка-літаратурным кантэкстам і перадусім, зразумела, па-за даследчыцкай увагай. І. Штэйнер прапануе ўласны кірунак у асвятленні гістарычнага развіцця мастацкай творчасці, вылучае досыць прадуктыўныі ўжо надзейна апрабаваны ім самім навуковы падыход: ён прапануе зірнуць на літаратурную спадчыну XIX стагоддзя "на гэты раз праз прызму аднаго з самых доказных крытэрыяў — жанравага". У абсяг "гравітацыйнага поля" даследчыка трапілі такія асноўныя жанры эпохі рамантызму, як балада (вершаваная і празаічная), навела, прытча, гавэнда (быліца), песня, санет. Ён, спасцігаючы жанравую, эстэтычную сутнасць твораў у параўнальна-тыпалагічнай сувязі з традыцыямі еўрапейскай літаратуры, прыходзіць да цікавых меркаванняў і каштоўных высноў. І. Штэйнер гаворыць пра творчую самастойнасць і самабытнасць пісьменнікаў Беларусі.

У літаратурнай крытыцы І. Штэйнер выступіў у 1984 годзе на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (рэцэнзія "Пошукі "няўлоўнага дамавіка"). З той пары ён паступова, але няўхільна пашыраў сваю творчую дзейнасць, вынікам якой і з'яўляецца некалькі дзесяткаў публікацый у разнастайных выданнях. Ад водгукаў на літаратуразнаўчыя кнігі ён перайшоў да крытычнага разгляду творчасці сучасных пісьменнікаў. Крытык напісаў грунтоўныя артыкулы і рэцэнзіі, у якіх разглядае адметныя мастацкія з'явы літаратурнага працэсу. У полі яго зроку — кнігі і творы як знакамітых майстроў слова, так і прадстаўнікоў маладзейшага пакалення пісьменнікаў і крытыкаў — пачынаючы ад А. Адамовіча і В. Быкава да Я. Лайкова і І. Шаўляковай. Заўважна, што асаблівую ўвагу І. Штэйнер надае літаратарам, якія нарадзіліся на беларускім Палессі і сваёй творчасцю звязаны з гэтым рэгіёнам. Для Штэйнера-крытыка, як пераконваюць яго артыкулы і рэцэнзіі, характэрна эстэтычная чуйнасць, дакладнасць назіранняў, сталасць аўтарскай думкі. Літаратурная крытыка прыносіць яму асаблівае эстэтычнае задавальненне. І гэта зразумела: крытык жа найперш чытач! Новыя літаратуразнаўчыя даследаванні, з якімі знаёміцца пастаянна, таксама даюць яму немалы духоўна-інтэлектуальны спажытак (трэба зазначыць, што Іван Фёдаравіч часта выступае ў ролі афіцыйнага апанента ці рэцэнзента).

У апошні час намаганні І. Штэйнера і яго аднадумцаў скіраваны на актыўнае збіранне фальклорнай спадчыны, захаванне этнаграфічных традыцый палескага краю. Пры кафедры працуе лабараторыя па вывучэнні традыцыйнай народнай культуры. Вынікі навукова-практычнай дзейнасці выкладчыкаў і студэнтаў Гомельскага універсітэта ўражваюць і цешаць: выдадзена каля дзесяці зборнікаў народнай творчасці. Толькі за апошнія гады пабачылі свет такія выданні, як "Роднае: Фальклорна-этнаграфічная і літаратурная спадчына Гомельскага раёна" (2000), "Фальклорна-этнаграфічная і літаратурная спадчына Рэчыцкага раёна" (2002), "Вяселле на Гомельшчыне" (2003), "Народная міфалогія Гомельшчыны" (2003). Сістэматызацыя і ўкладанне фальклорнага матэрыялу належыць І. Штэйнеру з В. Новак. Вельмі шмат гэты творчы тандэм і гомельскія энтузіясты ў цэлым зрабілі дзеля папулярызацыі беларускай народнай абраднасці, мясцова-этнаграфічных традыцый. Настаўнікам, кіраўнікам мастацкай самадзейнасці і іншым працаўнікам культуры яны прапанавалі для сцэнічнага ўвасаблення сцэнарыі народных свят і абрадаў. Як далучыцца да такіх адметных падзей і з'яў духоўнага жыцця, як Каляды, Гуканне вясны, Вялікдзень, Купалле? Як зладзіць сучаснае вяселле з захаваннем традыцыйнай беларускай абраднасці? На гэтыя пытанні можна знайсці адказ, да прыкладу, у кніжцы "Сцэнізацыя фальклорных свят і абрадаў" (1999, аўтары-укладальнікі В. Новак і І. Штэйнер). Атлантыду традыцыйнай народнай культуры на нашых вачах паглынае акіян часу, і таму І. Штэйнер разам з калегамі спяшае ўратаваць вусную народную творчасць ад забыцця, імкнецца данесці гэтыя скарбы да нашчадкаў.

Які ж ён яшчэ, Іван Штэйнер? Вельмі дынамічны, аператыўны і надзейны сувязны паміж навуковым Мінскам і Гомелем. Вядома, добры сем'янін. Але дужа апантаны любімай працай, чалавек грамадскі, актыўны працаўнік на нашай супольнай беларускай ніве, на якой шчыруе як сапраўдны сейбіт, самааддана і з вялікай асалодай.

Гэтым шчырым беларусам кіруе натхнёнае сэрца, любоў да бацькоўскай зямлі. Іван Штэйнер, як гэта гучна ні гучала б, слугуе беларускай філалогіі, літаратуры і культуры. Калі распачынаецца гаворка пра сённяшні навуковы і літаратурны Гомель, то, безумоўна, яго імя згадваецца адно з першых. Бо І. Штэйнер — асоба, яркая індывідуальнасць. Ён у сваім чыне ўжо нямала пасееў, багата аддаў людзям дабрыні, хоць вельмі шмат чаго прыемнага і радаснага, будзем спадзявацца, яго чакае наперадзе — і новыя кнігі, і поспехі вучняў, і кафедральныя здзяйсненні... Балазе беларускае сонца над яго галавой высокае, у самым зеніце.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

**УРАЖАННЕ**

***7 верасня ладзіцца чарговае Свята нацыянальнага пісьменства і друку, а праводзіцца яно гэтым разам у старажытным Полацку — горадзе, у якім надзвычай адчувальны подых беларускай даўніны. А хіба можа быць свята пісьменства без кнігі, тым больш, калі яно адбываецца там, дзе Богу і людзям нястомна служыла апякунка нашай Айчыны прападобная Еўфрасіння Полацкая, дзе нарадзіўся славуты не толькі беларускі, а і ўсходнеславянскі першадрукар Францішак Скарына і дзе ўпершыню зірнуў на свет не менш вядомы Сімяон Полацкі?***

# МЕЛОДЫЯ СТАРАЖЫТНАЙ ЗЯМЛІ

Безумоўна, у гэты дзень будзе прадавацца шмат кніг і розных як ранейшых гадоў выдання, так і тых, што пабачылі свет сёлета. Ды, несумненна, асаблівым попытам будзе карыстацца тая, якая толькі што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Назва яе — "Там, дзе вежы Сафіі" — гаворыць сама за сябе.

Каторую старонку гэтага унікальнага, з густам аформленага і выпушчанага на высокім паліграфічным узроўні выдання ні адгорнеш, абавязкова напаткаеш згадкі ці пра сам Полацк, ці бліжэй пазнаёмішся з пісьменнікамі, якія на гэтай шчодрадайнай зямлі нарадзіліся ці працавалі тут.

Кніга "Там, дзе вежы Сафіі" — свайго роду анталогія пра сам Полацк, пра яго гісторыю і ягоных людзей, а таксама пра тамашнія мясціны. І невыпадкова яна мае падзагаловак "Полаччына літаратурная". А яшчэ, што немалаважна, гэтай кнігай "Мастацкая літаратура" распачала новую серыю "Беларусь літаратурная", а Беларусь, як вядома, па сутнасці і пачалася з Полацка, як калыскі нашай дзяржаўнасці.

З Полацка пачынаецца і гэтая бібліятэка нашай духоўнасці.

Укладальнік кнігі — колішні палачанін, вядомы паэт і публіцыст Навум Гальпяровіч — з любоўю і адказнасцю паставіўся да даручанай яму справы.

Таму з любоўю, што нават, калі аднойчы пабываў у Полацку, ён у тваім сэрцы застанецца назаўсёды, а калі нарадзіўся тут, дык згадкава-мройныя ўспаміны ніколі не пакінуць цябе.

І нездарма Н. Гальпяровіч шчыра прызнаецца ў адным са сваіх вершаў:

*Веі замружу, і ўбачыцца вечар—*
*Белая цэркаўка тоненькай свечкай.*
*Гнёзды шпачыныя над Палатой.*
*Цені дубоў над халоднай вадой.*

Падобныя малюнкі пастаянна жылі яшчэ ва ўяўленні Еўфрасінні Полацкай, не пакідаючы яе нават тады, калі ажыццяўляла паломніцтва да Труны Гасподняй у далёкі Іерусалім.

Урыўкам з "Аповесці жыцця і смерці святой і блажэннай Еўфрасінні, ігумені манастыра Святога Спаса і найсвятлейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку..." адкрываецца, як сама кніга, так і яе першы раздзел "Спадчына", а поруч слова прамаўляюць Францішак Скарына, Сімяон Полацкі, а яшчэ Ян Баршчэўскі, "Нарыс Паўночнае Беларусі" якога — гэта і слова пра Полаччыну ў яе гістарычным разуменні, успрыманні, а менавіта падобным прынцыпам кіраваўся і ўкладальнік, як у падборы аўтараў, так і твораў.

Нешматслоўны на імёны і раздзел "На ўсё жыццё адна мясціна": Янка Журба, Пятрусь Броўка, Эдуард Самуйлёнак, Тарас Хадкевіч, але, як і першы, ён моцны тым духоўным патэнцыялам, што нясуць у сабе прадстаўленыя аўтары. Асабліва вызначаюцца творы Петруся Броўкі, які, як вядома, у свой час загадваў аддзелам у Полацкім акруговым камітэце камсамола, з'яўляўся адказным сакратаром газеты "Чырвоная Полаччына".

Нават прадстаўленых у кнізе яго вершаў, дастаткова ўпэўніцца, якім цудоўным лірыкам ён быў, а паэма "Беларусь", урыўкі з якой змешчаны, такая споведзь у прызнанні ў любові да Бацькаўшчыны, калі застаецца толькі здзіўляцца, наколькі П. Броўку ўдалося гэтак шчыра і пранікнёна сказаць пра тое, што ў сэрцы не толькі яго самога, а і кожнага беларуса, неабыякавага да роднай зямлі, яе гісторыі. Неабыякавага да Полаччыны:

*Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,*
*Аб горадзе Полацку слава ішла —*
*Друкар наш вядомы Георгій Скарына,*
*Што зоры рассыпаў па роднай краіне*
*Крыштальныя словы навукі-святла...*

Самы прадстаўнічы раздзел "Край, ад калыскі дарагі..."— 31 аўтар. Гэта — нашы сучаснікі, у лёсах якіх прапісаўся Полацк. Калі б жа паставіць за мэту змясціць творы ўсіх пісьменнікаў, прысвечаных гэтаму гораду, дык яны б у адным томе не ўмясціліся. Дарэчы, якія важкія набыткі ў падобным накірунку, можна даведацца з артыкула Сяргея Панізніка "Брамы Полацка", які і пра тое, што Сяргей Сцяпанавіч дзве з падобных кніг, якія чакаюць свайго прыходу да чытача, і склаў. І, калі яны з'явяцца, дык стануць гэткім жа цудоўным падарункам, як і "Там, дзе вежы Сафіі". І таксама нагадваць, што, "каб душой не ачарсцвець" (Р. Барадулін), неабходна абавязкова наведвацца сюды, дзе асабліва відавочна пяўднанасць гісторыі і сучаснасці.

У гэтым упэўнівае і Генадзь Бураўкін:

*Не шукайце красы за морамі,*
*Узбярэжжаў з крыштальнымі*
*зорамі, —*
*Прыязджайце да нас на Полаччыну,*
*Пахадзіце яе прасторамі.*

*Тут азёры, як неба, сінія,*
*У чаротах чароды гусіныя,*
*А на дне Млечным Шляхам свецяцца*
*Трапяткія гурты язіныя.*

Калі Г. Бураўкін родам з Расонскага раёна, а гэта таксама, як, вядома, полацкая зямля, дык Валянцін Лукша — карэнны палачанін і родны горад назаўсёды прапісаўся ў ягонай біяграфіі. Валянцін Антонавіч працаваў у трэсце № 16 "Нафтабуда", а потым быў літсупрацоўнікам полацкай газеты "Сцяг камунізму", загадваў аддзелам міжраённай газеты "Ленінская іскра", у красавіку 1956 года надрукаваў тут першы верш. І не адна яго кніга зместам сваім звязана з краем ягонага камсамольскага юнацтва, а адзін з вершаў (ён прадстаўлены і ў гэтай кнізе, так і называецца —"Адзіны ў свеце край"). Пра ўсю Беларусь піша В. Лукша, але і з думкай пра Полацк піша. А прыязджае сюды, лішні раз упэўніваецца — "Гэтым трэба даражыць":

*І згадваю,*
*Калі зірну наўкола*
*У твары вастравокай дзетвары,*
*Я старадаўні,*
*Роўны славе Полацк*
*З маёй далёкай зопкавай пары.*

З Полацка родам і выдатны пісьменнік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі, які, вярнуўшыся да мірнага жыцця, працаваў у мясцовай газеце. А прадстаўлены ён апавяданнем "Мітуліца" — надзіва глыбока-псіхалагічным, з дакладным спасцігненнем характараў персанажаў, з той асаблівай настраёвасцю, калі сказанае аўтарам лёгка адгукаецца ў душы.

Шлях да Полацка становіцца куды карацейшым, дзякуючы і таму, што напісана В. Аколавай, В. Аксак, У. Арловым, А. Аркушам, Л. Баршчэўскім, М. Барэйшам, П. Васючэнкам, І. Жарнасек і іншымі аўтарамі, якія выступаюць у розных жанрах і хоць не заўсёды пішуць менавіта пра Полацк, але дастаткова высокай мастацкасці іх твораў, каб упэўніцца, што, калі можна так сказаць, полацкая планка трымаецца высока.

Ды не ў пераліку імёнаў справа, а ў тым, што з'явілася кніга, патрэбная ўсім і кожнаму, а што да аўтараў, дык, як слушна гаворыць ва ўступе "З Полацка наш пачатак" старшыня Полацкага гарвыканкама Уладзімір Тачыла, яны "ўсе сардэчна і шчыра любяць наш горад, ім бясконца дарагая яго гісторыя".

Несумненна і тое, што пасля знаёмства колькасць людзей, улюбёных у Полаччыну, узрасце. Як несумненна, што ў серыі "Беларусь літаратурная будзе" працяг. Асмелюся падказаць чарговы выпуск яе — "Случчына літаратурная". Што да назвы яе, дык удакладніцца ў працэсе работы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «НЁМАН», № 8

*Белая, Белая Русь ты моя,*
*край, нам дарованный*
*промыслом Божьим,*
*что же полынная доля твоя*
*под буревеем идет бездорожьем?..*

Такім занепакоеным роздумам паўстае перад чытачамі паэт Генадзь Пашкоў, нізка вершаў якога ў перакладзе Браніслава Спрынчана адкрывае восьмы нумар часопіса "Нёман". Паэтычную эстафету працягваюць Фёдар Яфімаў і Юрый Сапажкоў. Абодва пішуць на рускай мове, маюць што сказаць чытачам і ўмеюць зрабіць гэта пранікліва, па-свойму, паэтычна. У рубрыцы "Впервые в "Нёмане" дэбютуе паэтэса з Лагойска Ірына Грыгор'ева.

Проза ў нумары прадстаўлена вострасюжэтным трылерам брытанскага пісьменніка Фрэнсіса Кліфарда "Отель "Шелли"". Гэты раман быў адзначаны Прэміяй Асацыяцыі дэтэктыўных пісьменнікаў ЗША "Сярэбраны кінжал". Пераклад з англійскай мовы ажыццявіла Святлана Уфімцава. Вялікую цікавасць павінна выклікаць у чытачоў, асабліва ў моладзі, аповесць Аляксандра Галькевіча "Дети до шестнадцати". Аўтар не навічок у літаратуры, да таго ж добра ведае псіхалогію і праблемы маладых. Прапануюцца і апавяданні Феліксa Шкірманкова, аб'яднаныя пад назвай "Таёжные встречи". У свой час аўтар шмат паездзіў, працаваў геолагам. Перажытае і ўбачанае і лягло ў аснову ягоных твораў.

Літаратурная крытыка таксама ў полі зроку часопіса. Тацццяна Андрэйчанка знаёміць з творчым набыткам паэтэсы і перакладчыцы Любові Турбіной. "Судьбы свершившейся звучанье", такі, нібы самавызначальны, радок паэтэсы паслужыў назвай для артыкула літаратурнага крытыка. Міхась Пазнякоў рэцэнзуе першую частку рамана Уладзіміра Гніламёдава "Усход", надрукаваную ў часопісе "Полымя". Мікалай Сердзюкоў дзеліцца сваімі ўражаннямі ад прачытання рамана Сяргея Зайцава "Пепел и снег", апублікаванага часопісам "Нёман". Змешчаны таксама водгук Уладзіміра Сакалоўскага "Библия Скорины в Германии".

Як і ў папярэдніх нумарах, у часопісе багата прадстаўлена публіцыстыка. Навуковец Іван Чавускі прапанаваў чытачам вострую размову аб публікацыях некаторых дзіцячых выданняў, аб фарміраванні вернасці Радзіме, аб важнасці павучальных урокаў гісторыі. "Человек без Родины, — слушна нагадвае аўтар словы рускага шахматыста Алёхіна, — всегда одинок". У артыкуле "Дорога в рынок" кандыдат эканамічных навук Анатоль Колачаў разважае аб праблемах усталявання рынку на Беларусі. У рубрыцы "Общество. Идеология. Государство" змешчаны артыкул Галіны Пілевіч "Масскультура и личность". Аўтар пераканаўча паказвае, як масавая культура разбурае свядомасць чалавека. Філосаф падказвае, як выратаваць чалавека, абгрунтоўвае шлях да эфектыўнага маральнага стану грамадства. У рубрыцы "История. Культура. Нация" доктар філалагічных навук Аляксандр Рогалеў выступае з артыкулам "Имя Белая Русь в контексте этно-политической истории Русской земли". Рубрыка "Люди и судьбы" знаёміць з артыкулам журналіста Георгія Кочатава "Генерал Лебедь: взлет и трагедия". Аўтар добра ведаў і працаваў разам з вядомым палітыкам, таму прыводзіць шмат новага і цікавага. Не пакіне чытача абыякавым і рубрыка "Из почты журнала". Кандыдат багаслоўя Аляксандр Раманчук прапанаваў матэрыял аб жыцці і дзейнасці Мітрапаліта Іосіфа Сямашкі, які шчыра служыў справе Праваслаўя. Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ягорычаў звяртаецца да чытачоў з допісам "Оправдание добром?", у якім заклікае быць паважлівымі і спагадлівымі да старых людзей, іх поглядаў: "...Большинство стариков, стоящих ныне у земного порога, жили все-таки не напрасно", сцвярджае аўтар. І з ім нельга не пагадзіцца.

**Міхась ЖУРАВІНА**

# МІЦКЕВІЧ ЯК ПРАДВЕСНІК АДРАДЖЭННЯ

Што мы ведаем пра выдатнага паэта славяншчыны, які насіў тыпова беларускае прозвішча — Міцкевіч? Як ставімся да яго спадчыны? Чым яна блізкая нам?" — з гэтых запытанняў пачынае Уладзімір Мархель уступ да сваёй кнігі "Шлях да Беларусі", выпушчанай выдавецтвам "Беларуская навука". На першы погляд, яны могуць падацца рытарычнымі. Аднак, як слушна заўважае У. Мархель далей, "гэтыя і шмат іншых пытанняў былі пастаўлены 200-гадовым юбілеем Адама Міцкевіча і намі, і нашым загадкава ўскладнёным мінулым праз нашых продкаў і папярэднікаў, пра творчасць вялікага навагрудца".

Сапраўды, ёсць над чым задумацца.

Мы, беларусы, А. Міцкевіча высока цэнім.

Мы ганарымся тым, што ён нарадзіўся на Наваградчыне.

Мы ўсё часцей называем яго польска-беларускім пісьменнікам і ў той жа час, няхай гэта не прагучыць дзіўна, быццам адмаўляемся ад яго.

Прыклад верагоднасці падобнай высновы, зганы зноў жа У. Мархелем, больш чым красамоўны. Калі некалькі гадоў назад на адным са сходаў у Доме літаратара абмяркоўвалася хрэстаматыя па літаратуры свету для беларускіх школ, нехта ў сваім выступленні справядліва адзначыў парадаксальнасць таго, што творчасць Пушкіна ў нашай школе вывучаецца, а Міцкевіча вучні, па сутнасці, не ведаюць. Тым самым прапаноўвалася ўключыць яго асобныя творы ў хрэстаматыю па замежных літаратурах: "Але ж гэта таксама парадокс, бо Адам Міцкевіч у дачыненні да Беларусі не можа лічыцца замежным аўтарам. Болей лагічна яго было б аднесці да беларускай літаратуры, але ў нашай свядомасці ён замацаваны як польскі класік".

Адразу відавочна, што гаворка, якую павядзе далей слынны перакладчык з польскай мовы, а найперш — не менш вядомы даследчык беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязяў і кантактаў, не абыдзецца без так званых вострых вуглоў, бо У. Мархель адразу запэўнівае, што не збіраецца паўтараць прапісныя ісціны, якія тычацца як творчасці самога А. Міцкевіча, так і ацэнак тагачаснага літаратурнага працэсу, што на Беларусі тады, як вядома, у асноўным праходзіў на польскай мове.

І падзагаловак кнігі "Адам Міцкевіч — прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры" сведчыць на карысць таго, што пастаноўка пытання, у чымсьці нечаканая, адначасова правамоцная, бо А. Міцкевіч, безумоўна, аказаў немалы ўплыў на развіццё нацыянальнага прыгожага пісьменства таго народа, у асяродку якога ён нарадзіўся і гадаваўся.

Назва кнігі У. Мархеля ў яе другім выданні набывае сімвалічны сэнс. "Шлях да Беларусі" - гэта не толькі тая пакручастая дарога, на якую, дзякуючы і ўплыву А. Міцкевіча, усё больш упэўнена ступалі беларускія пісьменнікі, якія жылі прыкладна ў адзін час разам з ім, разумеючы, што неабходна карыстацца мовай свайго народа, а і дарога, як нечакана гэта ні гучыць, і самога А. Міцкевіча, які хоць і жыў у далечыні ад сваёй радзімы, не мог не адчуваць у сваім сэрцы яе нязменную прысутнасць.

Таму У. Мархель і прыходзіць да такой высновы: "З пункту бачання перспектывы эвалюцыйнага набліжэння таленавітых пісьменнікаў — ураджэнцаў Беларусі — да беларускамоўнай творчасці Міцкевіч знаходзіўся на магістральным шляху развіцця новай беларускай літаратуры, і яго паэзія ўздзельнічала ў гэтым развіцці — перш за ўсё ўзорам любаснай увагі да роднага краю і яго насельнікаў".

У сувязі з гэтым лагічна паставіць пытанне, якое ў літаратурных колах (у першую чаргу даследчыцкіх) узнімалася неадноўчы, — наконт магчымасці звароту нашага выдатнага земляка ў сваёй творчасці да беларускай мовы. Што да У. Мархеля, дык ён у гэтым не сумняваецца: "У Міцкевіча павінны былі быць творы, напісаныя па-беларуску".І ўдакладняе: "Але дзе яны? Можа, яны чакаюць свайго часу, бо не верыцца, каб дзеля "ачышчэння" вобраза паэта святатацкая рука замахнулася на іх".

Ды, жывучы чаканнем, трэба найперш прасякнуцца ўсведамленнем, што А. Міцкевіч хоць і належыць усяму свету, ён і наш, беларускі. А ў гэтым, безумоўна, шмат паспрыяе кніга У. Мархеля, напісаная з любоўю да А. Міцкевіча, але з не меншым замілаваннем да сваёй Бацькаўшчыны, а ў такім разе нельга адмаўляцца да духоўна-эстэтычных набыткаў, што належаць і твайму народу.

**Алесь ВІШНЕЎСКІ**

ПАЭЗІЯ

**Мікола КАНДРАТАЎ**



•

*Нашы сцежкі ляглі*
*праз лагчыны і ўзгоркі...*
*Хто раней мы былі —*
*птушкі?*
*воблакі?*
*зоркі?*

*І з якой вышыні*
*мы зямлю азіралі?*
*На якія агні,*
*летучы, пазгаралі?*

*За якія грахі*
*край абралі мы гэты*
*у часіну тугі*
*на радзіме паэтаў?*

*Між яе берагоў*
*у снягах успамінаў*
*беларуская кроў*
*чырванее рабінай.*

•

*І захочаш замаўчаць — не зможаш,*
*у асеннім вечары растаўшы,*
*нечую падслухаўшы размову,*
*ці чыесьці вершы прачытаўшы.*

*Ад нязгоды свой намер забудзеш —*
*кінуць непатрэбнае дзівацтва.*
*Зноў даводзіць нешта станеш*
*людзям,*
*імкнучыся самаапраўдацца:*

*"Неба вечаровае над намі*
*чорным толькі ў роспачы здаецца..."*
*У вачах, асветленых слязамі,*
*свет на мноства зорак разаб'ецца...*

*Паглядзецца ў зорныя глыбіні,*
*як расы Гасподнія напіцца*
*спасціжэння літасці да бліжніх,*
*за якіх патрэбна памаліцца.*

## МАРЫ АБ МІНУЛЫМ

*Той ліпень быў падобны на яе —*
*то сумны, то насмешліва-вірлівы —*
*расою на няскошанай траве,*
*красой, што наталіцца не дае,*
*прыцiхлым салаўіным пералівам.*

*Той ліпень быў падобны на мяне:*
*гарачы ў меру і халаднаваты.*
*Ён зайчыкам вясёлым па сцяне*
*скакаў, сплываў дажджамі па вакне,*
*у туманах хаваўся вінавата.*

*Яна і я — мы стаць маглі б адным*
*з'ядналым сэрцам*
*пад разлітым сонцам,*
*нібыта ў мёдзе ліпавым густым.*
*І любавацца жнiўнем залатым,*
*і забывацца ў блізкасці бясконцай...*

## КУБАК ДНЯ

*Кубак дня ад світання поўны*
*росным бляскам і моцай пачуццяў,*
*спавядальным птушыным спевам.*
*Пад ледзь бачным дымком аблокаў*
*растае ў ім цукрысты месяц,*
*залаціцца лімонам сонца.*

*Асцярожна бяру ў далоні,*
*баючыся паднесці да вуснаў.*
*З кім яго мне да кроплі выпіць?*

•

*Мы незнаёмыя былі,*
*пакуль не стрэліся паглядам.*
*Хвіліны хуткія цяклі*
*з нябёс празрыстым вадаспадам.*

*Шкляныя сцены нематы*
*разбіць мы не пасмелі словам,*
*і вераснёўскія сляды*
*дажджамі змыла паступова.*

*Застаўся лёгкі сум адзін,*
*што стаў, не знаючы пра лёс твой*
*у сэрцы перлам — успамін*
*пра таямнічае знаёмства.*

*Хай не сустрэцца нам нідзе:*
*ні ў гэтым краі, ні за краем —*
*у Пана Бога на Судзе*
*мая душа тваю пазнае.*

## ВЕРШЫ ДЛЯ ДУШЫ

*У вершах занатоўваць дні,*
*набыткі, страты і пачуцці,*
*спадзеючыся, што яны*
*праіснуюць даўжэй, чым людзі,*

*і не паспеюць састарэць*
*пад музыку зямной катрынкі,*
*што зможа нейкі з іх сустрэць*
*душы другую палавінку.*

*Ёй бліснe, як пагляд нямы,*
*праз межы розных вымярэнняў*
*слабым праменьчыкам: хай мы*
*у розных з ёй увасабленнях,*

*ды з кожным здзейсненым жыццём,*
*"качэўным лёсам" чалавечым,*
*вяртаннем зноўку ў небыццё*
*бліжэй да нашае сустрэчы.*

## ЗОРКІ І ВЕРШЫ

*Свет наш узнік з зерня вечнасці,*
*нібы мука паміж жорнамі:*
*зоркі малітвай засвечаны,*
*людзі асветлены зоркамі.*

*Пэўна, каб лёсы палепшалі,*
*што пачуваюцца хворымі,*
*людзі ратуюцца вершамі,*
*як ратаваліся зоркамі.*

*Варта ў партэры быць першымі,*
*ці называцца "галёркаю"?..*
*Век завяршаецца вершамі,*
*дзень завяршаецца зоркамі.*

*Зноў застаюцца — у меншасці*
*крытыкі недальназоркія...*
*Зоркі становяцца вершамі,*
*вершы становяцца зоркамі.*

•

*Вершы нараджаюцца так цяжка*
*у душы, дарэшты распранутай*
*і, сваю згубіўшы бязваважкасць,*
*просяць ноч аб кропельцы атруты.*

*Вершы паміраюць непрыкметна,*
*пакрысе становячыся снамі,*
*імкнучыся ў вырай з апраметнай,*
*дзе, напэўна, уваскрэснуць з намі.*



ПРОЗА

Грышка Пенька дробненькі, невялікага растку, як кажуць, метр з кепкай. На спіне вострым горбік, нібы цягае пад апраткай туга напакаваны рукзачок. Вузкі тварык упрыгожвае кірпаты носік, а галасок тонкі і піскліявы. Калі загаворыць, то здаецца, жаліцца Грышка на свой гаротны лёс, але маленькія вочкі, прыхаваныя пад густымі бровамі, зіркаюць вастранька і хітравата.

Пеньку ўжо добра за пяцьдзесят, жыве бабылём у старэнькай, ледзь ліпіць, бацькоўскай хатцы. Да апошняга часу ніхто з вяскоўцаў асабліва і не зважаў на Грышку. Так сабе, жыве чалавек, топча зямлю, то хай ківаецца, пакуль ногі носяць. Але з нядаўняга часу Пенька, бадай, стаў самым прыкметным у Ліпках.

Свой горб Грышка нажыў у далёкім маленстве, і зусім нечакана. Вясковыя жэўжыкі панадзіліся лазіць у сад дзеда Зайца. Той кульгаў на правую нагу, таму ніякай небяспекі для зладзеяў не ўяўляў. Але дзед, хоць і быў хліпкі ды шчэ вылетраны гадамі, але голас, надзіва, меў густы, моцны. Бывае, угледзіць каля яблынь падшыванцаў, борздзенька выкульгае на ганак і зычна пужане зладзеяў. Заяц чыкільгаў на агарод, нешта незадаволена бурчэў сабе пад нос, крэхчучы, збіраў на доле яшчэ зялёныя яблычкі.

Надакучылі дзеду гэтыя набегі на сад. Аднойчы ўсё ж упільнаваў назол. Стаіўся ў густым маліннiку, што рос каля плота. Калі хлопцы пачалі трэсці яблыню, цішком падкраўся і лазовым дубцом урэзаў першаму, хто трапіўся пад руку. Нахабы, бы тыя вераб'і, пасыпаліся за штыкетнік, толькі Грышка зачапіўся штанінай і зваліўся ў траву па той бок плота, моцна выцяўся спінай.

Дзедава навука пайшла на карысць, хлопцы абміналі сад. Грышка ж да канца лета хадзіў здаровы, а пад восень няўзнак пачаў горбіцца, перастаў расці. Да чатырнаццаці гадоў на спіне вырас ладны, востры горбік. Але школу хлопец не кінуў, неяк аграў шэсць класаў. Далей вучыцца не схацеў, пайшоў прычэпшчыкам на трактар. Месяцы два выцерпеў, папрасіўся ўчотчыкам на ферму — усё ж лягчэй, не трэба на плугах пыл глытаць.

У гэты час завабіла хлопца музыка. Прыдбаў у суседа старую няспраўную хромку, адрамантаваў інструмент, трохі навучыўся рыпаць польку ды вальс. Пашкадавалі Грышку, паслалі на месяц на курсы гарманістаў. Пенька, вярнуўшыся, з год граў на танцах у калгасным клубе. Мо і застаўся б на хлебнай пасадзе, калі б нечакана не паявіўся ў Грышкі кампазітарскі талент, пачаў складаць прыпеўкі. Часам устаўляў у вершыкі і прозвішчы вяскоўцаў. Ды аднойчы Грышка даў прамашку, замахнуўся на самога старшыню калгаса Лысака. Той прачуў пра піську і певуна і адправіў Пеньку назад на ферму.

Ды толькі з цяжкасцю пасля гармоніка даваліся Грышку вілы, але што паробіш. Супіўся хлопец, зласнавата зіркаў на даярак, якія часам і пакеплівалі з яго няўдалай "гастролі" ў клубе. Неяк зазірнуў праездам на ферму карэспандэнт раёнкі, сёе-тое распытаў у даярак, пару разоў шчоўкнуў фотаапаратам і пабег на шашу на аўтобус. "Во работа, — цішком пазайздросціў Грышка. — Пабалбатаў языком, заметку ў газету накрэмзае ды шчэ і грошы адхопіць". А калі прачытаў у газетцы інфармацыю, то моцна задумаўся: "А мо і мне паспрабаваць? І я магу гэтак сачыніць, а то і лепей".

За два вечары Пенька накрэмзаў нататку пра суседа Івана Белага, які працаваў на трактары, лічыўся перадавіком, і ягоны партрэт быў змешчаны на калгаснай Дошцы гонару.

Грышкавы пэцкалі надрукавалі. Тая зацемка дайшла да Івана, відаць, бухгалтаркі з канторы далі пачытаць. Белы пазнаёміўся з Пенькавай пісанінай, спахмурнеў, твар перасмыкнуўся.

— Ну, сабака, і набрахаў, — прагудзеў са злосцю Іван. — Трапіцца на вочы, усе вантробы вытрасу.

Выйшаў у двор, са злосцю завёў матацыкл, ірвануў па вуліцы, ажно пыл закурэў. І трэба ж так стацца, што акурат у гэты час Грышка цягнуўся з фермы. Здалёк Белы ўгледзеў згорбленую паставу Пенькі, з ходу рэзка тармазнуў, пальцам па-

# ГАРБУН ПЕНЬКА

## АПАВЯДАННЕ

Гісторыя пра тое, як Іван Белы адвучыў Грышку пісаць, стала шырока вядома ў Ліпках, і з гэтага часу Пенька пачаў насіць мянушку "пісацель". Спачатку супіўся, незадаволена бурчэў, калі хто клікаў яго гэтак, а потым прывык і нават ганарыўся новым прозвішчам. Але пісаць у газету не перастаў, толькі стаў больш абачлівым, ніякіх прозвішчаў вяскоўцаў у зацемкі не ўстаўляў. Паштарка раз у месяц прыносіла Грышку заслужаны ім ганарар.

З палёгкай уздыхнуў Пенька, калі пачуў пра перабудову, дэмакратыю. "Цяпер можна разгарнуцца, — з надзеяй думаў ён. — Вунь колькі ў калгасе недахопаў, на ўсё жыццё хопіць апісваць". А тут з тэлевізара паліліся такія словы, якія бударажылі Грышку. Бясконцыя мітынгі, выступленні, выбары, шэсці са сцягамі і без іх лашчылі пакрыўджаную душу. Відаць, прачнуліся гены бацькі Макара, якія драмалі да часу, завіравалі, патрабуючы выйсця.

Старыя ў Ліпках яшчэ помнілі, як у дваццаць дзевятым вечны галяк Макар Пенька, што не мог як след урабіць свой надзел, які скрозь зарос пустазеллем, нечакана праявіў такую хвацкасць, ад якой у вяскоўцаў ажно дух заняло. Дзівіліся, адкуль у такім хірлявым целе лапатніка адкрыўся хвацкі спрыт. Заграбаючы лапцямі пыл, Макар разам з упаўнаважанымі па калектывізацыі бегаў па вуліцы, больш крычаў, чым агітаваў, першы запісаўся ў калгас. На сходах нязменна тырчэў у прэзідыумах, як бядняцкі элемент і актывіст. Калі хто з сялян сумняваўся ці пярэчыў, першы вытыкаўся даць адлуп. Ды так хлыстаў словамі, што збіваў небараку на горкі яблык.

Сёй-той з разумных мужыкоў хітравата ўсміхаўся ў вусы, вычыкваючы, калі Макарку раскусяць райкамаўцы ды дадуць такому "агітатару" пад зад. Ды не дачакаліся. Пеньку выбралі старшынёй калгаса "Перамога", які ўсё ж арганізавалі ў Ліпках. Стаўшы начальнікам, Макар памажнеў, не так раскідваўся словам, як раней. Ды які з яго гаспадар, смяхоцце адно. Дарэшты за два гады разваліў у гаспадарцы ўсё, што шчэ па першым часе ліпела.

Прагналі Пеньку з пасады праз тры гады, паставілі начальнікам калгаснай пажарнай каманды, у якой лічылася старая падслепаватая кабыла Мурка ды рассохлая бочка для падвозкі вады. Але і гэтаму рады Макар, бо не пакінулі яго, улічылі былыя заслугі. Ды на бедака ўжо ніхто і не зважаў. Памёр Пенька-старэйшы ў сярэдзіне пяцідзесятых, за ім ціха адышла яго ціхмяная, пакорлівая жонка Анюта. З таго часу Пенька і жыве адзін. Была яшчэ і старэйшая сястра, але, выйшаўшы замуж неўзабаве пасля вайны, у Ліпках не паказвалася.

Ведома ж, вяскоўцы і не ўспомнілі б Макара, калі б аднойчы ягоны сын Грышка не здзівіў калгас — ад старога да малога. Дужа падобны стаў на бацьку-"актывіста" Грышка. Толькі замяж старых лапцей на нагах растаптаныя кірзачы. Аднойчы майскай раніцай Грышка не пайшоў на ферму. Урачыста выйшаў са свайго двара, разгарнуў прымацаваную да свежага бярозавага калка закарэлую, некалі ці то блакітную, ці то зялёную, зараз невядома якога колеру прасціну. Узняў яе правай рукой і горда пакрочыў сярэдзінай вуліцы. У левай трымаў табурэтку.

— Што ён, з глузду з'ехаў? — перахрысцілася Бабкова Насця, прыпыніўшыся каля калодзежа.

Але не загаварыла з Пенькам, твар якога ззяў шчаслівай усмешкай. Затое старая Фядосіха, якая клыпала ў магазін, прыпынілася, слепакавата паўзіралася ў Грышкаў штандарт, завохкала:

— Вой, Грыша, што ета? Мо ўласць перамянілася?

Пенька кінуў на старую пагардлівы позірк, адукаваў цёмную жанчыну:

— Хіба не чула, свабода цяперака — хадзі, гавары, што захочаш. Хопіць спіну гнуць. Вуннека паглядзі, што ў Маскве творыцца. А сцяг у горадзе купіў, — схлусіў ён. — Э-эх, цямнота дзеравенская...

— Дак ета ж я і кажу, што ўласць новая.

— Новая ці старая, але лепей будзе, — аўтарытэтна заявіў Пенька.

— І грошы новыя будуць? Ой, людцы, што ета дзелаецца? — старая завойкала, разгублена азіралася, каб падзяліцца навіной, але побач нікога не было, таму борздзенька дагнала Грышку, запытала?:

— А куды ж ты прастыню прэш ды шчэ вось ету табурэтку? Мо знімаць каго будуць?

— Кажу ж, што цёмная ты, — зарагатаў Грышка. — Не пру, а нясу, як рэліквію. Тупай, старая, да клуба, там скумекаеш, што да чаго. Мітынг буду ладзіць, каб чалавек вольны стаў, — гукнуў у самае вуха глухаватай Фядосіхі. — Дземакрацыя цяперака ў нас. Тэлевізар глядзі...

Грышка не паспеў дагаварыць, бо на вуліцы паказаўся старшынёўскі "ўазік". Машына прыпынілася акурат каля Пенькі і Фядосіхі, адчыніліся дзверцы, вызірнуў Лысак.

— Ой, старшынька, — да яго памкнулася Фядосіха, — да вума не дайду. Кажа, бытта нейкі мітынг будзе, а тамака і грошы новыя...

— Што? — паблажлівая ўсмешка сышла з твара Лысака. — Што за лухта сабачая?

Старшыня мо з хвіліну абзіраў ваяўніча-ўрачыстую фізіяномію Пенькі, пераводзіў погляд то на прасціну, то на абшарпаную табурэтку, якую Грышка паспеў апусціць на дол. Урэшце, даўмеў, што надумаў сцяганосец, зарагатаў.

— Ты што, мітынг надумаў правесці? А мазгі ў цябе ёсць?

— Цяпер свабода, — разгублена, тоненькім галаскам заікнуўся Грышка,на ўсякі выпадак адступаючы спінай да плота. — Вунь, у тэлевізары паказваюць...

— Людзей не смяшы, — строга папярэдзіў Лысак. — Ты чаму не на рабоце? Кідай свае цацкі ды вілы бяры, а то праганю... Віш, захацеў пабалбатаць на табурэтцы. Забалбаталі краіну.

Лысак ляснуў дзверцамі, машына пакаціла далей. А Грышка, калі прайшоў першы страх, завішчаў тоненькім галаскам:

— Жалавацца буду, рот затыкаюць.

— Старшыня праўду кажа, — Фядосіха падышла бліжэй да Пенькі. — Кідай ета, і на работу.

Каля Грышкі прыпыніўся адзін вясковец, другі, і кожны распытваў, куды гэта выправіўся сцяганосец. Дазнаўшыся, ад душы рагаталі, і кожны імкнуўся пакпіць з Пенькі. Спыніўся на падводзе Хведар Ярэмчык, востры на язык мужчына, паўзіраўся ў разгублены тварык сцяганосца, няспешна злез з драбін, падыйшоў да Грышкі, паўшэптам спытаў:

— А ты, часам, з палазоў не з'ехаў?

Здаецца, зараз і сцяга такога няма. Ды і не сцяг гэта. Пенька цяжка ўздыхнуў, заматаў на калок прасціну і ўнурана пацягнуўся да свайго двара. А па вёсцы пачаў гуляць вясёлы погалас пра няўдалага мітынгоўшчыка, ды шчэ кожны імкнуўся дадаць ад сябе нешта смешнае. Мала хто цяпер мінаў Грышку, каб не пашапкавацца і між іншым папытаць пра здароўе. Але ж дужа дапёк Пеньку Іван Белы. Гэта ўжо было тады, калі Грышка вярнуўся з горада, адсядзеўшы двое сутак у каталажцы за "парушэнне грамадскага спакою". Адвёз яго туды ўчастковы Германюк у калясцы матацыкла. Распыталі там Пеньку, але што з яго возьмеш. Для прыліку патрымалі і на трэці дзень выпусцілі.

Дык вось, неяк Белы прыпыніўся каля Пенькі, хаця той імкнуўся не сутыкацца з Іванам, паспачуваў бедаку і, між іншым, спытаў:

— Кажуць, моцна ты, Грыша, на сцяжок патрацiўся? Не гаруй, прыгадзіцца. І табурэтка таксама.

— Як гэта прыгадзіцца? — пахмурна спытаў Грышка. — Не, не хачу мільтонаў хлеб есці. Добра шчэ, што палкай не агрэлі.



— Дзівак-чалавек, час пройдзе, музей адкрыеш. Што, не датумкаў?

— Пайшоў ты, — агрызнуўся Пенька, але баязліва адступіўся ад Белага, а той зарагатаў, заспакоіў Грышку.

— Не крыўдуй, прамашку даў ты, браток. У другі раз срок павесяць, ета точна кажу.

— Цямнота, гнаявік, — калі Белы схаваўся за павароткай, гняўліва кінуў услед Пенька.

Некаторы час пасля гэтага Пенька ціха працаваў на ферме, махаў з ранку да вечара віламі, затаіўшы злосць на ўвесь белы свет. Яго больш не цікавілі мітынгі, брахня,як ён казаў, у газетах і па тэлевізары. Ды і хадзіў да суседа што паглядзець раз у паўгода. Калі хто з вяскоўцаў чапляў яго гаворкай, нядобра зіркаў з-пад ілба, бы чуючы які падвох.

Калі ж прачуў, што можна браць зямлю, станавіцца гаспадаром, ці як пісалі па-заможнаму, фермерам, то крыху ажывіўся, але не прыняў такую завядзёнку ўсур'ёз. "Ага, наабяцаюць, мо што і выдзеляць адчапнога, а потым затарабаняць куды далей, як у трыццатыя. Ведаем добра, праходзілі ўжо".

Задумаўся Грышка, калі Белы займеў ажно пяць гектараў зямлі ды выкупіў у калгасе ўшчэнт дабіты і таму спісаны колавы трактарок, сам падладзіў яго. З рознага жалеззя сабраў плужок. На свaёй зямлі пагаспадарыў год і прыгнаў з горада легкавік нейкай не наскай маркі. Хоць і добра падношаны, але шчэ бегае. Цяпер Іван, нібы пан, раз'язджае на ім, матацыкл на прыкол паставіў.

Цярпенне Пенькі лопнула, калі дазнаўся, што былы калгасны брыгадзір Цыганок, бабнік і п'яніца, ухітрыўся нейкім чынам адхапіць два гектары зямлі. Ды і Белы неяк паджыгнуў Грышку. Мо тады і пажартаваў, але слова ў кішэнь не схаваеш, калі выкінеш яго. Падабраў Пеньку каля магазіна, падкінуў да хаты дый кажа, паказваючы вачамі на клуначак з двума боханамі хлеба:

— І ета табе, Грышка, на старасці гадоў такую торбачку адмералі? Зямлю бяры, хоць гектар, гаспадаром станеш.

— Ага, вазьмі, а што з ёй рабіць? — запярэчыў Пенька. — Гэта ў цябе трактар, а ў мяне кукіш у кішэні.

— Вунь Цыганок што ўчудзіў, — Белы не жартаваў, бо твар сур'ёзны, клопатны. — Трохі пад бульбу пусціў, трохі пад жыта, а астатнія загоны падрапаў збольшага бараной, кінуў канюшыну і два гады сена вазамі грабе. Каня купіў, калёсы, вупраж справіў. А цяпер, хваліўся, на трактар замахнуўся. А я, бачыш, усяго за год якую цацку адхапіў, — паляпаў далоняй па баранцы. Ета, браток, цяпер мысліць трэба крэпка, не то што ў калгасе.

"От жа шанцуе некаторым, — з зайздрасцю падумаў Грышка. — Куркуль хворменны. А калі разабрацца, то праўду меле. Дзе б ён у калгасе зарабіў бы на гэты джып? Э-эх, жызня мая, растуды яе. Мінае, а радасці кот наплакаў".

Словы Белага не давалі Пеньку спакою. "А што? Што я трачу, калі вазьму гектары паўтары? А шчэ сорак сотак пры хаце. Канюшына добра расце, а сена цяпер у цане, бо лугі ўсе пааралі".

Неяк накрэмзаў Грышка паперыну Лысаку, уласцiў яго. Старшыня прабег вачамі заяву і зарагатаў. — Ну, Грышка! Ну, хват! Доўга думаў?

— Не, дні з два, — чэсна прызнаўся Пенька. — Белы параіў браць. На першы год канюшыну пасею, сена прадам, разжывуся, каня заведу.

Лысак зноў засмяяўся, потым згроб Грышкаву заяву, кінуў на край стала.

— Ну, досыць жартаваць, Грыша. Мала думаў. Думай яшчэ, а потым заходзь, пагамонім.

— А Беламу далі, — заікнуўся Пенька.

— Белы доўга думаў, — зарагатаў старшыня. — Ён гаспадар, адпускаць яго з калгаса не хацеў. Ат, завядзёнка такая пайшла...

— Жалавацца буду, — Грышка не схацеў здавацца. — Напішу...

— Хоць самому ўсявышняму, — Лысак перапыніў яго. — У мяне і без цябе клопатаў па самае горла.

— Забірай сваю пісаніну і каб я цябе доўга не бачыў! — старшыня перасмыкнуў плячамі, стомлена апусціўся на крэсла.

Грышка выціснуўся за дзверы. Крыўда здушыла грудзі. "Ну, чаму яны не хочуць даць мне шанц? — думаў у роспачы. — Ці ж я горшы за іншых?"

З таго дня зласлівая зайздрасць здушыла Пеньку, гэтак узяла за глотку, што не прадыхнуць, выпальвала пякучым агнём душу да самага дна. І ён рашыўся.

У слотную восеньскую ноч цёмны цень мільгануў каля плота Белага. Пералез на пляцоўку, крыху воддалек ад хаты, дзе стаяла тэхніка. У двары забрахаў сабака, але чалавек не звярнуў на гэта ніякай увагі, нахіліўся да кола, лінуў на яго газы з бутэлькі. Захінуўшыся ад дажджу, пачаў ліхаманкава чыркаць запалкамі, але ці карабок адсырэў, ці ад страху рукі не слухаліся, яны не загараліся.

Раптам яркі прамень святла асляпіў чалавека, дужая рука ўмомант адкінула яго ад трактара.

— Ты? Грышка? — хрыпаты, здзіўлены голас Белага.

Іван ухапіў Пеньку за каршэнь, узняў з долу. Грышка затросся ў страху, узняў рукі да вачэй, нібы чакаючы ўдару, заекатаў:

—Я, я не хацеў... толькі не бі...

— Што я табе шкоднага зрабіў, злыдзень? — гняўліва прасіпеў Іван. — Еты трактар мне з крывёю даўся, а ты...

Белы выпхнуў Пеньку за калітку на вуліцу, грэбліва падпіхнуў у спіну, хрыпата, яшчэ не адышоўшы ад гневу, вымавіў:

— Як разднее, бяжы да ўчастковага, мо якая палёгка табе выйдзе. Сам прызнайся.

Калі Пенька ўнурана пацягнуўся цераз вуліцу да свайго двара, Белы скрушліва пахітаў галавой, ціха выцiснуў:

— Э-эх ты, Грышка, садовая твая галава...

дазваў да сябе пісаку, моўчкі ўзяў таго за каўнер, адной рукой прыўзняў да вачэй, скрозь зубы пагрозліва прагудзеў:

— Дак калі ж ты, пісацель, зазырыў, што я дзень і ноч тырчу ў полі? Усяго сябе аддаю калгасу? Га? Праясні мне гэта палажэнне?

Грышка добра ведаў круты нораў Івана. Вырачыў вочы, бездапаможна хапаў ротам паветра, намагаючыся выпхнуць з глоткі хоць адно слова, ды толькі нешта гугнеў. Чэпкая здаравенная лапа моцна трымала яго ў паветры, не давала адчуць нагамі цвёрды грунт.

— Дак я пытаюся, што рабіць маёй бабе з такім мужыком? Мо сусед заменіць мяне? А соткі хто будзе ўрабляць? І скаціна хай падыхае? Паясні, пісацель! Што ж ты мяне на смяхоцце выставіў?

Белы злітаваўся, апусціў "пісацеля" на дол, але руку з каўняра не зняў, чэпка трымаў Пеньку, чакаў адказу. Грышка баязліва заверашчаў тоненькім галаскам, паспрабаваў вырвацца.

— Значыцца, прызнаеш сваю віну, — урэшце заключыў Белы. — Бяжы, але калі яшчэ раз накрэмзаеш што пра мяне, дужа пашкадуеш.

Грышка, не азіраючыся, з нечаканым спрытам сігануў да сваёй калiткі, шмыгнуў у дзверы. Іван жа заржаў на ўсю вуліцу. Ведома, Белы не меў намеру адлупцаваць Пеньку, так, крыху пастрашыць, каб ведаў на будучае.

**Алесь ДЗЯТЛАЎ**

# «ULIS» ПРАПАНУЕ ПАГЛЯДЗЕЦЬ У «LUSTERKA»

За супер мінімалістычным афармленнем новага альбома гурта "Ulis" (дызайнер В. Корзун) схавана вельмі напружанае музычнае дзеянне. Кіраўнік гурта Слава Корань і яго сябры ўклалі максімум энергіі і вынаходлівасці, каб гукавое начынне "Lusterka" здзіўляла, прымушала вяртацца да альбома зноў і зноў.

Асноўны акустычны генератар дыска — сола-гітара Славы, гук якой некалькі разоў прапушчаны праз працэсар і камп'ютэр. Добра агучана на кружэлцы і рытм-секцыя — Аляксандр Быкаў (бубны) і Віктар Самарукаў (бас) працуюць вельмі прафесійна. Не верыцца, што трыо змагло арганізаваць такі напружаны гукавы пейзаж!

Некаторыя песні альбома "Lusterka" вяртаюць слухачоў да "залатых" часін гурта "Ulis" і альбомаў "Чужаніца" і "Краіна доўгай белай хмары". Цяпер такімі кампазіцыямі, над якімі будуць разважаць і слухачы, і крытыкі, стануць песні "Ты", "Люстэрка", "Выглядае ўсё наадварот", "Гэты горад", "Уладар". У іх парадаксальным чынам злучаецца неардынарны сімвалізм вобразаў С. Кораня і высокая энергетыка гуку гурта "Ulis".

Думаецца, што дыск будзе даспадобы маладым аматарам рок-музыкі: тут шмат элементаў сучаснага hardcore, industrial ("Мы уцякаем", "Звар'яцелы танцор"), а таксама, ёсць шмат сюрпрызаў для больш сталых прыхільнікаў арт-року і авангардных эксперыментаў ("Заваражаны сад"). На дыску прыхільнікі гэтых адгалінаванняў сучаснай рок-музыкі знойдуць прыцягальныя стылістычныя рысы, меладычныя абароты і будуць лічыць альбом блізкім сваім музычным густам. А С. Корань і яго "Ulis" зноў застануцца самі па сабе, ці інакш кажучы, незалежнымі — independents.

Слава Корань лічыць, што беларускія рок-музыканты не такія багатыя, каб выдаваць дыскі не поўнасцю запоўненыя музычнай інфармацыяй. Таму на альбоме "Lusterka" зафіксаваны яшчэ некалькі этапаў творчасці гурта: удзел у незавершаным фанаграфічным праекце А. Сушы на вершы У. Караткевіча (песня "Жаўранак", "Падмогі" "Устану ранкам"), новыя апрацоўкі песень з ранейшых альбомаў гурта "Ulis" ("Краіна доўгай белай хмары", "Падарожжа"), а таксама каверы з рэпертуару польскага гурта "AYA-RL". Такая рознабаковасць робіць альбом вельмі прыцягальным для шырокіх колаў беларускіх слухачоў. Дадайце, выдатную якасць запісу, і зразумееце, што гурт "Ulis" прапанаваў нам лепшую сваю працу за апошнія пяць гадоў. Што ж тычыцца назвы альбома, то як патлумачыў С. Корань, "Lusterka" — гэта фіксацыя асабістых перажыванняў, уражанняў і роздуму музыкантаў, а не храналогія нейкіх падзей. Бо люстэрка мае асацыяцыі з адлюстраваннем, правільным ці скажоным, з магічнай сувяззю мінулага і будучыні праз адваротны бок люстэрка...

Анатоль МЯЛЬГУЙ

АНОНС

# НА СЦЭНЕ ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА

Сёння ў 19 гадзін на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь адбудзецца канцэрт Рэспубліканскага сімфанічнага аркестра. Яго арганізавалі: Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры.

Аркестрам дырыжыруе лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР, доктар музыкі Аляксандр Анісімаў. Саліруе — лаўрэат міжнародных конкурсаў Васіль Нетук. У праграме канцэрта прагучаць творы А. Дворжака, Р. Вагнера і С. Пракоф'ева.

Н. К.



***З 11 па 16 кастрычніка ў Брэсце адбудзецца IV Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў. І хаця да святочнага адкрыцця айчыннага кінафоруму яшчэ амаль два месяцы, ёсць падставы расказаць пра яго раней. Тым больш, што конкурсная праграма IV Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў ужо зацверджана (увогуле планавалася, што наш кінафестываль пройдзе ў пачатку верасня), распрацаваны план творчых мерапрыемстваў, што пройдуць у рамках фестывалю, ужо вядома, хто з гасцей прыедзе ў Брэст, а гэта знакамітыя расійскія акцёры Л. Федасеева-Шукшына, А. Ліванаў, М. Бурляеў, Г. Камянкова, А. Булдакоў...***

# КІНО, ЯКОЕ ПРЫНЕСЛІ БУСЛЫ



Як паведаміла аглядальніку "ЛіМа" дырэктар фестывалю В. Сцяпанава, сёлетні кінафестываль у Брэсце будзе крышачку адрозніваецца ад папярэдніх. Папершае, з'явіцца новы рэжысёр, мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі кінаакцёра Аляксандр Яфрэмаў. "Гэта вельмі дастойны, паважаны чалавек і мне, як дырэктару фестывалю, з ім вельмі прыемна працаваць", — шчыра прызналася В. Сцяпанава, якая дагэтуль сама была прэзідэнтам кінафоруму. Па-другое, па словах В. Сцяпанавай, сёлетні Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў будзе прысвечаны маладым перспектыўным кінематаграфістам. Напрыклад, у конкурсе ігравых карцін возьмуць удзел усе студэнцкія кароткаметражныя работы навучэнцаў Беларускай акадэміі мастацтваў (усяго — 13 фільмаў вытворчасці 2002—2003 гадоў). Бо на цяперашнім кінафестывалі "Залаты Віцязь" менавіта дыпломная "кароткаметражка" нашага М. Субоціна была ўзнагароджана "Срэбраным Віцязем". Акрамя гэтага, на думку В. Сцяпанавай, сапраўдным адкрыццём новай беларускай кінастужкі "Анастасія Слуцкая", якая будзе адкрываць фестываль можна лічыць маладых беларускіх акцёраў В. Рэдзько, А. Ката, В. Круглову, якіх хацелася б сёлета абавязкова прадставіць брэсцкім гледачам.



У гэтым годзе як ніколі запланавана шмат цікавых творчых мерапрыемстваў. У рамках нацыянальнага кінафэсту пройдуць рэтраспектыва беларускіх фільмаў пра вайну "Доўгія вёрсты вайны", якую склалі стужкі "Жураўліны крык", "Праз могілкі", "Вянок санетаў", "Сведка", "У жніўні 1944-га...", фестываль дзіцячага кіно "Я родам з дзяцінства", Дзень расійскага кіно, на якім будуць прадстаўлены новыя работы С. Гаварухіна ("Гаспадыня гасцініцы") і А. Вучыцеля ("Прагулка"). Адбудуцца таксама вечар памяці заслужанага дзеяча мастацтваў РБ, кінааператара, кінарэжысёра Ю. Марухіна, прэзентацыя праграмы фільмаў студэнтаў М. Пташука пад агульнай назвай "Слова пра Майстра". У рамках IV Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў запланаваны таксама святкаванне юбілею фільма "Белыя росы", выстава мастацкай фатаграфіі лаўрэата Дзяржпрэміі РБ, апэратара, кінарэжысёра І. Шклярэўскага, кінаканцэрт з удзелам зорак расійскага і беларускага кіно, вядомых фолк- і рок-гуртоў "Музыка беларускага экрана", каранацыя самай абаяльнай удзельніцы фестывалю "Панна Кіно", адкрыццё прэс-клуба "Ад Масквы да Брэста". Аднак самым значным з усіх фестывальных мерапрыемстваў мусіць зрабіцца навукова-практычная канферэнцыя "Дзяржаўная палітыка ў галіне кінематаграфіі", падчас якой чыноўнікі, кінематаграфісты, крытыкі будуць шукаць адказы на самыя злабадзённыя пытанні (ад фарміравання рэпертуару да творчых форм работы з гледачом).

Па-ранейшаму, галоўная мэта фэсту — узвышэнне ролі нацыянальнага кінематографа ў сацыяльна-культурным жыцці грамадства, захаванне і развіццё традыцый нацыянальнага кінематографа, а таксама аналіз сучаснага стану беларускага кінематографа ў кантэксце развіцця еўрапейскага кінапрацэсу; выяўленне і стымуляванне творчых пошукаў, новых імёнаў, падтрымка наватарскіх карцін, руханне фільмаў на экраны. Па традыцыі на кінафестывалі будуць прадстаўлены ігравыя, дакументальныя, навукова-папулярныя, анімацыйныя, тэлевізійныя і відэафільмы, створаныя за тры апошнія гады (дарэчы, кінафорум ладзіцца адзін раз у два гады) на кінастудыі "Беларусьфільм", РУП "Беларускі відэацэнтр".

IV Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў, як адзначалася вышэй, адкрые фільм "Анастасія Слуцкая" (рэж. Ю. Ялхоў). Як паведамілі стваральнікі карціны яшчэ падчас "Славянскага базару ў Віцебску" з фільмам "Анастасія Слуцкая" беларускія кінематаграфісты ўжо запрошаны на міжнародны кінарынак, які адбудзецца ў Канах у 2004 годзе. А ў верасні "Анастасію Слуцкую" павязуць на 56-ы Маскоўскі міжнародны кінарынак (як паведаміў генеральны дырэктар студыі "Беларусьфільм" В. Шанько, на сённяшні дзень зроблена сем копій фільма для айчыннага і шэсць — для расійскага кінапракату, а з ліпеня пачалося агучванне стужкі на беларускую мову). Далей у конкурсе ігравых карцін возьмуць удзел ужо "пракатаныя" і ўганараваныя на іншых фестывалях стужкі "Павадыр" (рэж. А. Яфрэмаў), "Прыкаваны" (рэж. В. Рыбараў), "Свежаніна з салютам" (рэж. Я. Паўлаў), "Эскіз на маніторы" (рэж. Р. Зголіч, П. Крывастаненка, І. Кавелашвілі), "Сяброўка восень" (рэж. К. Капіца), "Паміж жыццём і смерцю" (рэж. Д. Зайцаў). У кожнага з гэтых фільмаў ёсць шанц атрымаць Гран-пры фестывалю — "Крышталёвага Бусла" ("За лепшае адлюстраванне нацыянальнай тэмы"), якім на папярэднім кінафэсце па рашэнні журы не была адзначана ніводная конкурсная карціна форуму. Дарэчы, сё-





лета да традыцыйных узнагарод ("За лепшы мастацкі, дакументальны, анімацыйны фільм, "За лепшую рэжысуру", "За лепшы сцэнарый", "За лепшую жаночую і мужчынскую ролю, "За лепшае выяўленчае рашэнне", "За лепшы дэбют у кіно") далучыліся і шмат спецыяльных узнагарод. З гэтага года будуць уручацца спецпрызы імя Ю. Марухіна ("За аператарскае майстэрства"), М. Пташука "Час выбраў нас" (за лепшую студэнцкую работу), а таксама прызы "За лепшае экраннае ўвасабленне ідэі гуманізму", старшыні Брэсцкага аблвыканкама В. Даўгалёва. Трэба адзначыць, што сёлета прафесійнае журы ўзначаліць кандыдат мастацтвазнаўства, дырэктар Дэпартамента па кіно Міністэрства культуры РФ С. Лазарук. Па словах В. Сцяпанавай, ад С. Лазарука ў нейкай ступені залежыць прапаганда беларускага кіно ў Расіі. Акрамя гэтага ён вельмі дапамагае беларускім кінематаграфістам у плане сумесных з Расіяй пастановак.

Адной з самых моцных конкурсных праграм фестывалю па традыцыі з'яўляецца праграма дакументальных і відэафільмаў. Сёлета ў конкурсе бяруць удзел фільмы ўжо прызнаных беларускіх дакументалістаў У. Арлова ("Як пайду я дагораю..."), Г. Адамовіч ("Радуйся"), У. Цеслюка ("Малафееў, праз 20 гадоў"), М. Ягжэна ("Белы дзень"), А. Алая ("Салдаты Італіі"), М. Ждаnoўскага ("Дзеці ветра, дзеці зямлі"), В. Аслюка ("Кола"), М. Князева ("Хойніцкая хроніка")...

І ўсё ж, аглядальнік "ЛіМа" не ўтрымаўся, каб не запытацца ў дырэктара фестывалю:

**— Валянціна Аляксееўна, цікава, а як вы самі ацэньваеце ўзровень сучаснага беларускага кіно? Бо ўжо два фестывалі запар без Гран-пры застаюцца менавіта ігравыя карціны. Я разумею, што гэта складанае пытанне...**

— Не, сёлета гэтае пытанне не настолькі складанае, улічваючы тое, што ў рэгламент цяперашняга фестывалю трапілі фільмы 2003 г. Бо, звычайна, стужкі таго года, у якім праходзіць наш кінафэст, мы не бярэм у конкурс. Аднак новы беларускі фільм "Анастасія Слуцкая" быў зроблены своечасова і ўвайшоў у склад конкурснай праграмы. Цяпер можна шмат разважаць пра яго, але, на маю думку, мы маем гістарычную карціну. Што тычыцца іншых ігравых стужак, прадстаўленых у конкурсе, то я лічу, што і фільмы "Павадыр", "Прыкаваны" — гэта таксама вельмі дастойныя работы. Потым ёсць цудоўныя відэафільмы, якія могуць прэтэндаваць на Гран-пры. Напрыклад, тыя, што склалі цыкл "Наш агульны дом". Бо, на маю думку, асоба — гэта ўжо сапраўдны здабытак для краіны.

**— А можа так здарыцца, што якая-небудзь з дыпломных "кароткаметражак" пераможа ў конкурсе?**

— Напэўна, не, хаця журы фестывалю ацэньвае студэнцкія работы разам з усімі астатнімі конкурснымі стужкамі аднолькава. Але на гэты выпадак у нас ёсць два спецыяльных прыза: прыз імя В. Турава "Кропка адліку" ("За лепшы дэбют у кіно"), які быў заснаваны па просьбе ўдавы рэжысёра (Тамара Турава ўвесь час дорыць прызёрам кнігі з уласнай бібліятэкі рэжысёра), а таксама імя М. Пташука "Час выбраў нас" ("За лепшую студэнцкую работу"), які будзе сёлета ўручацца ўпершыню. Я лічу, што для студэнтаў гэтыя ўзнагароды будуць самымі прэстыжнымі.

**— А ці зможа прысутнічаць на фестывалі яго новы прэзідэнт, бо наколькі мне вядома ў гэты час А. Яфрэмаў будзе працаваць над здымкамі сваёй новай стужкі "Дунечка"?**

— Я думаю, што наш прэзідэнт-пачаткоўца прыедзе. І потым я вельмі даўно ведаю Аляксандра Васільевіча. Гэта вельмі адказны чалавек, які можа падтрымаць у любую хвіліну. Спадзяюся, што ён мяне адну там не пакіне...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

***НА ЗДЫМКАХ: кадры з кінафільмаў "Анастасія Слуцкая", "Паміж жыццём і смерцю".***

**ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА**





***Кракаў сустракаў беларусаў гарачым сонцам і душэўнай цеплынёй. Гэта былі сапраўдныя дні культуры Беларусі, рэалізаваныя сіламі толькі аднаго творчага калектыву — ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Да вандроўкі далучыліся кампазітары В. Кузняцоў, Д. Лыбін, Я. Паплаўскі, музыказнаўца Р. Аладава, дырэктар Віцебскай абласной філармоніі і фестывалю імя І. Салярцінскага У. Правілаў, карэспандэнт Беларускага радыё Л. Мітаковіч.***

# КРАКАЎСКІ ТРЫПЦІХ «КЛАСІК-АВАНГАРДА»



## АДКРЫЦЦЁ

Творчая дэлегацыя (пра што паведамлялася ў "ЛіМе" за 30 мая), была запрошана на 15 міжнародны фестываль сучаснай музыкі "Дні музыкі кракаўскіх кампазітараў", які праходзіў 8—15 чэрвеня ў самых слынных залах старажытнага горада. Дырэктар фестывалю сп. Ежы Станкевіч мае плённыя шматгадовыя кантакты з вядомымі беларускімі музыкамі. Актыўны музычны дыялог неаднойчы адбываўся ў Мінску, у Віцебску на фестывалі імя І. Салярцінскага пры ўдзеле знакамітых польскіх выканаўцаў і тэарэтыкаў. Тут польскія музыкі знаёміліся з майстэрствам "Класік-Авангарда". Прычым, вядомы кампазітар Збігнеў Буярскі пасля віцебскага выканання ансамблем праграмы з ягоных твораў прызнаўся, што гэта было найлепшае ўвасабленне яго музыкі. І цяпер дыялог прадоўжыўся ўжо ў Кракаве.

У прэстыжнай канцэртнай зале "Фларыянка", унікальнай (нават паводле еўрапейскіх мерак) сваёй акустыкай, дзівосным інтэр'ерам у стылі неарэнэсансу, багатай музычнай гісторыяй, "Класік-Авангард" прадставіў тры розныя праграмы. Гэта рэдкая з'ява для аўтарытэтных фестываляў такога кшталту, надзвычай насычаных мастацкімі акцыямі, шырокім міжнародным прадстаўніцтвам удзельнікаў і разнастайнасцю канцэртных афіш. Сёлета на фестывалі, акрамя беларусаў і палякаў, былі прадстаўлены кампазітары і выканаўцы з Аўстрыі, Нідэрландаў, Славакіі, Украіны, Швейцарыі, Японіі ды іншых краін.

Фестываль адкрываўся "Апафеозам паланеза" — спецыяльна падрыхтаванай новай праграмай ансамбля "Класік-Авангард", якой папярэднічала падрабязнае тлумачэнне гісторыі і асаблівасцяў твораў, прадстаўленых на канцэрце. А гучалі лепшыя старадаўнія беларускія ўзоры гэтага жанру, створаныя Янам Давідам Голандам, Мацеем Радзівілам, Міхалам Клеафасам Агінскім, Каралем Ельскім. Асаблівым падарункам, горача вітаным кракаўскай публікай, стаўся унікальны паланез "Паляванне" М. Радзівіла — музычны шэдэўр Беларусі, авангард свайго часу, які апавядае пра самабытныя традыцыі нашага краю. У партытуру дакладна ўнесены падрабязныя каментарыі-праграмы твора на французскай мове. З іх зразумелая не толькі захапляючая драматургія першага ў гісторыі музыкі праграмнага аркестравага паланеза-карціны на тэму палявання, але і тое, што М. Радзівіл быў вельмі арыгінальным і прафесійным кампазітарам еўрапейскага маштабу, наватарам свайго часу. "Класік-Авангард" выканаў таксама напісаныя спецыяльна да фестывалю арыгінальныя творы на "паланезавую тэматыку" маладога кракаўскага аўтара Адрыяна Канарскага ("Апавяданне пра паланез") і нашых суайчыннікаў Вячаслава Кузняцова ("У чаканні Фрэдэрыка") ды Дзмітрыя Лыбіна ("З Кракава ў Вену"). Завяршыла трыумфальную імпрэзу сюіта слыннага польскага кампазітара XX ст. Романа Палестэра "Паланезы Агінскага", дзе ў майстэрскай інструментоўцы аўтар прадстаўляе творы нашага земляка, праз музыку разважае, асэнсоўвае і захапляецца імі.

Пры канцы таго ж дня ў велічным Мар'яцкім касцёле адбыўся аўтарскі канцэрт Генрыка Мікалая Гурэцкага. Яго імя побач з В. Лютаслаўскім і К. Пендэрэцкім — у сузор'і класікаў сучаснай польскай музыкі. Творы Майстра, які з сям'ёй прысутнічаў на імпрэзе, велічна і манументальна ўзносіліся да "зоркавых" скляпенняў гатычнай базілікі. Выканаўцамі былі выдатныя польскія музыканты: Эльжбета Таварніцкая (сапрана), Анджэй Бялко (арган), Хор Папскай тэалагічнай акадэміі, Марыянскі хор пад кіраўніцтвам Уладзімежа Седліка (крыху пазней хор атрымаў лаўрэацкае званне на сёлетнім фестывалі "Магутны Божа" ў Магілёве). Духоўная музыка Гурэцкага ў сценах кракаўскай святыні непаўторна ўздзейнічала на прысутных, узносіла над штодзённасцю, глыбока раскрывала змрочную панараму нераскаяных душ, заклікала да Хрыста, да праменняў Божага святла.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

Другі фестывальны дзень быў прысвечаны Беларусі. На адкрытай сустрэчы з кампазітарамі і музыкамі, якую праводзіў дырэктар фэсту Е. Станкевіч, абмяркоўваліся праблемы развіцця айчыннай кампазітарскай школы і творчасці наогул у XX ст. Пазней у "Фларыянцы" прагучала дзевяць кампазіцый сучасных беларускіх аўтараў: Галіны Гарэлавай, Віктара Капыцько, Вячаслава Кузняцова, Яўгена Паплаўскага і Сяргея Янковіча ў выкананні "Класік-Авангарда". Такім чынам былі прадстаўлены разнастайныя стылістычныя напрамкі і тэхнікі пісьма, што адрозніваюць гэтых кампазітараў. У рэцэнзіі, якую змясціла газета "Дзеннік Польскі", адзначалася: "Мы зноў здзіўляліся музычнаму майстэрству ансамбля "Класік-Авангард", які...прадэманстраваў цэлую палітру фарбаў і настрояў".

Акрамя беларускага канцэрта, на фестывалі прайшлі прэзентацыі ўкраінскай і швейцарскай камернай музыкі. Апошняя была прадстаўлена вакальнай лірыкай серыяльна-пуантылістычнага характару на вершы Роберта Вальсэра. У канцэрце, на думку прысутнага Я. Паплаўскага, вылучалася бліскучая швейцарская салістка японскага паходжання — Чыхару Сато (сапрана). Яшчэ адна выдатная вакалістка — Уршуля Крыгер у суправаджэнні Катажыны Янкоўскай (фартэпіяна) у зале цэнтра габрэйскай культуры гістарычнага раёна Казімежа прадставіла цікавую праграму з твораў З. Буярскага, А. Шонберга, А. Берга, Р. Бергера. Тонкае і ўзорнае выкананне было асалодаю для слухачоў.

## ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ

выканальніцтва адзначалі слухачы трэцяга канцэрта беларускіх музыкаў. Праграма прысвячалася 70-годдзю аўтарытэтнага прадстаўніка кракаўскай школы Збігнева Буярскага. (Пра асаблівасці яго творчасці, старонкі якой ансамбль прэзентаваў у Мінску, у зале на Залатой Горцы, "ЛіМ" пісаў ва ўжо згаданым нумары за 30 мая). Як адзначыў прысутны на канцэрце рэктар Кракаўскай акадэміі музыкі кампазітар Марэк Стахоўскі, выкананне "Класік-Авангарда" ў "Фларыянцы" сведчаць пра высокі прафесіяналізм беларускіх музыкаў, тонкае адчуванне задумаў аўтара і глыбокую пранікнёнасць інтэрпрэтацыі твораў Буярскага. Акрамя струнных квартэтаў і "Страха птушак", вялікую цікавасць выклікала Камерная кампазіцыя для голасу, флейты, арфы, фартэпіяна і перкусіі — адзін з ранніх твораў кампазітара (1963), надзвычай яркі, каларыстычны і эфектны. Поруч з беларусамі тут выступілі польскія салісткі — Уршуля Крыгер (мецца-сапрана з багатым тэмбрам і дасканалай вакальнай тэхнікай) ды Малгажата Станішэўска (арфа), што надало канцэрту сапраўднае адчуванне культурнага супрацоўніцтва. Публіка прымала імпрэзу "на ўра". Дзень Буярскага быў адзначаны таксама "Канверсаторыюмам" з прафесарам, дзе гледачы маглі паслухаць самога творцу, спасцігнуць ідэі і вобразы, што напаўняюць музычныя і жывапісныя палотны Буярскага. Адбыўся вернісаж майстра "Маё маляванне", прагучалі камерныя рэчыталы.

Наступным днём адбыўся канцэрт электраакустычнай музыкі, які, на думку спецыялістаў, стаў адным з найлепшых у гісторыі фестывалю. Сярод прадстаўленых твораў з Егіпта, ЗША, Карэі, Польшчы і Украіны прагучала кампазіцыя беларуса Яўгена Паплаўскага "Лунаючыя ў прасторы". На іншым канцэрце можна было пачуць бездотыкавыя інструменты — вядомы тэрменвокс ды амерыканскія airsynth і airtf.

Яркую сольную праграму для клавесіна (часта ў суправаджэнні магнітнай стужкі) прадставіла Малгажата Ісфордзінг з Амстэрдама, якая стала летась лаўрэаткай Міжнароднага конкурсу сучаснай музыкі імя К. Пендэрэцкага. Яе манеры ўласцівыя экспрэсійнасць подачы, скрупулёзнасць і артыстызм. Майстэрствам вылучалася таксама цымбалістка з Брацілавы Эніко Гінзэры, якая разам з Нао Нігано (сапрана) прадставіла музыку М. Кошута, П. Булеза, А. Стэйнекера, Ю. Бенэша.

Незабыўныя "Дні музыкі..." завяршаліся канцэртамі Марыянскага хору пад кіраўніцтвам Яна Рыбарскага ды Аркестра Новай музыкі пад кіраўніцтвам Аляксандра Лясоня з Катавіцаў. Гэта быў манументальны фінал сапраўды грандыёзнай агульнаеўрапейскай акцыі ў славутым Кракаве, дзе ўпершыню шырока былі прадстаўлены беларускія выканаўцы і кампазітары — наша музычная спадчына і сучаснасць.

**Аляксей ФРАЛОЎ**








# «БЕЛАРУСЬ МАЯ, ПЕСНЯ МАЯ...»

Галерэя зорных імён беларускай паэзіі на фоне маляўнічай роднай прыроды сабрана пад вокладкай фотаальбома "Беларусь мая, песня мая...", выпушчанага РВУ "Літаратура і мастацтва". У ім вершы пра Беларусь не толькі арганічна ўпісваюцца ў "малюнкі родныя і з'явы" на фотаздымках, але дапаўняюць іх па змесце, Напрыклад, на старонцы з бэзавым кветам у тумановай стужцы прачытваюцца радкі Міколы Аўрамчыка: "Калі бачыў ты, як тут шугае/ Бэз ліловым полымем ля хат...". А там, дзе ў белай кіпені флоксаў адпачывае прыгажуня-беларусачка падабраны мілагучны верш Алеся Ставера: "Я вярнуся к табе, сінявокая/ Калі ў кветкі адзенецца край./ Беларусачка, беларусачка, / Ты хоць зрэдку мяне ўспамінай".

У фотаальбоме можна адшукаць таксама тэксты любімых песень пра Беларусь Уладзіміра Карызны "Я табой, зямля, заварожаны/ І належу адзінай табе...", "Услухайся толькі, усё тут гаворыць:/ Люблю цябе, Белая, Белая Русь...", "Неба чыстае і глыбокае, /І бярозавы ціхі гай...", Алеся Ставера "Каб любіць Беларусь нашу мілую, / Трэба ў розных краях пабываць...", Ніла Гілевіча "Я хаджу, закаханы/ У твае краявіды/, І шапчу як прызнанне:/ О, мой край дарагі!", Рыгора Барадуліна "Трэба дома бываць часцей, / Трэба дома бываць не госцем...", Алеся Бачылы "Радзіма мая дарагая, / Ты ў сэрцы жаданым жыві". Варта кожнаму адчуць, як да болю знаёмыя радкі "старых песень" набываюць новае гучанне ў сучасным афармленні. Гэтая ідэя належыць укладальніку выдання Алесю Бадаку. Рэдакцыйна-выдавецкай установе "ЛіМ".

Дарэчы, у сценах апошняй фотаальбом "Беларусь мая, песня мая..." можна набыць оптам па выдавецкай цане, якая ў некалькі разоў ніжэй, чым на аналагічныя несубсідзіраваныя выданні. Хаця, хіба можна знайсці аналагі работам фотамастакоў В.Ганчарэнкі, В.Алешкі, А.Дрыбаса, А.Забаўскай і іншых, якія зрабілі свой унёсак у справу ўслаўлення роднай Беларусі.

Што датычыць канцэптуальнай пабудовы выдання, то тут дастаткова прывесці верш Генадзя Кляўко:

*Цнатлівай радасці спаткання,*
*Напэўна, не адчулі б мы,*
*Калі б не вечнае чаканне*
*Зімой — вясны,*
*Вясной — зімы.*

Так у фотаальбоме "Беларусь мая, песня мая..." зімовыя карціны змяняюцца вясновымі, летнімі, асеннімі. Усход сонца – яго заходам, вясновыя капяжы – летнімі дыяментамі росаў, а сентыментальныя букецікі пралесак з-пад снегу – белымі ліліямі на воднай гладзі. А яшчэ ж тут карагоды і кастры ля Нёмана, трапяткія ветразі на Нарачы. Жытнёвыя, васільковыя ды рамонкавыя палеткі. І нельга інакш успрыняць і прытуліць да сэрца ўсю гэтую прыгажосць, чым сказана ў назве выдання "Беларусь мая, песня мая..."

Даведкі аб набыцці фотаальбома можна атрымаць па тэлефонах аддзела маркетынгу РВУ "Літаратура і мастацтва" 284-66-71, 284-84-62.

Тамара МАЗУР









ДАНІНА ПАВАГІ

# ДА АПОШНІХ ДЗЁН ЛЮБІЎ ЛЮДЗЕЙ, ЗЯМЛЮ І НЕБА

З творчасцю Анатоля Грачанікава мне пашчасціла пазнаёміцца вельмі рана, яшчэ ў школьную пару. Маладая прыгожая дзяўчына Нэля Брукоўская, якая кватаравала ў маёй цёткі Вольгі, даведаўшыся, што я займаюся рыфматворствам, спытала: "Ты чытаў вершы Анатоля Грачанікава?" Убачыўшы, як я пацiснуў плячыма, дадала: "Ён вучыцца ў інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. Яго ўжо друкуюць у газетах. Ён у нашым тэхнікуме выступаў. Хочаш, як паеду ў Гомель, перадам яму твае вершы?

На той час я паспеў надрукавацца ў раёнцы, нават з адным вершам змог прабіцца на старонкі сталічнага "Піянера Беларусі", але аддаваць свае не вельмі зграбныя радкі на суд незнаёмага маладога паэта пабаяўся. Але гэта імя запомнілася мне. І калі неўзабаве, будучы на абласной нарадзе рабселькараў, за камандзіровачныя, што выдалі мне, я набыў альманах "Літаратурны Гомель", то адразу кінуўся шукаць у ім творы Анатоля Грачанікава. Прызнацца, я трохі расчараваўся, знайшоўшы толькі адзін невялічкі верш. Называўся ён "Мара". Чамусьці застаўся ў памяці адзін-адзіны радок з яго, які, калі не памыляюся, гучаў так: "Прачнуўся дзень у росквіце зары..." Гэта, як даведаўся потым, быў самы першы надрукаваны верш маладога паэта. І спачатку ён убачыў свет у газеце "Чырвоная змена" 23 кастрычніка 1957 года.

Не завочна, а ўжо блізка, сам-насам, я сустрэўся з ім восенню 1963 года, калі з пасведчаннем рэдактара Беларускага радыё, прыехаў у родны Гомель у камандзіроўку. Я ўжо ведаў, што Анатоль Грачанікаў працуе ў абласным камітэце камсамола, таму адзначаць камандзіроўку падаўся менавіта туды.

Насустрач падняўся высокі прыгожы дзяцюк з капой гладка прычасаных чарнявых валасоў і барадулінскім носам, што надавала яго твару нейкую асаблівую прывабнасць і адметнасць. Прыветна свяціліся глыбокія вочы.

— Адкуль да нас? — падаючы руку, пацікавіўся ён.

Даведаўшыся, хто, адкуль і чаго, сказаў ужо больш па-сяброўску і шчыра:

— Нікуды не спяшаешся? Тады зайдзі да мяне праз паўгадзінкі. У мяне якраз перапынак на абед будзе. За гэты час я і камандзіроўку тваю адзначу.

У кватэры, куды ён прывёў мяне, нікога не было. Гаспадар узяўся збіраць на стол, а я, прысеўшы зводдаль, абвёў вачамі ўсю кватэру. Кінуўся ў вочы дзіцячы ложак, што туліўся бліжэй да тахты.

— Жонка з сынам, мусіць, недзе ў парку гуляюць, — нібы заўважыўшы маю цікаўнасць, зазначыў Анатоль, запрашаючы да стала: — Давай перакусім. Хоць ты кажаш, што ў цябе тут радні багата, ды ўсё ж не пашкодзіць. Тым болей, прычына ў мяне ёсць — прыслалі ганарар з "Маладосці". Можа, чытаў маю паэмку "Сонечны звон" у восьмым нумары?

Наліўшы ў чаркі, Анатоль папярэдзіў:

— Я многа не магу, мне яшчэ на працу трэба, а ты не зважай на мяне.

За тую гадзінку, што пабылі з ім, шмат аб чым паспелі перамовіцца: вядома ж, пра сталічнае літаратурнае жыццё-быццё, пра першую кніжку, якую Анатоль здаў у выдавецтва.

— Калі ніхто не сурочыць, то ў наступным годзе павінна выйсці. "Магістраллю" назваў. Як думаеш, назва не вельмі дэкларацыйная?..

Зборнік выйшаў, аднак быў надзіва танюткі: праз "сіта" паэта Міколы Аўрамчыка, які адрэдагаваў кніжку на грамадскіх асновах, "прасеялася" толькі 24 творы, амаль усе тыя, што прайшлі праз часопіс "Маладосць".

Першую кніжку А. Грачанікава адразу заўважылі. Што рэдка бывае ў нашы дні, аб ёй дружна загаварыла крытыка. Ад яе дыхнула тым "жыццёвым скразняком", які хваляваў душу маладога паэта, прымусіў рана пасталець і загартавацца.

На пачатку дарогі, хацеў ён таго ці не, па-свойму прымхлівай стала для паэта лічба "7": сем гадоў адлічыў яму час ад першага верша да першай кніжкі, столькі ж давялося чакаць выхаду другой — "Круглая плошча". Нават пайшлі жартоўна-сур'ёзныя размовы, што "цягнік", на якім ён уехаў у літаратуру, "зайшоў у тупік". Можа, такому маўчанню паспрыяла тое, што А. Грачанікаў два гады быў адарваны ад Беларусі — вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Але ж ён не маўчаў у гэты час: даволі часта друкаваўся ў часопісах і газетах, у зборніках "Дзень паэзіі".

Як бы там ні было, паэт паспяхова прамінуў "зацяжны пад'ём" і вывеў "цягнік" на схіл, дзе ў далечыні адна за адной замільгалі, нібы назвы станцый і паўстанкаў, назвы новых кніг: "Круглая плошча", "Грыбная пара", "Начная змена", "Дрэва на выспе", "Палессе", "Верасень", "Я вас люблю..." Толькі цяпер, на здзіўленне зайздроснікам, разбежка паміж імі надта ж скарацілася: два-тры гады, два-тры гады... А то і часцей. За кожнаю кніжкай усіх чакала яго вялікасць Адкрыццё. Складвалася ўражанне, што ўсе творы нараджаліся як бы на адным дыханні. І зноў не было недахопу ў рэцэнзіях. Пісалі іх масцітыя крытыкі і літаратуразнаўцы, прызнаныя паэты: "Паэзія — лёс і адказнасць", "На арбіце часу", "Творчы неспакой", "Свет зямных трывог", "І толькі радасць першаадкрыцця", "Добрай сілы аснова", "На зрэзе дзён маіх...", "У пошуках гармоніі жыццёвай", "Па праву шчырасці", "У светлым краі соснаў і бяроз", "Я веру ў тайну абнаўлення"... Нават па адных загалоўках можна меркаваць, што змест гэтых рэцэнзій самы станоўчы, што паэту заўсёды спадарожнічала ўдача.

Як сцвярджаў Р. Бярозкін, "Грачанікаву найчасцей удаюцца... ранішнія пейзажы... пераходныя сітуацыі свету, калі ў "прадчуванні раніцы і дня" начная "цішыня зямлю пяшчотна паміж зор люляе", і самыя чыстыя, самыя свежыя таны і фарбы на паэтавай палітры — чаканне святла, дасягнутая ў прыродзе раўнавага здабыткаў і страт і думка паэта, што адгукнецца гэтай раўнавазе і сувязі ўсяго існага і жывога ў сусвеце".

Асаблівым пачуццём, прасякнуты вершы А. Грачанікава, у якіх ён апявае красу і непаўторнасць верасnёвай пары, светла-шчымлівы сум "асенняй музыкі траў". Верасень для яго — пара пладаноснасці, калі ён, нібы сад, дзеліцца з намі "думкамі-пладамі", калі "рахунак сам сабе падводзіць год" і "ўвачавідкі зрухі у прыродзе". Верасень для яго — час, калі адбываецца яднанне зямнога і душэўнага, прасвечанага святлом і дабрынёй верасnёвага дыхання зямлі.

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — паэт-наватар, паэт-інтэлектуал, гэта сапраўды так: згадайма вершы "Адкрыццё", "Да праблем пазнавальнасці свету", "Тэхнічна-навуковая пара", "Вярчальны рух", "Аварыя", "Дабранскі кірмаш", яго славутую паэму "Палескі трохкутнік".

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — паэт глыбока філасофскі, гэта таксама праўда: згадайма хаця б "Усходнюю мазаіку", афарыстычныя радкі многіх вершаў, накшталт: "Слова лечыць і калечыць. Ёсць адно між розных слоў, што ў жыцці нас чалавечыць, слова светлае — любоў..."

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — тонкі лірык, гэта, відаць, ці не галоўная сутнасць яго паэзіі: згадайма "Актывы кахання", вершы "Жанчыны", "Развітанне", "Начное купанне", "Я вас люблю..." і інш.

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — паэт-публіцыст, гэта сапраўды так: згадайма вершы "Лідэр", "Пераварот", "За Гомелем людзі ёсць...", "Шляхі-дарогі", "Няпраўда, што на свеце дрэнна жыць...", "Спакуслівы сучаснасці пірог...", "Салюты партызанскіх перамог", "Вам наканавана ісці далей", чарнобыльскі цыкл.

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — паэт ваеннай тэмы, гэта надзвычай пераканаўча падмацавана яго творчасцю: чыталі "Баладу пра пяць вазоў", "Вяртанне бежанцаў", "Баладу вятроў", "Крывавую баладу", "Снежную баладу", вершы "Вячэра",



"Жнівень сорак пятага", у якіх знайшлі праўдзівае адлюстраванне згадкі часоў маленства, апаленага вайной?

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — дзіцячы паэт, казачнік, гэта сапраўды так: менавіта за кніжкі для дзяцей і юнацтва "Палессе", "Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара", "Валерка і лятаючая талерка" яму ў 1984 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія. А кніжкі казак і легенд "Жывая вада", "Зорны палёт", што выйшлі пазней?

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — сатырык і гумарыст, гэта яскрава даказана яго кніжкаю "Школа танцаў".

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — паэт-песеннік, гэта сапраўды так: па сённяшні дзень гучаць па радыё, з падмосткаў эстрады песні, што напісаны беларускімі кампазітарамі на яго словы, — "Дударыкі", "Белая лілея", "Кацярына", "Над Белай Руссю — белы снег...", "Палессе", "Залатая Горка", "Папараць-кветка"...

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — удумлівы паэт-перакладчык, і гэта сапраўды так: дзякуючы яму "загаварылі" па-беларуску знакамітая армянка Зульфія (зборнік паэзіі "Такое сэрца ў мяне"), цэлая сям'я сучасных афганскіх паэтаў (зборнік вершаў для дзяцей "Ватан — значыць Радзіма"), грузін М. Пацхішвілі (зборнік вершаў для дзяцей "Рагатун і рагатуха"), а таксама многія рускія, украінскія, малдаўскія, літоўскія, сярэднеазіяцкія паэты і паэты замежных славянскіх краін.

Калі сцвярджаюць, што А. Грачанікаў — літаратурны крытык, гэта мае пад сабой адпаведны падмурак: колькі цікавых, змястоўных рэцэнзій на кнігі беларускіх паэтаў (асабліва маладых) выйшла з-пад яго пяра і ўбачыла свет на старонках нашых выданняў!

Як бачым, надзвычай шырокі тэматычны і творчы дыяпазон А. Грачанікава. Глыбіня думкі, засяроджанасць на хвалюючых праблемах сучаснасці, мяккі лірызм, духоўная напоўненасць, высокая моўная культура, адчуванне рытміка-інтанацыйнага ладу кожнага радка, багацце мастацкай палітры — вось тыя вартасці і асаблівасці, што зрабілі яго паэзію важкай, адметнай і арыгінальнай, па-чалавечы шчырай і пранікнёнай, жыццёва праўдзівай, эмацыянальнай:

*Не трэба жыць як набяжыць.*
*Так жыць на свеце трэба,*
*Каб да апошніх дзён любіць*
*Людзей, зямлю і неба.*

Апрача літаратурнага таленту, прырода шчодра надзяліла яго здольнасцямі арганізатара, кіраўніка, што таксама даецца не ўсім. Ён пабываў на самых розных прыступках наменклатурна-чыноўніцкай лесвіцы: інструктар, наменсік загадчыка аддзела прапаганды Гомельскага абкама камсамола, першы сакратар гаркама, загадчык аддзела літаратуры штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", а ў 33 — намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, што на той час было амаль неверагодным выпадкам. Потым узначальваў рэдакцыі часопісаў "Вясёлка", "Бярозка", "Маладосць". І ўсюды трымаўся з падначаленымі як з роўнымі сабе, як з сябрамі, ніколі не "ўскіпаў", не павышаў голасу.

Не пахіснулі гэтай чалавечай прастаты і сціпласці і заслужаныя лаўры, тыя ўзнагароды, якімі была адзначана яго творчасць: званні лаўрэатаў прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі БССР, Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага. Бо ён быў Чалавекам, быў Асобай і ў літаратуры, і ў жыцці наогул.

Паэт не хаваў свайго захаплення, убачыўшы прыгожую жанчыну. Не мог стрымаць яго і тады, калі знаходзіў цудоўныя радкі ў тваёй вершаванай нізцы: "Весьма, весьма..." Чужы боль ён прымаў блізка да сэрца, нібыта свой уласны, стараўся хоць нечым ды памагчы. Ніколі не цураўся сяброў, нават тых, якія часам падводзілі яго: дараваў ім іх слабасць. Як бацька, заўсёды шчыра радаваўся поспехам сваіх дзяцей, святам у сям'і: "У Андрэя сын нарадзіўся, Толікам назвалі", "Алеся ў БДУ паступіла!".

У апошнія 12 гадоў яго жыцця мне давялося працаваць побач з Анатолем Сямёнавічам. Спачатку ў рэдакцыі часопіса "Бярозка", куды яго прызначылі галоўным рэдактарам пасля двухгадовага знаходжання ў "Вясёлцы". На ўспамін пра той час застаўся ў мяне прыгожа аздоблены томік выбранай лірыкі Анатоля Грачанікава "Калі далёка ты..." з яго аўтографам.

Калі праз чатыры гады А. Грачанікава "павысілі" — прызначылі галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", нам было суджана зноў заставацца разам, працаваць поруч, бо нашы рэдакцыі знаходзіліся на адным калідоры ў Доме друку, амаль дзверы ў дзверы. Часта, калі не быў заняты вычыткай літаратурных матэрыялаў, запрашаў: "Заходзь, Коля, пагаворым..." А тут неўзабаве Саюз пісьменнікаў дачныя ўчасткі "выбіў". І зноў жа, быццам па волі нейкай невядомай сілы, пацягнуўшы жарабкі, апынуліся на слынным Лысагор'і побач, праз сцяжынку, суседзямі сталі. Разам будаваліся, уздзіралі дзірван на сотках, градкі ладавалі, сеялі, садзілі яблыні ды слівы, парэчкі. І тут нечакана адкрыўся яшчэ адзін талент А. Грачанікава: яго сялянская жылка, рупнасць вяскоўца. Трэба было бачыць, як умела, з нейкай асаблівай любасцю завіхаўся ён з раніцы да вечара ў гародчыку, даводзячы да ладу неслухмяныя градкі, якім больш падабалася "радаваць" травой ды пырнікам, чым клубніцамі ці агуркамі!

Аб чым ён думаў там у вячэрняй цішыні, што турбавала яго ўражлівую душу, затуманьвала задуменнасцю пагляд усмешлівых вачэй? Можа, згадалася яму родная Шарпілаўка, той клён, што калісь пасадзілі яны з братам Леанідам пад акном хаты па суседстве з дзічкай? Яны клікалі здалёк "голасам ціхім бацькоў" дамоў, дзе "заўсёды начуе душа"? А можа, ні думкі, ні сэрца, ні спакутаваная болем душа ніяк не маглі змірыцца з усведамленнем той бяды, што нечакана абрынулася на Палессе, радыяцыйнай зданню навісла над бацькоўскім кутком, над будучыняй дарагой старонкі, пасыпаўшы смяротным попелам шляхі і сцежкі да родных ваколіц? Хіба ж можна маўчаць, калі баліць сэрцу, калі гіне тая гармонія, тое хараство, да якіх імкнулася душа, аб чым спявалі жывыя струны тваёй чуйнагалосай ліры?

"Мне хоць трохі раўнавагі трэба...", — пісаў равеснік Анатоля Грачанікава, паэт трагічнага лёсу Сымон Блатун. Пасля раптоўных перамен і катаклізмаў, што адбыліся ў краіне і ў свядомасці людзей, гэтай жыццёвай раўнавагі не хапала ўсяму грамадству. Не хапала яе і паэту Грачанікаву. Ён імкнуўся знайсці яе сярод знаёмых, часам сярод выпадковых людзей, якія набіваліся яму ў сябры, а ў душы, магчыма, радаваліся, адчуваючы пэўную разгубленасць і душэўную стомленасць дагэтуль заўсёды спакойнага, памяркоўнага, разважліва-ўраўнаважанага і не абдзеленага талентам і славай Паэта і Чалавека. Хіба сапраўдныя сябры дапусцілі б, каб яго позняй сакавіцкай раніцай падабрала "хуткая" на бязлюдным тралейбусным прыпынку са смяротнаю траўмай галавы? Невядомага для ўрачоў, без ніводнага дакумента ў кішэні... Яшчэ адна загадкавая смерць яшчэ аднаго паэта ад Бога!

Не зберагλі, не зберагλі... Ён пайшоў з жыцця 7 сакавіка. Няпоўных сем гадоў не дажыў паэт да свайго бліжэйшага круглага юбілею — 60-годдзя. Зноў усё тыя ж прымхлівыя "7", але на гэты раз — жалобна-скрушлівыя.

Шуршыць пад нагамі апалая лістота, штосьці высвіствае вецер, шапоча дождж. І, здаецца, чую пад гэту музыку восені голас: "Патрэбна многа перажыць, патрэбна многа перабачыць, каб свет суровы палюбіць і ўжо любоў не перайначыць..." Яго, Анатоля Сямёнавіча, голас... І зноў жа — пра любоў.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**



# ПОМНІК МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ




**Днямі ў Старых Дарогах у музеі выяўленчага мастацтва, дзякуючы фонду Анатоля Белага, адкрыты помнік таленавітаму даследчыку, нястомнаму працаўніку беларускай навукі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалаю Іванавічу Ермаловічу.**

***НА ЗДЫМКУ:** помнік Міколу Ермаловічу*

Фота А. Белага

# СВЯТА ІНДЫІ

**Урачыстая вечарына, прысвечаная Дню Незалежнасці Індыі, адбылася ў Доме дружбы. Перад прысутнымі выступілі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь спадар Мутху Кумар, старшыня таварыства "Беларусь — Індыя" акадэмік Алег Раман, народны мастак Беларусі акадэмік Георгій Паплаўскі, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова. Паміж нашымі дзяржавамі, як падкрэслілі прамоўцы, плённа развіваецца двухбаковае супрацоўніцтва, Індыя, радзіма найцікавейшай культуры і цывілізацыі, здаўна хвалюе беларусаў. Вершаваныя і празаічныя творы выдатнага сына Індыі — паэта, кампазітара, мысляра, філосафа — Рабіндраната Тагора ў перакладзе на рускую мову чытала Валянціна Паліканіна. З каларытным танцавальным мастацтвам старажытнай краіны прысутных пазнаёмілі ансамблі народнага танца і класічнага нацыянальнага індыйскага танца.**

**М. Р.**





# ЗНАЙШОЎ СВАЮ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКУ

***1 верасня споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Міхала Федароўскага — выдатнага польскага і беларускага этнографа, фалькларыста, археолага, аўтара фундаментальнай працы "Люд беларускі".***

"Люд беларускі" быў задуманы аўтарам у 10 тамах паводле геаграфічна-тэрытарыяльнага прынцыпу. Было падрыхтавана 6 тамоў. Але Кракаўская акадэмія ведаў не паверыла, што адзін чалавек сабраў столькі фальклорна-этнаграфічнага і інш. матэрыялу. Давялося перарабляць і падпарадкоўвацца плану акадэміі. Пры жыцці збіральніка выйшла толькі 3 тамы, бо сродкаў на выданне вечна не хапала. Каб Федароўскі меў у той час магнітафон, ягоная праца складалася б з 50, а то і болей тамоў, як "Люд польскі" О. Кольберга, што дасюль перавыдаецца ў 100 тамах. На публікацыі Кольберга Федароўскі глядзеў як на ўзор, прыклад, варты пераймання. На вялікі жаль, магнітафонаў тады не было. Этнограф змог з цяжкасцю набыць нават фотаапарат, каб зазняць найперш беларускіх спявачак. Тое-сёе захавалася ў ягоным архіве, хоць большасць загінула ў віхуры апошняй вайны.

Але ўсё па парадку. Вучоны нарадзіўся ў Варшаве. Бацька яго прымаў удзел у паўстанні 1863 г. і пасля мусіў эміграваць. У 1866 г. ён пакінуў сям'ю, а ў 1870 г. як салдат-вольнанаёмнік французскай арміі загінуў у бітве пад Арлеанам.

Першую адукацыю Міхал атрымаў дома. Апавяданні дзеда пра паўстанне 1830 г. выхоўвалі ва ўнука пачуцці патрыятызму. Дзед зацікавіў яго і старымі польскімі народнымі песнямі.

Здароўе Міхала было слабое — з 13 гадоў ён хварэе на туберкулёз лёгкіх. У 1870 г. скончыў 4-ы клас мужчынскай прагімназіі з рускай моваў навучання ў Варшаве. На гэтым фактычна і скончыўся сістэматычны курс яго вучобы. Трэба сказаць, што ўжо ў гэты час ён запісваў прыказкі і фразеалагізмы ад варшавян.

У 1873 г. ён запісаўся вольным слухачом Пятроўска-Разумоўскай сельгасакадэміі пад Масквою. Паўторнае запаленне лёгкіх вымусіла праз пяць месяцаў пакінуць заняткі.

Яшчэ ў 1870 г. ён праходзіў сельскагаспадарчую практыку ў Драздове пад Ломжаю, а пасля ў доме прыяцеляў маці маршалкаў Швыкоўскіх на Беларусі. Тут ён упершыню сутыкнуўся з беларусамі, з нашымі звычаямі, абрадамі, фальклорам.

Падарожнічаў па Польшчы, аглядаў замкі, могільнікі, цікавіўся жыццём і бытам народа, тое-сёе запісваў. У Кракаве пазнаёміўся з А. Баранецкім, стваральнікам і хавальнікам фондаў Прамыслова-тэхнічнага музея. У ім сустрэўся з вядомым ужо этнографам Зыгмунтам Глогерам, які пасля стаў зяцем нашага А. Ельскага. З Глогерам рабіў фальклорна-этнаграфічна-археалагічныя экспедыцыі. Працаваў у Олькушскім павеце спачатку як вучань і практыкант агранамічных курсаў М. Палескага, пасля як упраўляючы яго фальваркам. Тут займаўся ў хімічных і фізічных лабараторыях, вывучаў мінералагічныя калекцыі, рабіў метэаралагічныя назіранні, скаталагізаваў багаты кнігазбор М. Палескага, многае з якога перачытаў, выязджаў у экспедыцыі. Веды па батаніцы, біялогіі, заалогіі прыдаліся пасля, калі на Беларусі збіраў флору, рабіў зельнікі. Тут пачаў пісаць, збіраць мясцовы фальклор.

У краязнаўчых экскурсіях удзельнічаў з Глогерам, прагна вучыўся ў яго. У 1875 г. з сябрам хацеў выехаць на Яву або Суматру. Але яму трапілася ў рукі кніжачка Яна Карловіча "Парадкік для збіральнікаў народных твораў", якая і вырашыла далейшы лёс Федароўскага. Інтэнсіўна даследаваў польскі фальклор. Праз два гады даслаў Глогеру на ацэнку рукапіс 2-томнай працы. У свет яна выйшла толькі ў 1888—1889 гг. пад тытулам "Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы, яго звычаі, лад жыцця, абрады, паданні, чары, забабоны, песні, забавы, прыказкі, загадкі і ўласцівасці мовы".

У 1877 г. пераехаў у маёнтак Швыкоўскіх каля Шарашова на Пружаншчыне. Па вёсках буялі пышным цветам цудоўныя казкі і паданні, дзівосныя легенды і былічкі, безліч розных вераванняў і засцярог і г.д. Заахвочаны Кольбергам і Глогерам пачаў фанатычна запісваць этнаграфічныя, фальклорныя, статыстычныя, фізіялагічныя матэрыялы, збіраць этнаграфічныя экспанаты, кнігі, дакументы ў старых родавых маёнтках, археалагічныя экземпляры. Заходняя частка Беларусі на той час была апісана ў польскай літаратуры слаба. Федароўскі намерыўся запоўніць гэты прабел.

Ужо ў верасні—кастрычніку 1878 г. ён закончыў апісанне вясельнага абраду ў Ваўкавыскім павеце. Апісанне ілюструюць 208 вясельных песень. Е. Раманаў называў беларускае вяселле "своеасабливай оперой". Але ў якой, скажыце, оперы вы сустракалі 208 арый?!

М. Федароўскі найперш вывучыў мову народа, з сялянамі заўсёды гаварыў па-беларуску. Збіраў прадметы матэрыяльнай культуры, запісваў фальклор. Амаль усе матэрыялы адразу дасылаў Глогеру ў яго маёнтак на Беласточчыне. Даследаваў паветы Пружанскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Слонімскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Навагрудскі і Слуцкі. Многія яму дапамагалі. Але запісы рабіў пераважна сам. Стараўся пры любым выпадку трапіць да сялян на вяселле ці хрысціны, дажынкі або Каляды, Вялікдзень, Купалле і г.д. Часта запрашаў лепшых казачнікаў ці спявачак дадому, плаціў ім. Сяляне ж часта глядзелі на яго як на пана, які невядома для чаго запісвае "мужыцкія" песні, казкі, прыказкі, лексіку і інш. Пры зборы матэрыялаў, як правіла, звяртаўся да сялян. У 3-м томе "Люду беларускага" ёсць спіс інфарматараў. З 148 прозвішчаў — 125 сялян і толькі 23 чалавекі са шляхты і мяшчан. У 2-м томе Федароўскі крытыкаваў М. Дзмітрыева і П. Шэйна за няўвагу да мовы народа і непадрыхтаваных карэспандэнтаў. Сярод славутых інфарматараў М. Федароўскага Ян Дзежка з Сакольскага пав., Тадэвуш Мацвейчык з в. Кусінцы, Зося Жаваранак з в. Дыхнавічы, Настуля Новік з в. Навасады ў Ваўкавыскім пав., Ян Ткачук са Студзераўшчыны (цяпер Дзятлаўскі раён), Клемусь Грыб з-пад Казлоўшчыны, 20-гадовая Ганна Сладка з в. Спадзвілы на Гродзеншчыне (ад яе Федароўскі запісаў каля 200 песень). Паўліну Керсноўскую з в. Рудзевічы Ваўкавыскага пав. Ян Карловіч назваў "беларускай Шахеразадай". Яна добра ведала народныя звычаі, вераванні, мову і інш., падала Карловічу каля 300 мелодый.

М. Федароўскі запісваў усё: паданні і казкі, вераванні і забабоны, жарты і анекдоты, прыказкі і загадкі, песні і прыпеўкі, тосты і прыгаворкі, народныя гульні дзяцей і дарослых, не цураўся фрывольных твораў, занатоўваў разнастайныя факты і здарэнні з мясцовага жыцця і інш. Але першай ягонай любоўю можна назваць песню. За першыя 10 гадоў працы на Беларусі ён запісаў некалькі тысяч тэкстаў народных песень. Увесь час шукаў музыку, каб натаваць і мелодыі. З 1888 г. перапісваўся з Я. Карловічам, выдатным музыкам-практыкам і тэарэтыкам музыкі. Першы раз у Косін (Ваўкавыскі пав.) Карловіч прыехаў у чэрвені 1889 г. з Глогерам. "Шумна і весела было ў той час, — успамінаў Федароўскі, — у старасвецкіх сценах Косінскага двара. Паважны Глогер вывучаў старажытныя паселішчы і раскопваў курганы; заўсёды актыўны і так сімпатычны Юльян Талька-Грынцэвіч (Ілгоўскі) па заданні Акадэміі навук рабіў антрапаметрычныя вымярэнні; мастацтва мела свайго прадстаўніка ў асобе Ігната Урублеўскага, які шмат ілюстраваных выданняў аздобіў малюнкамі тыпаў і помнікаў з надмёманскіх ваколіц". Карловіч запісваў мелодыі беларускіх народных песень. Дружба з ім працягвалася ў Федароўскага доўгія гады.

У 1891 г. у Кракаве Федароўскі пазнаёміўся з Ф. Багушэвічам. С. Х. Александровіч, памятаю, вельмі ганарыўся, што расшыфраваў "Тралялёначку" пісьменніка. А ў архіве Федароўскага ёсць даўні запіс яго ж рукою, што аўтар "Тралялёначкі" — Ф. Багушэвіч. Федароўскі яшчэ тады, аказваецца, гэта ведаў. З Кракава Федароўскі паехаў падарожнічаць па Польшчы. Тут і сустрэў Іаахіма Трачыка — музыку, што быў хатнім настаўнікам у Пінчоўскім павеце. Трачык запісаў для этнографа каля 2000 мелодый. У 1891 г. Карловіч прыехаў да Федароўскага другі раз. Агулам запісаў каля 600 беларускіх народных мелодый. Ацалела каля 1500 нотных запісаў. Г. Казэрская, у 1960-я гады загадчыца рукапіснага аддзела бібліятэкі Варшаўскага універсітэта расказвала мне, што калі яны вярнуліся ў разбураны немцамі горад, архіў Федароўскага разам з попелам лётаў па паветры. Адразу пачалі прыцікацца дакументы цаглінамі. Пасля складалі доўга па аркушыку. Цяпер гэта вечны дэпазіт бібліятэкі Варшаўскага універсітэта.

Размах збіральніцкай працы Федароўскага на Беларусі быў сапраўды грандыёзны. Разам са зборам фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў, адначасова з даследаваннем духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа і засцянковай шляхты, ён, будучы ў пастаянным кантакце з Кракавам, адразу як супрацоўнік фізіяграфічнай, а пасля Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук вывучаў флору Беларусі, зельнікі і апісанні дасылаў у акадэмію. Як прадстаўнік Кракаўскага Таварыства аховы помнікаў культуры і мастацтва на Беларусі Федароўскі аглядаў, абмерваў, апісваў касцёлы, палацы, бажніцы, збіраў кнігі, дакументы з старых родавых архіваў, раскопваў кур-



ганы, старажытныя паселішчы, могільнікі, сістэматызаваў шматлікія матэрыялы да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі. Здабытыя экспанаты — археалагічныя, этнаграфічныя, прыродазнаўчыя, графічныя, розныя прадметы з паўсядзённага жыцця беларускага селяніна — перасылаў у дэпазіт З. Глогера ў маёнтак Яжэва (археалагічных каля 11 тысяч, этнаграфічных каля 1000 і г.д.), а дублеты складваў у Музеі Дзедушыцкіх у Львове (этнаграфічныя), у Варшаўскім Музеі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, у Краязнаўчым таварыстве, графіку ва Ураніі, кнігі і графіку ў Публічнай бібліятэцы, археалагічныя экспанаты ў Нацыянальным музеі ў Кракаве, у музеі Таварыства сяброў навук у Вільні і інш. З часам, аднак, Федароўскі абмежаваў абсяг сваіх навуковых даследаванняў. Па-першае, неставала часу, па-другое — матэрыяльных сродкаў. Этнограф усе даходы, якія давала яму гаспадарка, траціў на паездкі і даследаванні.

Яшчэ ў 1891 г. ён здаў у выдавецтва Акадэміі навук у Кракаве рукапіс 1-га тома "Люду беларускага". У канцы 1892 г. ён паслаў Я. Карловічу рукапіс 2-га тома, а пасля 3-а, якія былі перададзены ім у Акадэмію навук. Выданне іх з-за нястачы сродкаў зацягнулася.

Першы том змяшчаў 2835 запісаў. У асноўным гэта вераванні і забабоны народа з ваколіц Ваўкавыска, Слоніма, Ліды і Саколкі. Навука атрымала ад Федароўскага велізарную колькасць і казак, паданняў, легенд, анекдотаў (у 1-м томе — каля 300 нумароў, у 2-м — 410, у 3-м — 571). З'яўленне такога матэрыялу — вялікі ўклад у беларускую фалькларыстыку. Рэцэнзенты высока ацанілі сабраны Федароўскім матэрыял, хвалілі фалькларыста за багацце матэрыялаў, за імкненне перадаць як найперш асаблівасці беларускай мовы. Ён сабраў шмат такіх матэрыялаў, якіх да яго ніхто не запісваў увогуле, або якіх было надрукавана вельмі мала. Да яго на тэрыторыі Заходняй Беларусі было запісана і надрукавана крыху больш за 200 паданняў і казак.

Змест 2-а тома "Люду беларускага" склалі казкі. У 3-і том увайшлі гістарычныя і мясцовыя паданні, апавяданні з паўсядзённага жыцця і гумарыстычныя. Ёсць тут і казкі, і анекдоты. Сюды аўтар далучыў матэрыялы, сабраныя ў Слуцкім і Навагрудскім паветах. Вядома, такая грандыёзная работа мела шэраг недахопаў і ў класіфікацыі, і ў пашпартызацыі, і ў інфармацыі пра распаўсюджанасць твораў фальклору. Але іх можна вытлумачыць станам развіцця тагачаснай этнаграфіі і фалькларыстыкі. Нягледзячы на іх, праца М. Федароўскага не страціла каштоўнасці.

Чацвёрты том "Люду беларускага" выйшаў ужо пасля смерці этнографа ў 1935 г. Яго падрыхтаваў Чэслаў Пяткевіч — вядомы этнограф, даследчык рэчыцкага Палесся. М. Федароўскі клапатліва папаўняў свае зборы беларускімі прыказкамі і прымаўкамі, фразеалагізмамі, трапнымі выразамі, яркімі словамі, якія чэрпаў у мнагаводнай і шырокай рацэ, імя якой — беларуская мова. Работа дала багаты плён: 28000 картак з парэміяграфічнымі, фразеалагічнымі і іншымі нататкамі сабралася ў папках этнографа. Ч. Пяткевіч апублікаваў у 4-м томе 13231 нумар. Найбольш з Ваўкавыскага павета — 8289 прыказак з варыянтамі (усіх прыказак у томе — 9868). Гэта і зразумела. У Ваўкавыскім павеце Федароўскі пражыў пастаянна 10 гадоў: з 1884 па 1895 г. ён арандаваў у гэтых краях фальварак Косін. На другім месцы па колькасці сабранага прыказкавага матэрыялу стаіць Слонімскі павет (665 нумароў). Тут Федароўскі запісаў багата прыказак, жартаў, загадак, імён і прозвішчаў сялян, мянушак усё па той самай прычыне — у Слонімскім павеце ён пражыў 10 апошніх гадоў свайго жыцця на Беларусі.

У 1892 г. Міхал Федароўскі ажаніўся з дачкою памешчыка з Келецкага ваяводства. Жаніцьба звузіла размах збіральніцкай працы этнографа. "Жонка з цесцем, — піша Г. Казэрская, — пагардліва і непрыязна адносіліся да беларускага народа, ім былі ненавісны навуковыя працы Федароўскага". Але Федароўскі адступіцца ад улюбёнай справы не мог. У папках чакалі неапублікаваныя болей за 5000 песень, прыказкі, загадкі, матэрыялы з лексікі дыялектаў беларускай мовы, якім збіральнік надаваў вялікае значэнне, бо намерваўся выдаць іх як дапаўненне да вядомага слоўніка І. Насовіча. Чакалі свае чаргі шматлікія апісанні абрадаў і звычаяў (на жаль чакаюць у яго архіве дасюль!), пабудоў і сялянскага гаспадарчага інвентару, хатняга начыння, розных прылад працы, музычных інструментаў народа і інш.

У 1893 г. ён выслаў у Варшаўскі этнаграфічны музей багацейшую калекцыю паясоў. Яна налічвала 147 экземпляраў: з Ваўкавыскага павета — 126, з Сакольскага — 18, Слонімскага — 3. 90-я гады XIX ст. былі ў Федароўскага перыядам інтэнсіўнай збіральніцкай і даследчыцкай працы. Перасяліўшыся на Слонімшчыну, ён глыбей вывучае мясцовыя і суседскія ваколіцы. Збіральнік запісвае з І. Трачыкам мелодыі народных песень, апісвае мясцовае ткацтва і ганчарства, народныя музычныя інструменты, рыбалоўства, паляванне, цяслярства, кавальства, гадоўлю свойскай жывёлы, вясковае будаўніцтва, занатоўвае лексіку мясцовых гаворак, запісвае некалькі батлеечных спектакляў на Слонімшчыне і ў Ваўкавыскім павеце, робіць фатаграфіі беларускіх тыпаў, выступае ў друку.

Міхал Федароўскі выбіраецца членам шматлікіх навуковых устаноў і таварыстваў: Этнаграфічнага таварыства ў Львове (1896), Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве (1899), Польскага краязнаўчага таварыства, Нумізматычна-археалагічнага таварыства ў Кракаве, Таварыства прыгожых мастацтваў у Вільні і інш.

Тытанічная, фанатычная збіральніцкая, навуковая і выдавецкая праца прывяла да таго, што Федароўскі поўнасцю занядбаў гаспадарку і апынуўся перад фактам разарэння. Гады на пераломе XIX і XX стст. не былі шчаслівыя ў яго жыцці. Акрамя няшчасцяў у сям'і — ад заразных хвароб паміраюць трое яго дзяцей, на некалькі гадоў ён разыходзіцца з жонкаю, — на галаву Федароўскага спадаюць яшчэ і гаспадарчыя беды: вада залівае палі і сенажаці маёнтка Падоль. Можна толькі здзіўляцца, як у такім стане этнограф працягваў працаваць, даследуючы "каханую Беларусь". У 1904 г. Міхал Федароўскі мусіў пакінуць Беларусь, дзе пражыў 27 гадоў, і выехаць у Варшаву. Г. Казэрская пісала: "Давялося яму развітацца з краем, з якім сябе так моцна звязаў, так як не жыў па-за народам, а ўваішоў у яго. На народ заўсёды глядзеў са становішча інтэлігента і памешчыка, аднак меў глыбокую павагу да самабытнасці беларусаў як народа, далёкі ад якіх-небудзь намераў паланізацыі яго".

Збіральнік прывёз з сабою багатыя калекцыі археалагічных экспанатаў, некалькі тысяч навуковых кніг пераважна XVIII і XIX ст., больш за 5000 гравюр, велізарнейшую колькасць гістарычных дакументаў і прыватных пісем XVII і XVIII стст. з архіваў Пацаў, Пацеяў, Храптовічаў, Сапегаў, сабраных на застрэшшах і ў куфрах шляхецкіх двароў і засценкаў. Каб знайсці сродкі для існавання, пачынае прадаваць свае калекцыі, трапляе ў кола варшаўскіх бібліяфілаў, антыквараў, калекцыянераў кніг і карцін, гандляроў старажытнасцямі, становіцца пасрэднікам у іх гандлёвых здзелках. Многія рэчы ён прадаваў па вельмі памяркоўных цэнах, што выводзіла яго канкурэнтаў з раўнавагі.

Пераехаўшы ў Варшаву, Федароўскі не забывае Беларусь. Ён збірае пра яе матэрыялы ў Варшаве, просіць знаёмых дасылаць літаратуру, якая датычыцца Беларусі. Летам часта адведвае знаёмыя краі, каб папоўніць свае этнаграфічныя нататкі. У яго архіве можна напаткаць многія дакументы, што звязалі Федароўскага з Беларуссю: аб'ява выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" (Пецярбург) пра падрыхтоўку альманаха "Маладая Беларусь" 1911—1912 гг.; аб'ява Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні 1913 г. пра тое, што адбудзецца святкаванне Купалля; просьба газеты "Беларус" памагчы грашыма (на адвароце М. Федароўскі напісаў алоўкам: "Адказаў 15/IV/1913, дакляруючы, акрамя падпіскі, па рублю квартальна. М. Ф."). 16 чэрвеня 1909 г. В. Ластоўскі прасіў вучонага даслаць 3-і том "Люду беларускага". 10 лістапада 1909 г. Федароўскі атрымаў пісьмо (пісаў А. Уласаў): "Шаноўны пане Федароўскі! Сабраўшыся грамадой і спраўляючы юбілей 3-гадзічны "Нашай нівы", успомнілі Вашу мнагалетнюю працу над этнаграфіяй беларушчыны, шчыра вітаем Вас". Сярод падпісаўшых Я. Купала, А. і І. Луцкевічы, А. Бурбіс, М. Шыпа, Л.Рагоўскі, С. Палуян, А. Уласаў, Ядвігін Ш., Э. Лычкоўскі і інш. Праз "Нашу ніву" М. Федароўскі набываў беларускія кнігі, календары.

Пасля смерці З. Глогера ў 1910 г. М. Федароўскі ў Т. Корзанам (мінчук) паўтара года працавалі над інвентарызацыяй, упарадкаваннем і перадачай адпаведным установам збораў нябожчыка. У 1911 г. у часопісе "Земя" апублікаваў успаміны пра Глогера, з якім сябраваў каля 40 гадоў. У 1912 г. гэтыя ўспаміны выйшлі ў Варшаве асобнай кніжкаю. Амаль увесь 1912 г. у "Земі" друкаваўся этнаграфічна-гістарычны нарыс М. Федароўскага "Віцебск і Віцебшчына".

Любоў да беларускай зямлі, замілаванне і прывязанасць да народа, сярод якога збіральнік пражыў столькі гадоў, засталіся ў яго душы назаўсёды. У адным з пісем Ю. Талька-Грынцэвіч пісаў да Федароўскага: "Будучы чужым таму краю нават крывёй, Вы пакахалі яго і народ, сярод якога жылі, усёй душою". А вось словы роздум самога Міхала Федароўскага: "Ці беларускі народ прыйдзе калі-небудзь да самасвядомасці? Як паляк я сардэчна гэтага яму жадаю". На жаль, і сёння гэта гучыць усё яшчэ вельмі актуальна!

З 1921 г. Федароўскі працаваў у аддзеле этналогіі Інстытута антрапалагічных навук. Сюды пераносіць частку сваіх матэрыялаў. Апрацоўвае, каб працягваць выданне "Люду беларускага". У 1921—1922 гг. у Варшаўскім навуковым таварыстве ён прачытаў шэраг рэфератаў-успамінаў пра сваё вывучэнне Беларусі. 10 мая 1922 г. у час чыткі аднаго з рэфератаў казаў, што працуе над вялікай кнігай вераванняў беларускага народа. Матэрыял сабраў паміж 1890 і 1905 гадамі.

З паловы 1922 г. стан здароўя М. Федароўскага пагаршаецца. У маі 1923 г. ён складае завяшчанне перадаць сабраныя ім матэрыялы адпаведным навуковым установам. Бібліятэку, карты Літвы і Беларусі, выразкі з газет і часопісаў, аднадзёнкі, частку графічных збораў, гістарычныя дакументы і амаль усе рукапісы завяшчаў Варшаўскаму навуковаму таварыству, абавязаўшы яго апрацаваць і выдаць наступныя тамы "Люду беларускага" — галоўнай працы ўсяго нястомнага жыцця этнографа.

10 чэрвеня 1923 г. Міхала Федароўскага не стала. Калі сын М. Федароўскага Мечыслаў расказаў мне ў 1966 г. як знайсці магілу бацькі на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве, са слязою на вачах і шчырым беларускім піэтэтам да гэтага тытанічнага працаўніка схіляў я галаву перад яго светлай памяццю. Варшаўскае навуковае таварыства на яго магіле ўстанавіла сціплую мармуровую пліту з надпісам: "Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар "Люду беларускага". 1853—1923". Калі я адведаў магілу Міхала Федароўскага, на ёй, нібы прыйшоўшы з беларускіх лясоў, расла буяў куст папараці. Падумалася: знайшоў ты, Міхал Адольфавіч, сваю папараць-кветку, заслужыў у нас пачуццё ўдзячнай памяці! Гэта ён вельмі грунтоўна расказаў свету пра нас беларусаў, наш народ, яго вераванні, казкі і песні, звычаі і абрады, яго вялікую паэтычную душу. Яшчэ раз пакланімся гэтаму чалавеку, скажам яму наша шчырае беларускае дзякуй.

Янка САЛАМЕВІЧ

ГАСЦЁЎНЯ

***Я сустрэлася з гэтым калектывам выпадкова — ідучы ад Купалаўскага сквера да вуліцы Багдановіча. Ля помніка Максіма адбывалася якаясь імпрэза: моладзь чытала вершы, дуэт — юнак з дзяўчынай — пад гітару пранікнёна заспявалі "Васількі". Як было не падысці, не пацікавіцца?***

# «УДВАІХ ПРАЦАВАЦЬ ЦІКАВЕЙ...»



Так Дзень горада стаўся пачаткам майго знаёмства з народным тэатрам педуніверсітэта "Жывое слова".

Заснаваў тэатр у 1966 годзе і 25 год быў яго кіраўніком Андрэй Каляда, чый голас мы не раз чулі па радыё (ён не толькі настаўнік вышэйшай школы, але і прызнаны майстра выразнага чытання). Пры ім адбылося станаўленне калектыву, пры ім тэатр набыў вядомасць і ўрэшце атрымаў званне народнага. А. Каляда і цяпер — настаўнік і старэйшы сябра аматарскага калектыву.

У 1991 годзе, калі першы кіраўнік памяняў месца працы, замену не шукалі далёка: яна вырасла ў самім тэатры. Калектыў узначаліў Юрый Чарэнка, выпускнік факультэта беларускай філалогіі і акцёр народнага тэатра. Ён з жонкай Аленай (якую і запрасіў у тэатр) былі ўдзельнікамі калектыву ў 80-х гадах. Зараз яны працуюць у творчым тандэме. Юрый Валянцінавіч як лідэр больш займаецца арганізацыйнымі справамі, Алена Уладзіміраўна — рэжысёр-пастаноўшчык.

Пытаюся, як яны ўжываюцца на адной сцэнічнай пляцоўцы. "Няма пытання, як ужыцца, бо нам патрэбен вынік, — адказвае Алена. —Мы ўмеем раздзяляць жыццё і творчасць. У працы дапаўняем адзін аднаго, шукаем ісціну разам, часам спрачаемся — і гэта нармальна. Удваіх, па-мойму, працаваць цікавей".

У рабочым пакоі "Жывога слова" вісіць стос пажоўклых афіш, з якіх асобныя напісаны ад рукі. У многіх з іх праходзіць імя Уладзіміра Караткевіча. Любоў да гэтага самабытнага празаіка, паэта, драматурга перадусім і вызначае творчы воблік "Жывога слова". Пастаўлены "Маці ўрагану", пралог да "Леанідаў", спектакль "Містэрыя" па рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". У адной сцэнічнай рабоце спалучаны Караткевіч і Камю ("Ладдзя роспачы" і "Падзенне"). Да "Сівой легенды" звярталіся нават двойчы: існуюць розныя інтэрпрэтацыі твора. Сёлетняй зімой адбыўся прэм'ерны паказ спектакля "Балада" паводле аповесці.

Далей на мае пытанні адказвае Юрый. Цікаўлюся рэпертуарам — дзе бяруць творы для пастановак. — Пакольк мы прыйшлі не на пустое месца, то ў нас ужо быў свой рэпертуарны партфель, свае ўлюбёныя аўтары. Звярталіся да Ж. Амаду, А. Сент-Экзюперы, Л. Петрушэўскай. А то самі артысты штось расшукаюць і прынясуць. З рускай мовы перакладаем, выкарыстоўваем вершаваныя творы. Рабілі тэлеперадачу па творчасці Жылкі, інсцэніроўка "Журавель і чапля" па Максіму Танку з поспехам ідзе ў школах. Вось так і папаўняем сваю скарбонку. Вядома ж, на першым месцы — нацыянальная літаратура. Нагадаю, што "Жывое слова" — тэатр літаратурны.

Гэты акцэнт не быў лішнім. Мне здаецца, што ў "Баладзе" зашмат тэксту, задоўгія маналогі, прысутнічае статыка. Але чулі б вы, як гучаць гэтыя маналогі, як беражліва і паважліва даносіцца да гледача пісьменніцкае слова! У галоўнай ролі, наёмніка Канрада Цхакена, — Алёша Шымановіч, які дасюль выступаў толькі ў эпізодах. Прывяла яго сюды старэйшая сястра, а ён, у сваю чаргу, паклікаў Сяргея Яблонскага (грае ў новым спектаклі "мужыцкага цара" Рамана Ракутовіча).

Трэба сказаць, што фарміруецца калектыў не толькі з навучэнцаў БДПУ імя М. Танка; дзверы тэатра адчынены для ўсіх жадаючых паспрабаваць сябе на сцэне. Антон Гусціновіч вучыцца, напрыклад, у фінансава-эканамічным каледжы (ён бард і кампазітар), Алеся Савохіна і Таня Чыркун прыйшлі з ЕУУ. З мастацкай вучэльні некалькі чалавек... Цэлымі дынастыямі праходзяць праз тэатр будучыя педагогі-філолагі. Па чарзе igралі ў студэнцкім тэатры сёстры Садко з Докшыцкага раёна. Артысткамі былі дзве сястры Савіч, брат Дзімы Зянько тут іграў... А выхаванка тэатра, артыстка першага набору Алена Шац зараз ставіць у тэатры харэаграфічныя нумары.

Што так вабіць сюды маладых людзей, чаму яны рады прывесці з сабой сваякоў, аднакурснікаў, суседзяў? Аматарскі тэатр дае магчымасць самарэалізацыі праз сцэнічнае дзеянне.

Моладзі тут сумаваць не даводзіцца. Рэпетыцыі, канцэрты, спектаклі, фестывалі... Два разы на год — гастрольныя выступленні, улетку — сумесныя вандроўкі. Толькі вярнуліся з Рэспубліканскага фестывалю студэнцкай моладзі ў Брэсце, а ўжо збіраюцца ў Полацк і Віцебск.

— Няма на Віцебшчыне раёна, дзе б мы ні выступалі. Сёлета нас запрасіў туды наш былы артыст Аляксандр Сягоннік. Да выпускніка Сяргея Плескага ездзілі ў Талачын. На гастролях мы аддаём перавагу канцэртам. Бо што такое канцэрт? Шмат гумару, настраёвых песень — і глыбокае, Купалава: "І прыйдзе новых пакаленняў на наша месца грамада"... Мы сур'ёзна ставімся да выбару рэпертуару, на абы-што не кідаемся.

— А як вам удаецца падтрымоўваць беларускасць у тэатры?

— У нас няма двайнога стандарту: мы не толькі ставім спектаклі беларускія, але і праводзім па-беларуску размінкі і трэнінгі. Нават тыя, што ў побыце з мовай не сутыкаюцца, пранікаюцца беларускім духам. У чым мне бачыцца праблема нацыянальнай культуры? Яна, культура, ці занадта элітарная, ці празмерна фальклярызаваная (падчас безгустоўна), але без глебы, трывалага падмурка. А моладзь заўжды была адчувальнай да ўсялякага фальшу... Віцебскія настаўнікі нам казалі пасля аднаго з канцэртаў: "Каб часцей такія калектывы прыязджалі, не было б патрэбы агітаваць за сваё, роднае".

— Так, беларускасць — наша адметнасць, — падкрэслівае Юрый Валянцінавіч. — Мо я і не жадаў бы гэтым быць адметным, але маем тое, што маем, і не збіраемся станавіцца, як усе. Калі б не "Жывое слова", я не займаўся б ніякім іншым тэатрам. Ды і не збіраюся ім займацца да 70-і гадоў. Бо ведаю, пасля 45-і чалавек кепска разумее дваццацігадовых".

Ён любіць вандроўкі на прыродзе — з тэатрам, з жонкай і дзецьмі, адзін. Можа з ранняга да вечара прабыць у лесе, і пры гэтым не будзе адчування адзіноты. Любіць ваду — не столькі купацца, колькі глядзець на яе, слухаць пералівы хваляў. Калісьці Юрый Чарэнка выконваў ролі Каліноўскага ў аднайменным спектаклі і Васіля ў "Людзях на балоце". Не ведаю, якая з іх болей яму пасавала. Ён размаўляе са мной стрымана, годна і менш за ўсё распавядае пра лаўрэацкія дыпломы, прызы — тое, што звычайна завуць дасягненнямі і перамогамі. Тлумачыць: калі глядач прыходзіць у тэатр, то яму без розніцы, якія месцы мы бралі на фестывалях. З гэтым сцвярджэннем цяжка не пагадзіцца. Найбольшы поспех — калі зала ўзрываецца воплескамі, калі сустрэча б'юцца сэрцы артыстаў і гледачоў, калі ўсё новыя пакаленні студэнтаў адкрываюць для сябе 500-ю аўдыторыю педагагічнага ўніверсітэта — маленькую залу тэатра "Жывое слова".

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

*НА ЗДЫМКУ: Юрый і Алена ЧАРЭНКІ са сваім калектывам.*

# ПРЫСВЕЧАНА СЯБРОЎСТВУ І ТВОРЧАМУ СУПРАЦОЎНІЦТВУ

ТВОРЫ
ІГАРА ЛУЧАНКА
У ВЫКАНАННІ АНСАМБЛЯ
"ПЕСНЯРЫ"
ПРОИЗВЕДЕНИЯ
ИГОРЯ ЛУЧЕНКА
В ИСПОЛНЕНИИ АНСАМБЛЯ
"ПЕСНЯРЫ"

Музычны альбом "Произведения Игоря Лученка в исполнении ансамбля "Песняры", які выдалі ў выдавецтве пры "Вучэбна-даследчым унітарным прадпрыемстве інтэлектуальнай маёмасці "РУПІС", прысвечаны сяброўству і творчаму супрацоўніцтву Ігара Лучанка, Уладзіміра Мулявіна і ансамбля "Песняры". Выданне гэтага унікальнага альбома супала з 65-годдзем з дня нараджэння народнага артыста СССР, кампазітара Ігара Лучанка. Можна з упэўненасцю сказаць, што на Беларусі гэта першы альбом, у якім аб'яднаны класічная беларуская музыка, паэзія і творчасць вядомага ва ўсім свеце ансамбля. Альбом ахоплівае 30 гадоў сумеснай працы. Шэраг твораў выдаецца ўпершыню. Кожны твор датаваны, а самае галоўнае — наяўнасць нотнага зборніка кампазітара І. Лучанка ў тым гучанні, у якім яго выконвалі "Песняры" пад кіраўніцтвам У. Мулявіна і два кампакт-дыскі з запісам гэтых песень. У камплект уваходзіць плакат з артыкулам Валерыя Плюскова, а таксама рэдкія фатаграфіі і дыскаграфія кампазітара Ігара Лучанка і ансамбля "Песняры".

Альбом сістэматызаваў і аформіў Андрэй Лучанок. Дызайн зрабіў А. Пушкар. Ідэя аб выданні альбома ў А. Лучанка ўзнікла даўно. Яшчэ ў пачатку 1998 года з мэтай рэстаўрыраваць і захаваць для нашчадкаў старыя фанаграмы. Хочацца адзначыць і тую акалічнасць, што Уладзімір Мулявін адобрыў гэты праект. Аўтар-складальнік альбома А. Лучанок марыць, каб гэтая праца не спынілася на адным альбоме, а каб была серыя пад назвай "Класіка беларускай музыкі і паэзіі", куды ўвойдуць лепшыя беларускія творы ў выкананні нацыянальных кампазітараў, паэтаў, артыстаў.

**Галіна ФАТЫХАВА**

ГАСТРОЛІ

## «КОЛАСАЎЦЫ» Ў ЭДЫНБУРГУ

Нацыянальны тэатр імя Якуба Коласа сёлета зноў быў госцем і ўдзельнікам Эдынбургскага міжнароднага фестывалю мастацтваў.

Гэта адбылося ўжо ў трэці раз па запрашэнні прэзідэнта фестывалю прафесара Рычарда Дэмарка. Летам 2000 года Коласаўскі тэатр атрымаў The First Fringe — прыз за спектакль "Шагал... Шагал" па п'есе У. Драздова ў пастаноўцы В. Баркоўскага. У 2001 годзе тэатр прадстаўляў у Эдынбургу еўрапейскую прэм'еру спектакля "Мадам Боншанс" тых жа аўтараў. І вось цяпер гэта — "Запіскі вар'ята" паводле аповесці М. Гогаля ў выкананні Алеся Лабанка і ў пастаноўцы Антона Грышкевіча.

Спектакль гэты — прызёр шматлікіх міжнародных фестываляў. За даволі працяглую гісторыю свайго існавання ён неаднаразова адзначаўся ў прэсе як значны творчы набытак Коласаўскага тэатра. Алесь Лабанок атрымаў на міжнародным фестывалі "Славянский венец" (Масква, 2001) прыз за лепшую мужчынскую ролю.

"Запіскі вар'ята" — расповед пра дробнага расійскага клерка, які, на самай справе, з'яўляецца сацыяльным аўтсайдэрам. Але ж ён чалавек, у яго ёсць сэрца і мары... Мары, якім ніколі не суджана спраўдзіцца. Кантраст рэальнасці і мрояў і стварае той самы зазор, тую пастку, у якую трапляе бедны розум героя. І тут мроі ажыццяўляюцца і робяцца сапраўднасцю. Ён уяўляе сябе каралём Іспаніі, а вар'яцкі дом прадстаўляецца яму іспанскім каралеўскім дваром. Трагедыя гэта ці камедыя?

А сапраўды: кожны стварае сваю асабістую рэальнасць. І кожны можа ўявіць сябе кім заўгодна ў такой рэальнасці. І тут зусім не дзіцячыя гульні... Магчыма, для сённяшняга чалавека гэта — адзіная магчымасць быць чалавекам? М. Гогаль — папярэднік еўрапейскай літаратуры XX стагоддзя з яе псіхааналізам і рэальнасцямі розных узроўняў. Рэальнасці "Запісак вар'ята" можна супаставіць з рэальнасцямі сучасных камп'ютэрных гульняў.

У Эдынбургу спектакль паказвалі кожны вечар на працягу тыдня з 18 жніўня ў Цэнтры Рычарда Дэмарка.

Няпішне згадаць, што тэатр змог сёлета прыняць удзел у фестывалі дзякуючы дапамозе Віцебскага аблвыканкама і ўвазе да тэатра старшыні аблсавета У. Андрэйчанкі.

**Таццяна КАТОВІЧ**

ВЫСТАВЫ

***На стале прыгожыя букеты. Пунцовыя і белыя ружы, духмяныя ландышы, хрызантэмы. А побач гэтыя нацюрморт можна ўбачыць на яшчэ не закончанай карціне Святланы Катковай.***



## З МАСТАЦКАЙ ДЫНАСТЫІ

Мастачцы гэтыя кветкі падарылі на адкрыцці выставы, прысвечанай яе 60-годдзю. У Палац мастацтваў прыйшлі яе родныя, сябры, калегі, прыхільнікі таленту Святланы Сяргееўны. У экспазіцыі мастачка не абышла ўвагай і сваю любімую тэму — нацюрморт. Але гэта не проста прыгожыя кветкі. У кожным яе творы — частка душы аўтаркі. І таму немагчыма абыякава прайсці міма яе работ. "Абуджэнне", "Чырвоная ружа", "Іспанскі веер"... Цеплынёй, шчырасцю вее ад яе японскага матыву, рымскіх уражанняў. А пейзаж "Зімняя казка" проста зачароўвае, быццам бы пераносіць нас у цудоўную краіну дзяцінства.

Патомная мастачка Святлана Каткова ганарыцца сваім бацькам, педагогам па прызванні, настаўнікам многіх вядомых таленавітых беларускіх мастакоў. Маляваць яна пачала з дзяцінства.

— Мы тады жылі ў бараку ў раёне вакзала, — успамінае Святлана Каткова. — Забяруся туды і малюю. Вядома ж, малявадь мяне ніхто не прымушаў, проста ў мяне было вялікае жаданне. З удзячнасцю магу назваць майго першага настаўніка ў 9-й мінскай жаночай школе — бацьку выдатнай актрысы Стэфаніі Станюты Міхаіла. Дарэчы, яго работы ёсць і ў нашым Нацыянальным мастацкім музеі.

Кім быць, дзяўчынка ведала ад пачатку. А ў Мастацкай вучэльні яе педагогам быў Альгерд Малішэўскі — які ўмеў ствараць у вучняў творчы настрой. Настаўнік па Тэатральна-мастацкім інстытуце, праслаўлены майстар Аляксандр Кішчанка таксама быў незвычайнай асобай. Яна вучылася і жывапісу, і ўжытковаму мастацтву. Любімай тэмай мастачкі заўсёды быў нацюрморт, і гэта невыпадкова.

— Такое захапленне ў мяне ішло ад таты, які вельмі любіў кветкі. Паўплывала і атмасфера ў доме — прыгожы сад...

У яе жыцці нямала было цікавых падарожжаў па родных мясцінах, пленэраў жывапісу, акварэлі. Гэтыя творчыя сустрэчы з калегамі і сумоўе, і вучоба. З узростам яна прыйшла да рэлігійнай тэматыкі. Стварыла цэлую серыю карцін "Троіца", "Ангелы", "Уцёкі ў Егіпет".

Творчасць родапачынальніка мастацкай дынастыі Сяргея Пятровіча Каткова працягвае таленавіты жывапісец, яго дачка Святлана, яе брат Аляксандр — мастак кіно і тэлебачання, дачка Святланы Сяргееўны Зоя Луцэвіч таксама жывапісец, якая многа, плённа працуе, часта выстаўляецца ў сябе на радзіме, у Германіі. А зараз яе выстава адкрылася ў Маскве ў галерэі "Марс". Малое нават унучак Святланы шасцігадовы Ян — дыпламант дзіцячай выставы ЮНЕСКА.

Сама Святлана Сяргееўна бярэ ўдзел у выставах ужо сорак гадоў. З яе творамі знаёмы не толькі ў Беларусі, але і ў Аўстрыі, Венгрыі, Германіі, Расіі, Фінляндыі, Японіі. У 1996 годзе яна разам з дачкой брала ўдзел у персанальнай выставе ў Сафійскім мастацкім музеі. Натхнёна працаваць мастачцы дапамагае і любоў да музыкі. Яе любімыя кампазітары Моцарт, Бетховен, Шнітке. Святлана Каткова называе сябе адналюбам. У яе пастаянныя сябры з юнацтва. А яшчэ ў Святланы адзінае непаўторнае пачуццё — гэта любоў на ўсё жыццё да сваёй прафесіі, любімай справы, якая дапамагае ёй жыць, адчуваць сябе патрэбнай.

**Вера КРОЗ**

*НА ЗДЫМКУ: работа С. Катковай "Кот у інтэр'еры".*






Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП

Рэдакцыйная рада:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-84-61

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.08.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3430

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12